

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі
Серыя «Мінскія маладыя галасы»

Дзяніс Марціновіч

# «Донжуанскі спіс» Караткевіча

*Літаратуразнаўчыя даследаванні і артыкулы*



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «ЧЕТЫРЕ ЧЕТВЕРТИ»
2012

УДК 821.161.1(476)-1
ББК 84(4Беи=Рус)-5
М29

*Серыя заснавана ў 2011 годзе*



**Марціновіч, Д. А.**

М29 «Донжуанскі спіс» Караткевіча : Літаратуразнаўчыя даследаванні і артыкулы/Дзяніс Марціновіч. — Мінск: Выдавецтва «Чатыры чвэрці», 2012. — 114 с. (Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Серыя «Мінскія маладыя галасы»).

ISBN 978-985-7026-43-2.

«Донжуанскі спіс» Караткевіча — першая кніга маладога крытыка і літаратуразнаўцы Дзяніса Марціновіча. Яна складаецца з аднайменнага даследавання, прысвечанага ролі жанчын у творчасці Уладзіміра Караткевіча, класіка беларускай літаратуры. Чытачы даведаюцца, каму быў прысвечаны першы зборнік паэта «Матчына душа», чый сын называў пісьменніка бацькам, а таксама ці існаваў працяг культавага рамана «Каласы пад сярпом тваім». У зборнік таксама ўвайшлі артыкулы па актуальных пытаннях літаратуразнаўства. Выданне адрасуецца ўсім, хто цікавіцца беларускай літаратурай, постаццю Уладзіміра Караткевіча і ўплывам жанчын на творчасць пісьменнікаў.

**УДК 821.161.1(476)-1**
**ББК 84(4Беи=Рус)-5**

**ISBN 978-985-7026-43-2**

# Раздзел I. «Донжуанскі спіс» Караткевіча

## Ад аўтара

Агульнавядома, што большая частка твораў сусветнай літаратуры стваралася мужчынамі. Прызнанне творчых здольнасцяў жанчын (Жорж Санд, Шарлота Брантэ, Маргарэт Мітчэл і іншыя) з'яўляецца хутчэй выключэннем, чым правілам. Але прыхільнікі літаратурнага «патрыярхату» забываюцца, што ўсе лепшыя «мужчынскія» творы былі напісаны пра жанчын і дзеля жанчын. Іх партрэты і вобразы, узаемнае каханне ці халодная абыякавасць натхнялі пісьменнікаў на стварэнне шэдэўраў.

Так, славутых жанчын, якія з'яўляліся музамі ў мінулыя вякі, даўно няма на свеце. А каханыя шэрагу вядомых творцаў XX стагоддзя набліжаюцца да восені свайго жыцця. Але пісьменнікі зрабілі ім самы лепшы падарунак: пакінулі для нашчадкаў іх прыгажосць, пачуцці і ўсмешкі. А таксама ўзялі з сабой у вечнасць гераінь, прататыпамі якіх сталі музы. Цяпер наша задача — пакінуць у чытацкай памяці іх сапраўдныя імёны і жыццёвыя лёсы.

Асобныя часткі «Донжуанскага спіса», а таксама артыкулы, змешчаныя ў другім раздзеле, друкаваліся на старонках штотыднёвіка «Літаратура і Мастацтва», часопісаў «Маладосць» і «Роднае слова». Аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць тагачасным галоўным рэдактарам выданняў Алесю Карлюкевічу, Міхасю Шавыркіну і Раісе Баравіковай за публікацыі,

супрацоўнікам Ціхану Чарнякевічу, Міраславе Шавыркінай і Ігару Запрудскаму — за падрыхтоўку матэрыялаў да друку. Электронныя версіі артыкулаў размяшчаліся на асабістым блогу аўтара denis86.blog.tut.by, некаторыя з'яўляліся на галоўнай старонцы партала tut.by. Вялікі дзякуй яго супрацоўнікам, асабліва — Наталлі Ціплаковай.

Даследаванне ніколі не ажыццявілася б без працы папярэднікаў на ніве караткевічазнаўства і захавальнікаў спадчыны пісьменніка. Аўтар абапіраўся на даследаванні доктара філалагічных навук Адама Мальдзіса і кандыдата філалагічных навук Анатоля Вераб'я. Шэраг матэрыялаў быў знойдзены ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва (дырэктар Ганна Запартыка) і з'явіўся на старонках перыёдыкі ўпершыню.

Шчырае дзякуй кіраўніку Мінскай пісьменніцкай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхасю Пазнякову як за прапанову выдаць кнігу, так і за паспяховую рэалізацыю гэтай ідэі. А родным і блізкім людзям — за натхненне і разуменне.

# Уводзіны, або Навошта нам «Донжуанскі спіс»?

«Донжуанскі спіс»... Якія асацыяцыі ў вас, шаноўны чытач, выклікае гэта словазлучэнне? Мяркую, большасць адразу згадае асобу Аляксандра Пушкіна і доўгі спіс з 37 жаночых іменаў, напісаных паэтам на старонцы альбома яго даўняй знаёмай Лізаветы Ушаковай. Разгадаць таямніцу асоб, якія хаваюцца за кароценькімі запісамі, ужо не адно стагоддзе з пераменным поспехам імкнуцца пушкіністы ўсяго свету.

У чым бачыцца станоўчая роля такога дакумента? Ён прыцягвае ўвагу да асобы аўтара. Дапамагае высвятліць прататыпы герояў у празаічных творах. Удакладніць, хто натхняў паэта на стварэнне таго ці іншага шэдэўра. Пазнаёміць чытачоў з лёсамі жанчын, якіх кахаў вызначаны творца. А таксама вылучыць пэўныя храналагічныя этапы ў пісьменніцкай творчасці. Нездарма сярод мастацтвазнаўцаў ёсць традыцыя вылучаць у біяграфіі некаторых творцаў пэўныя перыяды, якія наўпрост звязаны з іх асабістым жыццём. Напрыклад, менавіта так многія даследчыкі ўспрымаюць творчасць Пабла Пікасо.

Імкненнем вырашыць усе гэтыя задачы і тлумачыцца стварэнне аўтарам гэтых радкоў даследавання пад назвай «Донжуанскі спіс» Караткевіча. Паколькі тэма асабістага жыцця кожнага творцы з'яўляецца надзвычай далікатнай, я карыстаўся двума падыходамі. Першы, «дакументальны», заснаваны на ўспамінах і эпісталярнай спадчыне, якія не выклікаюць ні ў кога пярэчанняў.

Другі падыход можна ўмоўна назваць метадам уважлівага чытання тэксту, калі ўвага звяртаецца на біяграфіі галоўных герояў і іх падабенстве ці супадзенні з жыццёвымі рэаліямі аўтара. Рызыка, вядома, тут надта вялікая: паспрабуй зразумець, што тут праўда, а што праява багатай фантазіі аўтара. Адна памылка можа скіраваць ход даследавання не ў той бок. Такім чынам, другі падыход пераўтвараецца для некаторых аматараў прыгожага пісьменства ў сапраўдную гульню, своеасаблівае разгадванне рэбусаў ці крыжаванак. Адначасова гэта сапраўднае паляванне за прататыпам галоўнага героя ці гераіні з абавязковымі для гэтага жанру элементамі: высочваннямі, засадамі і пагонямі. Каб не заблукаць на такім паляванні, аўтар гэтых радкоў імкнуўся па магчымасці супастаўляць два падыходы.

Заўважым, што «Донжуанскі спіс» Пушкіна складаўся з двух слупкоў. Паводле меркаванняў даследчыкаў, першы з іх уключаў імёны жанчын, якіх паэт кахаў моцна, другі — тых, якімі захапляўся. На маю думку, «Донжуанскі спіс» Караткевіча мусіць выглядаць наступным чынам:

1. «Нонка»
2. Кацярына
3. «Алёнка»
4. С. М.
5. Раіса
6. Ніна
7. Навэла
8. Натэла
9. Валянціна
10. Валянціна

Двукоссе азначае, што дакладнае імя і прозвішча дзяўчыны невядомае, таму ўжываецца імя гераіні, праз вобраз якой яна выведзена ў творах.

На маю думку, «Нонку», «Алёнку», С. М., Ніну і другую з Валянцін трэба аднесці да першага слупка (асобы, якіх Караткевіч моцна кахаў), Кацярыну, Раісу і першую з Валянцін — да другога слупка (асобы, якія падабаліся Караткевічу). Што датычыцца Навэлы і Натэлы — пытанне пакуль што застаецца адкрытым.

Хоць, калі кіравацца храналогіяй, паслядоўнасць «Донжуанскага спіса» павінна быць наступнай: «Алёнка» — «Нонка» — Кацярына — С. М. — «Алёнка» — С. М. — Ніна — Натэла, Навэла (час сустрэч з гэтымі асобамі не зусім зразумелы) — першая Валянціна — Ніна — другая Валянціна.

Зразумела, той-сёй з чытачоў можа абвінаваціць аўтара гэтых радкоў у празмерным інтарэсе да асабістага жыцця пісьменніка. Шэраг аргументаў на карысць такога даследавання быў агучаны вышэй. Акрамя таго дадам, што большая частка дакументаў, якія будуць цытавацца, ужо даступная чытачу. Астатнія будуць апублікаваны ў зборы твораў Караткевіча ў 25 тамах, што пачне выходзіць з 2012 года.

Такім чынам, запрашаю чытачоў у падарожжа па «Донжуанскім спісе».

# Частка 1.

## У Кіеве ды Оршы

Асобы дзяўчат, якіх кахаў Караткевіч у гады юнацтва і маладосці (у «Спісе» яны хаваюцца пад нумарамі 1, 3 і 4), нам дапамогуць расшыфраваць два лісты пісьменніка адпраўленыя Уладзімірам у студзені 1955 года і лютым 1957-га свайму сябру Юрыю Гальперыну. У іх Караткевіч згадвае пра тры гісторыі кахання. У лісце ад 27 студзеня 1955 года ён пісаў: *«Скоро там Стась и Валька* (сябры пісьменніка па Оршы. — **Д. М.**) *поженятся? Повезло им. А я вот никак не могу отыскать такую девушку, чтоб решиться потерять свободу. Были три. Из них одна уехала, 2я — не любила меня (а может, и да, но получилась какая-то ерунда), об этой истории Валька хорошо знает, мы с ним дружить начали из-за ссоры по этому поводу; 3я — э да ладно, чего толковать. Пока что жениться не на ком»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 11. Л. 6 адв.). Больш падрабязная інфармацыя змешчана ў лісце ад 5 лютага 1957 года: «*Я дважды любил взаимно — адна уехала, другая — умерла, и я не знал обеих так, как желал. А в других случаях те, кто любили меня, были мне безразличны, а те, которых любил я, наверное, не любили меня. И была одна в Киеве»*. Паспрабуем разабрацца ў асобах людзей, пра якіх вядзецца гаворка.

## «Нонка»

Дзяўчына з такім імем (Нонка Юніцкая) з'яўляецца галоўнай гераіняй аповесці

У. Караткевіча «Лісце каштанаў». Сябры і знаёмыя, якія добра ведалі пісьменніка, аднагалосна сцвярджалі пра аўтабіяграфічны характар твора. Даследчык Анатоль Верабей пісаў у сваім даследаванні «Абуджаная памяць», што аповесць з'яўлялася адным з яго *«самых аўтабіяграфічных твораў»*. Васіль Быкаў адзначаў у прадмове да двухтомніка Караткевіча: *«Гэта адзін з самых аўтабіяграфічных твораў пісьменніка, напісаны на матэрыяле першых пасляваенных гадоў, праведзеных ім у Кіеве. Дакладна і лёгка выпісаныя вобразы юнакоў і дзяўчат вялікага горада з яго нялёгкім пасляваенным бытам грунтуюцца на пэўных прататыпах, і нават трагічны фінал аповесці ўзяты з жыцця, пабудаваны на аснове канкрэтнага факта»*. На карысць гэтага сведчыць і шэраг супадзенняў паміж біяграфіямі аўтара і героя.

Напрыклад, у аўтабіяграфіі «Дарога, якую прайшоў» Караткевіч пісаў: «*А потым пачалася вайна. Бамбёжкі. Эшалоны. Пачуццё бездапаможнасці падлетка, (…). Бунтаваў супраць гэтага пачуцця. Некалькі разоў уцякаў з інтэрната на фронт. Затрымлівалі, вядома. А з інтэрната таму, што здарылася звычайная на вайне рэч: доўгі час не ведаў, дзе бацькі і ці жывыя яны наогул, а калі жывыя, то дзе, за лініяй фронту або паспелі эвакуіравацца. Быў спачатку ў Маскве, потым на Разаншчыне. Пасля давялося ўцякаць і адтуль. На Урал, у ваваколле Кунгура. Выпадкова даведаўся, што бацькі ў Арэнбургу. З вялікімі цяжкасцямі (без пропуска і білета) дабраўся да іх. У Арэнбургу скончыў шосты клас. Потым нядаўна вызвалены Кіеў (Беларусь яшчэ была акупіраваная)*». А вось урывак з аповесці «Лісце каштанаў»: «*Інтэрнат на Урале, некалькі беспаспяховых уцёкаў. Урэшце, уцёк зусім і некалькі месяцаў беспрытульнічаў. Краў, што*

*праўда, толькі ў чужых гародах. Даходзіла да таго, што пасвіў у паўночным Казахстане вярблюдаў — хочаце — верце, хочаце — не. Дзівам адшукаў бацькоў. (...). Пасля былі вызвалены два невялічкія лапікі Беларусі, і «продка» майго паслалі на вызваленую тэрыторыю, некуды пад Лёзна. (...). Якраз у гэты момант праязджаў праз наш горад мой дзядзька, якога перавялі з Далёкага Усходу на фронт, і ўзяў нас з сабою ў вялікі паўдзённы горад, ад якога немцы адкаціліся куды далей, чым ад Лёзна*». Заўважым, колькі ў абедзвюх цытатах агульнага! Значыцца, асноўныя падзеі аповесці былі ўзяты з жыцця.

Адной з сюжэтных ліній «Лісця каштанаў» з'яўляецца каханне паміж галоўным героем Васількам Стасевічам і Нонкай Юніцкай. У творы яе партрэт выглядае наступным чынам: *«Дзяўчо год пятнаццаці. Схілілася, пачэсваючы вельмі доўгія, падрапаныя ногі шакаладнага колеру, пасля пацёрла каленкам аб каленка, ускінула галаву — чорна-бурыя валасы цяжкай хваляй шыбанулі назад — і ўсміхнулася мне, і я ўбачыў цёмна-сінія вочы з ненатуральна велічэзнымі, па-вар'яцку вясёлымі чорнымі зрэнкамі»*. (...). Пра гаворку гераіні Караткевіч пісаў: *«Гэта быў той паўдзённы жаргон, на якім гамоняць вялікія чарнаморскія партовыя гарады. Я не маю ні сілы, ні ўмення, ні, шчыра кажучы, жадання перадаваць усе гэтыя тропы, ідыёмы, усю безліч жывых інтанацый. Ды гэта і немагчыма, таму што больш за словы гралі тут паўдзённыя жэсты, міміка, рухі ўсяго цела. Гэта было — жах як «па-малдаванску» і дзіўна, жах як прыгожа. Дый тып яе, калі разабрацца, быў дзіўны. Тут табе і ўкраінская, і малдаўская, а можа, і кропля цыганскай крыві»*.

Чаму аўтар гэтых радкоў упэўнены, што ў Нонкі быў рэальны прататып? У абодвух лістах, якія

цытаваліся вышэй, фігуруе дзяўчына, якая з'ехала («*Из них одна уехала*», «*одна уехала*»). Для аповесці характэрны менавіта такі фінал. Нонка і Васіль цудам застаюцца жывымі (астатнія героі з іх кампаніі падрываюцца на мінах: яны шукалі зброю, каб збегчы на фронт) і з'язджаюць з Кіева. Мяркую, тое ж адбылося з іх прататыпамі. Караткевіч, як вядома, выправіўся ў Оршу, рэальная Нонка з'ехала ў невядомым для нас кірунку. Калі б дзяўчына засталася ў горадзе, яна магла б сустрэцца з Уладзімірам падчас навучання таго ў Кіеўскім універсітэце. Дарэчы, на маю думку, адной з прычын паступлення туды будучага пісьменніка магло стаць жаданне адшукаць рэальную Нонку. Бо яна магла вярнуцца ў горад свайго юнацтва.

Для аб'ектыўнасці заўважу, што ў эпілогу твора героі сустракаюцца праз гады ў Кіеве і бяруць шлюб. Але хутчэй за ўсё, ён быў прыдуманы, а пісьменнік і дзяўчына, якая стала пратапыпам Нонкі, ніколі больш не ўбачыліся. Перыяд узаемаадносін будучага пісьменніка з дзяўчынай можна датаваць 1944 годам, калі ён жыў у цёткі ў Кіеве.

## Кацярына

Вярнуўшыся ў Оршу пасля вайны, Караткевіч пайшоў у 8-ы клас мясцовай школы № 1. Літаратуру ў яго выкладала Кацярына Іванаўна Грыневіч, якой на той час споўнілася 28 гадоў. Разам з вучнямі яна выпускала рукапісны літаратурны альманах, дзе друкаваўся Уладзімір, а таксама арганізавала драматычны гурток. Адной з пастановак стаў «Рэвізор», у якім будучы пісьменнік выканаў ролю Добчынскага.

Як узгадваў Леанід Крыгман, аднакласнік Караткевіча, *«усе юнакі нашага класа былі закаханыя ў нашу настаўніцу літаратуры. Але наймацней Валодзя. Аднойчы мы з Юрыкам (*Юрый Падва — іх аднакласнік. — **Д. М.**) *залезлі на адрын, дзе Валодзя звычайна пісаў і хаваў свае творы. Мы знайшлі яго сшытак з вершамі і ўзялі яго. Там былі рамантычныя вершы, прысвечаныя Кацярыне Іванаўне. Справа амаль дайшла да бойкі, калі Валодзя даведаўся аб крадзяжу. Ён не размаўляў з намі цэлы месяц. Але потым мы зноў сталі неразлучнымі сябрамі»*.

Мяркую, тут можна казаць хутчэй пра юначае захапленне, чым каханне. Аднак той жа Пушкін без ваганняў уключыў у свой «Донжуанскі спіс» жонку Мікалая Карамзіна. Таму мяркую, што імя Кацярыны Іванаўны таксама мусіць быць унесена ў «спіс». Паводле сведчанняў Л. Крыгмана, Караткевіч перапісваўся са сваёй настаўніцай да канца жыцця. У пачатку 1990-х гадоў Кацярына Іванаўна жыла ў Кастрамской вобласці. Далейшы яе лёс, а таксама іншыя падрабязнасці біяграфіі пакуль што застаюцца невядомымі.

## «Алёнка»

Дзяўчына, якую клікалі Алёнка, дзейнічае адразу ў двух празаічных творах Караткевіча. Гэта аповесць «У снягах драмае вясна» і раман «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі»). У гэтай частцы гаворка пойдзе толькі пра Алёнку з рамана (прычыны будуць патлумачаны ніжэй).

Згодна з сюжэтам твора, галоўны герой Андрэй Грынкевіч быў знаёмы з Алёнкай Століч яшчэ

ў дзяцінстве. Потым яны вельмі доўга не бачыліся і сустрэліся ўжо маладымі людзьмі. Закахаліся і вырашылі ўзяць шлюб. Але іх шчасце было нядоўгім, бо дзяўчына загінула ў аўтамабільнай катастрофе.

У паэме «Плошча Маякоўскага», што была ўключана ў раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі», Караткевіч пісаў:

*«Любая, ты памятаеш, была вясна.*
*Вясна на гэтай зямлі?*
*Проста ў машыну ляцела сасна*
*У неба ўзняўшы крылы галін».*

Пэўны час я лічыў такі сюжэтны паварот твора літаратурным прыёмам, які абгрунтоўваў, чаму Грынкевіч да сустрэчы з маскоўскай выкладчыцай Ірынай Горавай жыў «як у сне» і нікога не кахаў. Тым больш жахліва было ўбачыць радок у лісце Караткевіча да Янкі Брыля ад 29 лютага 1960 года: «*Ведаеце, мне ніколі не шанцавала з вялікім каханнем. (…). Два разы прыйшло да мяне сапраўднае. І аднойчы яно загінула падчас аўтакатастрофы на шашы Мінск — Орша*».

А цяпер звернемся да двух лістоў Караткевіча, адрасаваных Ю. Гальперыну. На першы погляд там змешчана супярэчлівая інфармацыя. У першым лісце — абставіны цяжказразумелыя: *«2я — не любила меня (а может, и да, но получилась какая-то ерунда), об этой истории Валька хорошо знает, мы с ним дружить начали из-за ссоры по этому поводу»*. У другім лісце сцвярджаецца, што дзяўчына памерла. Але пры далейшым аналізе ўсё становіцца зра-

зумела. Згадка пра аршанскага сябра пісьменніка Валянціна Краўца сведчыць, што гэта гісторыя звязана з Оршай. У свой час бард Зміцер Бартосік запісаў успаміны В. Краўца для адной з радыёперадач. Дык вось, паводле слоў вядучага, сяброў *«звёў выпадак. Сам таго не ведаючы, Валянцін Кравец стаў супернікам Караткевіча ў любоўным трохкутніку. Аднойчы Валянцін праводзіў дахаты ўпадабаную дзяўчыну, у якую, як высветлілася пазней, быў закаханы і Уладзімір».* Як узгадваў Крывец, *«і адным цудоўным вечарам я ішоў, а з Воўкам мы былі амаль ворагамі, мы не размаўлялі, два супернікі. А калі я аказаўся кінуты, я ішоў паўз дом Валодзі Караткевіча, а домік у іх быў невялікі, драўляны домік. Там ляжала вялікае бервяно, на якім сядзеў Валодзька і чагосьці думаў. Праходзячы міма, я спытаў: «У тебя спички есть?» Ён кажа: «Есть». Я падышоў, закурылі. Слова за слова, і пачалі мы… «Што такое «Я»? Вядомае філасофскае пытанне. І мы прагаварылі з ім некалькі гадзінаў. Я яму паведаміў пра сваё няшчасце. Карацей, з гэтага моманту пачалася наша дружба».*

Што датычыцца рознай інфармацыі ў двух лістах, дык на момант напісання першага з іх (1955 год) Караткевіч даўно не бачыўся з «Алёнкай». На момант другога (1957 год) дзяўчына загінула. Паколькі фінал гісторыі, апісанай у рамане, адпавядае рэчаіснасці, можна прызнаць верагоднымі і іншыя падзеі, што апісваюцца ў творы.

Цікава, што дзяўчына Алёнка згадваецца яшчэ ў адным вершы Караткевіча: «Балада аб нашэсцях», змешчаным у зборніку «Мая Іліяда». У творы расказваецца пра дзяўчыну з Прыдняпроўя, якую захопнікі прынеслі ў ахвяру. Застаецца толькі здагадвацца, ці мае гэты вобраз сувязь з рэальнай Алёнкай.

На маю думку, узаемаадносіны будучага пісьменніка з гэтай дзяўчынай неабходна падзяліць на два перыяды. Пачатак першага невядомы. Яго фінал варта абмежаваць як мінімум 1949 годам (час ад'езду на вучобу ў Кіеў), а як максімум — 1941-м (у выпадку, калі сяброўскія адносіны доўжыліся да вайны). Другі меў месца ў 1955–1956-х гадах.

## С. М.

У трэцяй гераіні «Донжуанскага спіса» атрымалася адшукаць ініцыялы. Дзяўчыну клікалі С. М. Зрэшты, пра ўсё па парадку.

Маё знаёмства з вобразам гэтай гераіні ўпершыню адбылося на старонках аповесці «У снягах драмае вясна», напісанай у 1957 годзе. Сястра Караткевіча знайшла яе ў пісьменніцкім архіве ў Оршы перад самай смерцю Уладзіміра Сямёнавіча. Для таго часу аповесць была занадта смелай рэччу, якая рашуча асуджала праявы сталіншчыны ў грамадскім жыцці, таму пры жыцці пісьменніка яна не друкавалася. Сюжэт твора коратка можна акрэсліць так. Студэнт Уладзіслаў Берасневіч пакахаў дзяўчыну Алёнку. Яна адказала ўзаемнасцю на ягонае пачуццё. Перад Уладзіславам адкрываліся перспектывы навуковай кар'еры: ён быў адзін з рэальных кандыдатаў на залічэнне ў аспірантуру. Але кар'ерыст Маркіч наладзіў супраць Берасневіча паказальны працэс з традыцыйнымі для таго часу абвінавачваннямі (ішоў 1952 год). Паверыўшы ў падман, Алёнка адракласяад свайго каханага, а той быў вымушаны

пакінуць універсітэт і з'ехаць настаўнікам у вёску. І толькі праз некалькі гадоў Берасневіч сустракаецца з Алёнкай. Яны разумеюць, што іх каханне не згасла, і дамаўляюцца сустрэцца зноў, каб, магчыма, не развітвацца ўжо ніколі.

Наколькі адпавядае рэчаіснасці гэты сюжэт? Зноў звернемся да лістоў Караткевіча, адрасаваных Ю. Гальперыну. У першым з іх сітуацыя неакрэсленая: «*З[я] — э да ладно, чего толковать*». А вось другі ліст расстаўляе ўсе кропкі над «і»: «*И была одна в Киеве. (…). Ну я знаю, для других она другая, а для меня* ***та самая*** (вылучана Караткевічам. — **Д. М.**). *Она была моим хорошим другом. (…). Мать у нее строгая была, хотела для единственной дочери самого лучшего, будь я аспирантом — и разговору бы не было бы. А я обострил со всеми отношения, высек стихами многих начальников из университета. Я не жалею, но не стоили они такой моей жертвы. (…). А тут еще помог друг и догадался пустить между нами черную кошку. И была обидчивость, и была космическая, невероятная, страшная глупость. Почему не остался, почему не убедил, почему? Ждал все, вот явлюсь и брошу книгу. (…). И вот сегодня получаю письмо от ее подруги и там «узаконили свои взаимоотношения С. М. (это она) и Миша»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. л. 4, 4 адв.).

У тым жа лютым 1957 года Караткевіч яшчэ раз расказаў гэту гісторыю свайму сябру: *«Ещё в университете был влюблен в чудеснейшего человека. Это была короткая история: кончилась тем, что нам насплетничали один на одного, было много неприятного, трагического. Ей было тем легче отвернуться от меня, что о моем отношении к ней она не знала, в лучшем случае могла догадываться»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 8, 8 адв.).

Фактычна працытаваныя моманты цалкам паўтараюць сюжэт, увасоблены Уладзімірам Сямёнавічам у аповесці «У снягах драмае вясна» і паўтораную ў лістах. Гісторыя кахання Караткевіча і С. М. знайшла сваё адлюстраванне і ў паэзіі. Будзе вельмі дарэчы прыгадаць зборнік паэзіі «Матчына душа», старонкі якога літаральна прасякнуты каханнем. Па волі паэта гэтыя творы сабраліся на апошніх старонках кнігі:

*Але затое так яскрава бачу:*
*Пакой, Чайкоўскі хмуры на сцяне,*
*Раяль пра нешта дарагое плача*
*І прывіды каштанаў у акне.*
*(…)*
*Ёсць дробязі, што поўныя значэння:*
*Каханне першае растопіць лёд*
*І нават палавік у цёмных сенях*
*Век памятны, як казкі першых год.*

*Мо толькі для таго яно прыходзіць,*
*Каб мы запамяталі на вякі,*
*Як пахнуць рыбаю начныя воды,*
*Як у траве мігаюць светлякі.*
(«Зімняя элегія»).

Чым не сувязь працытаваных музычна-паэтычных фрагментаў з аповесцю, з іншымі празаічнымі фрагментамі? Тым больш што Алёнка сур'ёзна займалася музыкай у кансерваторыі.

Гісторыю свайго кахання Караткевіч памятаў усё жыццё. Нездарма ў кнізе «Быў. Ёсць. Буду», над якой пісьменнік працаваў у свае апошнія гады, змешчаны верш «Юнацтва маё»:

*О юнацтва маё! Як забуду цябе?*
*І догмы, навука, тлум…*
*«Piramus et Thisbe…*
*Piramus et Thisbe…*
*Piramus et Thisbe*
*Iuvenum…»*
*Як забуду?*
*Завея акацый мяла*
*Квецень на вулках крывых.*
*Ты была, мая Цізба, была, была,*
*Пажаданая больш за ўсіх.*
*Радасны боль, нясцерпны, як шкло*
*Між сэрцам маім і тваім…*
*І ніколі такога ні з кім не было*
*І не будзе ніколі ні з кім.*
*І развёў нас не леў і не востры кінжал,*
*Не вакзалаў далёкіх агні,*
*А гады пакут і няшчырых пахвал,*
*Даносаў і брыдкай хлусні.*
*І ведаў паклёп, як сэрца крануць,*
*І нас аддзяліў сцяной,*
*І паверыла ты, і змяніла вясну*
*На шаўкі, што знасіла даўно.*
*Але сэрца не можа забыць пра замах,*
*Сэрца поўнае да краёў…*
*Будзь праклятым, юнацтва маё, ў вяках!*
*Будзь праклятым, юнацтва маё!*
*Будзь праклятым!*
*Каштаны квітнелі вясной,*
*Хаваў нас бэзавы дым,*
*І былі мы з ёю — адно, адно,*
*І ніколі не будзем адным.*

*Што ж, не плачу.*
*Паэзіі горды прытон,*
*І радок, што сталлю звініць, —*
*Ўсё адкуў я на горне юнацтва майго,*
*На яго пакутным агні.*
*І праўды зніч, і подласці дым,*
*І сілу мужную жыць,*
*І тое, што веру ў сэрцы маім*
*Нават смерць не можа забіць.*
*І руку дагэтуль помніць рука.*
*Сэрца помніць шчасце баёў…*
*Благаславёна юнацтва маё ў вяках,*
*Благаславёна юнацтва маё.*

Чым закончыліся ўзаемаадносіны Караткевіча і дзяўчыны? Як высвятляецца, у іх быў шанец усё пачаць спачатку. У працытаваным вышэй лісце, напісаным Ю. Гальперыну ў лютым 1957 года, Караткевіча пісаў: «*Недавно мы снова начали переписываться. Потом, при встрече я убедился, что она меня любит. А я, как дурень какой-то, не мог разобраться в своих чувствах к ней. То временами оживало на душе старое, потом вдруг приходило охлаждение, смешанное с чувством старой обиды. И это при самом теплом, самом дружеском отношении к ней как к человеку. К тому же примешивалось сознание, что я с низов лестницы, а она с верхов, что мне еще пробиваться и пробиваться к тому моменту, когда я смогу спокойно писать, не заниматься другой работой*» (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 8, 8 адв.). Атрымліваецца, што фінал аповесці «У снягах драмае вясна» адпавядаў рэчаіснасці?

Тыя ж звесткі сустракаюцца ў вершы «Размова з Кіева-Пячэрскім сланом», змешчаным ў зборніку

«Матчына душа». Лірычны герой радасна паведамляе слану, сімвалу кіеўскага жыцця, што *«мне яна напісала ліст // У сэрцы зноўку парасткі даўніх надзей»*. Зборнік быў выдадзены ў 1958 годзе. Відавочна, што ліст быў атрыманы за год ці два да таго. Чым не сувязь з падзеямі, апісанымі ў лісце за люты 1957 года? Можа, гэта і стала эмацыйным штуршком для напісання апошніх, аптымістычных раздзелаў аповесці «У снягах драмае вясна»? Твор быў завершаны якраз у той час, у ноч на 28 мая 1957 года.

Падзеі, расказаныя ў лісце, знайшлі сваё адлюстраванне ў апавяданні «Ідылія ў духу Вато». Гэты твор быў змешчаны ў самым першым празаічным зборніку Караткевіча — «Блакіт і золата дня». Прапаную паслухаць гісторыю жыцця героя апавядання ў яго размове з галоўнай гераіняй: «*Шэсць… не, нават дзевяць гадоў мы не бачыліся, — спытала яна. Так. З пяцьдзесят першага*». Адлегласць ад 1952 года — часу дзеяння аповесці «У снягах драмае вясна» — ніякая, яе амаль няма.

*«– Ты развялася?*

*— З кім?*

*— З Барысам.*

*— Каб развесціся, трэба спачатку выйсці замуж, — сказала яна».*

А ў аповесці «У снягах драмае вясна» мы прачытаем нешта падобнае:

*«– Справа ў тым, што ты недачуў… Я не замужам… І, напэўна, ніколі не буду».*

І зноў-такі. Падобнасць сюжэта проста фантастычная. А цяпер, каб канчаткова пераканаць цябе, чытач, прапаную наступныя цытаты: *«Я даведалася, што яны ўзвялі на цябе паклёп, што гэта яны выжылі цябе з універсітэта. (…). Гэта была вялізная подласць:*

*наклеіць на цябе, такога добрага да людзей, той паршывы ярлык. Але ж ты памятаеш, які быў час? І я адхіснулася ад цябе, паверыла.»* (Абедзве цытаты з «Ідыліі».)

Гісторыя ўзаемаадносін Караткевіча і С. М. закончылася ў 1957 годзе. У цытаваным вышэй лісце, датаваным лютым месяцам, Уладзімір Сямёнавіч пісаў Юрыю Гальперыну: *«Была и еще одна причина, вследствие которой я молчал: ужасно угнетенное состояние. Ты знаешь, гораздо легче получить отставку от девушки, чем дать ее самому. Получить отставку в сравнении со вторым прямо радость, особенно для поэта. Из этого терзания душевного рождаются лучшие вещи. А вот когда наоборот получается, это до такой степени гадко, что страх один».* І ніжэй: *«Какое я имею моральное право сказать ей «да», если сам еще не знаю, «да» или «нет» и, скорее всего, «нет»? Скверно, брат, и гадко на душе, очень гадко, тем более что чувствую, могу испортить ей жизнь»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 8, 8 адв.). *«И все же, я почему-то не верю»*, — напісаў пісьменнік 23 лютага (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 7). Хутчэй за ўсё, неўзабаве пасля гэтага жыццёвыя шляхі Уладзіміра і С. М. канчаткова разышліся. Такім чынам, узаемаадносіны паміж імі мелі месца ў прамежку 1952–1954 гг. (дзеянне ў аповесці «У снягах драмае вясна» пачынаецца *«ў канцы лютага тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят другога года»*), а таксама на мяжы 1956/ 1957–1957 гадоў.

Тым не менш хацеў бы прапанаваць чытачам адну версію, якая датычыцца далейшых стасункаў герояў. У маі 1962 года Караткевіч напісаў верш «Мёртвае рэчышча»:

*Мне сказалі: мяне ты шукаеш,*
*Зноў шукаеш — пасля ўсяго, —*

*Плынь рачная, калісьці жывая,*
*Што пазбылася ложа свайго.*
*Усё дарэмна: пратокі-песні*
*Абмялелі пад рэзкай травой.*
*Я не Лазар, я не ўваскрэсну,*
*Нават голас пачуўшы твой.*
*Ні твой заклік, калісьці любы,*
*Ні пяшчотны дотык рукі,*
*Ні ад смагі пасохлыя губы*
*Не абудзяць вялікай ракі.*

На мой суб'ектыўны погляд, гэтыя радкі прысвечаныя якраз С. М. Чаму? Усе наступныя гераіні «спіса», узаемаадносіны з якімі мелі месца да 1962 года, у той перыяд жылі ў Маскве. Таму ў іх не было неабходнасці шукаць пісьменніка. Што датычыцца Ніны, пра якую пойдзе гаворка далей, стасункі паміж ёй і Караткевічам адбываліся і ў наступным годзе, таму логікі ў пошуку з яе боку няма. Паколькі «Нонка» з'ехала, а «Алёнка» загінула, найбольш верагодным прататыпам галоўнай гераіні верша можна лічыць С. М. Акрамя таго верш мог адлюстраваць сітуацыю, увасобленную ў апавяданні «Індыя ў духу Вато».

У гэтай гісторыі нам трэба адказаць яшчэ на два пытанні. Па-першае, чаму дзяўчына, якую клікалі Алёнка, дзейнічае адразу ў двух празаічных творах Караткевіча: аповесці «У снягах драмае вясна» і рамане «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца да Зямлі»)? Першапачаткова я лічыў, што гаворка ідзе пра адну і тую ж асобу. Падставы для такога меркавання даў сам аўтар, бо пры параўнанні твораў мне кінулася ў вочы некалькі надзвычай ха-

рактэрных дэталяў, якія настойліва паўтараюцца ў абодвух творах. Напрыклад, у абодвух творах галоўны герой ідзе з дзяўчынай у парк. Далей: *«І яны, не дамаўляючыся, уцяклі ад усіх астатніх»*, — гэта з аповесці; *«Увечары яны ўцяклі ад кампаніі, з якой прыйшлі ў парк»*, — гэта ў «Леанідах...».

Або наступны ўрывак: *«Гэта была звычайная рыбалка, з якой не прывозяць рыбы, але затое прывозяць загарэлыя рукі, мазалі на далонях і добры настрой»* («У снягах драмае вясна»). *«Неяк вечарам… яны, тры хлопцы і чатыры дзяўчыны паехалі на чаўне за Дняпро, лавіць рыбу. Не да рыбы, вядома, там было. Але затое… колькі там было жартаў і смеху!»* («Леаніды…»). Акрамя таго дадам, што ў аповесці героі таксама едуць разам з кампаніяй, таксама на чоўне (праўда, у апавяданні на двух чоўнах) і таксама на Дняпро!

У абодвух творах галоўны герой расказвае казку (*«Штрафую за гэта цябе, Уладзік, на якую-небудзь казку»*— у адным творы; і *«Андрэй, казку»*— у другім), ды не абы-якую, а менавіта пра вужыную каралеву. І там, і там! І далей эпізод з усё той жа рыбалкі. «У снягах драмае вясна» кажа нам пра наступнае: «*Яны адышлі берагам… і зараз павольна плылі да затокі… Цёмна-блакітная вада, і ў гэтай вадзе светла-блакітныя рукі Алёнкі. Яна плыве нявольным брасам. Вось ён дагнаў яе»*. А цяпер «Леаніды…»: *«Алёнка асцярожна зайшла ў ваду і паплыла. Плыла брасам, прыўзняўшы над паверхняй закінутую галоўку. Ён плыў поруч…»*

Тым не менш перад намі дзве зусім розныя асобы. На маю думку, эпізоды, узноўленыя пісьменнікам, адбыліся з кіеўскай «Алёнкай», бо аповесць была напісана раней, чым раман. Чаму ж Караткевіч дазволіў запазычванні ў самога сябе?

На маю думку, прычына бачыцца ў тым, што аўтар не рызыкнуў друкаваць «У снягах драмае вясна» пры жыцці. А таму вырашыў скарыстацца асобнымі фрагментамі ў новым творы. Тым больш, што расказаная гісторыя працягвала хваляваць яго.

Другое пытанне датычыцца асобы, якая хаваецца пад ініцыяламі С. М. Акрамя згадкі ў лісце, на карысць гэтай дзяўчыны сведчаць наступныя факты. Верш «Матчына душа», які даў назву першай кнізе Караткевіча, відаць, пачаў пісацца ў ліпені 1954 года. Бо менавіта гэтым часам датуецца аўтограф на рускай мове «Ты теперь у теплого моря» с прысвячэннем загадкавай «С. М.-к.», які знаходзіцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У БелДАМЛМ знаходзіцца беларускамоўны аўтограф пад назвай «Прадмова да песні. Прысвячаю С. М.», які датуецца прыкладна 1955 годам.

Ці не хаваецца пад абрэвіятурай «С. М.» Муза Сняжко, аднакурсніца Караткевіча па Кіеўскім універсітэце? Цяпер можна ўпэўнена сказаць, што не. Нават калі пакінуць убаку ўскосныя акалічнасці (неадпаведнасць першаму скарачэнню — «С. М.-к.», а таксама традыцыя спярша скарачаць імя, а не прозвішча: Муза Сняжко, а не Сняжко Муза), застаецца галоўны аргумент: пасля заканчэння ўніверсітэта Муза Яўгенаўна некаторы час працавала ва Украіне, а потым перабралася разам з мужам Эрыкам Іванавічам у Архангельскую вобласць. Потым вярнулася на Радзіму, дзе шчасліва жыве і дагэтуль. Нагадаю, што абранніка С. М. клікалі Міхаіл.

На жаль, пакуль што няма пэўнай інфармацыі, якая б дазволіла дакладна ідэнтыфікаваць асо-

бу дзяўчыны, якую кахаў Караткевіч. Найбольш просты шлях — знайсці спісы выпускнікоў, якія ў сярэдзіне 1950-х гадоў закончылі кіеўскія ВНУ, і суаднесці іх з дзвюма прыведзенымі абрэвіятурамі. Магчыма, загадкавую дзяўчыну клікалі Святлана — менавіта такі чалавек узгадваецца ў адным з лістоў Караткевіча да Гальперына (БДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 11. Л. 13). Будзем спадзявацца, што збор дакладных звестак застанецца справай часу.

Як жа ацэньваў ролю С. М. у сваім лёсе сам пісьменнік? 23 лютага 1957 года ён пісаў Ю. Гальперыну: *«Я всё же благословляю эту вздорную и, возможно, чужую мне по взглядам девочку. Что в нас было двоих такое, что редко светит друг другу в мужчине и женщине. Ну ты сам понимаешь, мог бы я на Марсе, она в XIII веке. Нет, встретились; оказывается, встретиться это ещё не все»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 13. Л. 7).

С. М. вельмі моцна паўплывала на творчы лёс пісьменніка. Так, ён пісаў і раней. Здольнасці, якія потым перараслі ў талент, праявіліся ў яго яшчэ ў дзяцінстве. Але мяркую, што менавіта тыя рамантычныя пачуцці і перажыванні, узрушэнні і тое нешчаслівае каханне сталі аднымі з фактараў, якія прывялі Караткевіча ў літаратуру. Ды і пісаць свой першы сур'ёзны твор «У снягах драмае вясна» ён пачаў не толькі, каб увасобіць атмасферу часу, але і для таго, каб зноў перажыць былыя пачуцці.

На першы погляд можа падацца, што ў гісторыі літаратуры С. М. хоць і застанецца, але не як гераіня першага плана. Так, менавіта яе вобраз паўплываў на агульную танальнасць зборніка «Матчына душа», якому ўласцівы элегічнасць і свет-

лы сум (тады як у наступным зборніку, «Вячэрнія ветразі», яны саступаюць месца трагізму і надрыву). Але калі звярнуцца да прозы, дык сапраўды, «Ідылія ў духу Вато» — усяго толькі адно з апавяданняў нашага класіка. «Леаніды...» — таленавіта напісаны раман, але па сваёй значнасці ён усё ж такі саступае такім творчым дасягненням аўтара, як «Каласы пад сярпом тваім» і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». «У снягах драмае вясна» — першы твор Караткевіча, прадвесне яго вядомасці і славы. Але толькі прадвесне. А ў літаратуры, на жаль, застаюцца толькі адзінкавыя шэдэўры.

А цяпер у сваіх разважаннях мы адыдзем крыху ўбок. Напэўна, яшчэ са школьных часоў нам вядома, які ўплыў аказала Марыя Раеўская (будучая Валконская) на рускага пісьменніка Пушкіна. Навукоўцы не пакінулі гэты факт па-за ўвагай, і ў адной з кніг, прысвечанай гэтай тэме, я натрапіў на вельмі цікавыя факты. Адзін з даследчыкаў творчасці паэта проста прывёў імёны гераінь некаторых яго твораў. У «Бахчысарайскім фантане» — гэта Марыя, у вершы «Фантану Бахчысарайскага палаца» — таксама Марыя, у паэме «Палтава» — Марыя Качубей, у няскончаным «Рамане ў лістах» — Машанька, у «Мяцелі» — Марыя Гаўрылаўна Р***, у «Стрэле» — Маша Б***, у «Рамане на Каўказскіх водах» — Маша Томская, у «Капітанскай дачцэ» — Марыя Іванаўна Міронава. Ніводнае жаночае імя не сустракаецца ў творах Пушкіна часцей за гэта.

Вядома, правесці прамую аналогію з Караткевічам немагчыма. Жаночых імёнаў у яго творах безліч: Алёнка і Нонка, Ірына, Майка і Гелена, Анея і Марыя Магдалена. Пра тое, што прататып С. М. аказаў на Караткевіча вялікі ўплыў, я ўжо адзначаў. Але па-

спрабуем зайсці ў нашых разважаннях з іншага боку.

Жаночыя вобразы Караткевіча ўяўляюць пэўную таямніцу для даследчыкаў. Сярод навукоўцаў існуе меркаванне, што глыбіня раскрыцця іх характараў і псіхалогіі паводзін значна адрозніваецца ад мужчынскіх, а калі быць дакладным, нават саступае ў сваёй канкрэтнасці і дэталёвасці абмалёўкі характараў. Найбольш паказальны прыклад — Анея, каханая Юрася Братчыка ў творы «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Нягледзячы на агульны рамантычны абрыс, калі гераіня аказваецца ў цэнтры закаханасці і жарсцяў, Анея ўвогуле падобная на нейкі прывід, які лётае ў паветры, амаль не дакранаючыся да зямлі.

Апаненты адказваюць сваімі аргументамі. Па-першае, такое адлюстраванне галоўных гераінь дыктуецца кантэкстам твора (побач з магутнай постаццю цэнтральнага персанажу галоўная гераіня павінна знаходзіцца крыху на другім плане). Па-другое, а хто сказаў, што ў Караткевіча не атрымліваліся жаночыя вобразы? Узяць хоць бы Гелену Карыцкую ў «Каласах…», Марыю Магдалену ў рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», Ірыну Гораву ў «Леанідах...». Па-майстэрску выпісаным характарам гэтых жанчын (асабліва першых двух) пазайздросціла б большасць празаікаў.

Але дадам ад сябе вельмі важную дэталь. Гэта не тыя асобы, якіх кахае галоўны герой (Ірына Горава тут хутчэй выключэнне). Ён паважае такую гераіню як моцнага чалавека і нават сімпатызуе ёй. Яна разумее яго лепш за іншых. Але ў выніку герой сыходзіць ад яе да незямной, але каханай і вернай жанчыны. Слова «вернай» ужыта не проста так. Пасля сумных падзей 1952 года такая якасць

чалавечага характару мела для Караткевіча надзвычай важнае значэнне. Дык, можа, гэтым і можна патлумачыць сітуацыю з жаночымі персанажамі, прадстаўленымі ў творчасці Караткевіча? Ніхто не будзе спрачацца, што ў вобразах галоўных герояў пісьменнікаў — шмат ад іх запаветных думак, светлых і горкіх пачуццяў, шмат ад перажытага наяве, у рэальным жыцці. Магчыма, у нечым галоўныя героі кніг пісьменнікаў увогуле — гэта яны самі, такія, як сябе бачаць і ўспрымаюць. І не толькі тады, калі справа ідзе пра аўтабіяграфічныя творы. Нават калі дзеянне адбываецца ў мінулым, пісьменнік можа атаясамліваць галоўнага героя і сябе.

Усё вышэйсказанае ў поўнай меры адносіцца да Караткевіча. Гэта ён шукаў дзікае паляванне, ён прымаў удзел у падрыхтоўцы да паўстання 1863 года. Гэта ён вёў свой народ за хлебам на Гародню і разам з Юрасём Братчыкам апантана шукаў сваю Радзіму. Усё жыццё…

І галоўную гераіню сваіх твораў ён таксама сустракаў у рэальным жыцці. І як Пушкін доўга-доўга не мог забыць Марыю Раеўскую, так і Караткевіч не мог, думаю, забыць сваю каханую. Напрыклад, у красавіку 1959 года быў надрукаваны яго верш «Было юнацтва», які, на маю думку, прысвечаны С. М.:

*Я зноўку засумую*
*Па дарагой дзяўчыне,*
*Халоднай як лілея,*
*Што дрэмле на вадзе.*
*Блакітная і белая,*
*Жамчужная, ружовая,*
*Ўсю цеплыню хавае*

*У самай глыбіні.*
*Пакут маіх не бачыць,*
*Майго не чуе слова,*
*Каханне зневажае*
*І пра каханне сніць.*
*(…)*
*Далёкая, маўклівая,*
*Халодная і чыстая —*
*Зусім яна не думае*
*Што мне балюча жыць.*

Шэраг гераінь Караткевіча надзвычай падобныя на С. М. Дакладней, на яе вобраз, які пераўтварыўся ў Алёнку. Параўнайце Майку з «Каласоў…», Анею з рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і Алёнку. Не сумняваюся — вы знойдзеце шмат падобных рыс. Але самае галоўнае, што яны былі вернымі і ў адрозненне ад С. М. не здрадзілі ні Юрасю Братчыку, ні Алесю Загорскаму.

Тая горыч і скруха, тыя памылкі, якія здарыліся ў рэальным жыцці, не перанесліся ў літаратуру, а разам з ёй — і ў вечнасць. І таму Алёнка са «Снягоў…» засталася: з *«пушыстымі валасамі над чыстым ілбом, міндалевіднымі сінімі вачыма, маленькім прамым носам, трошкі велікаватай ніжняй губкай, тонкай, дзіцячай яшчэ шыяй*; з *«агульным выразам чагосьці дзіцячага, нясмелага і, разам з тым, хітрага»*. І калі ты сустрэнеш у наш час на вуліцы яе малодшую сястру, дык паспрабуй не паўтарыць памылак сярэдзіны мінулага стагоддзя. Магчыма, тады вясна, што драмала ў снягах, прачнецца і ўсміхнецца табе…

# Частка 2.
# У Маскве

## Раіса

У 1958 годзе Караткевіч перабраўся ў Маскву. Наступныя чатыры гады яго жыцця звязаны з гэтым горадам, з вучобай на Вышэйшых літаратурных (1958–1960) і Вышэйшых сцэнарных (1960–1962) курсах.

Першаму перыяду прысвечаны раман пісьменніка «Леаніды не вернуцца да Зямлі». Яго маскоўскія старонкі пачынаюцца з сітуацыі, калі галоўны герой Андрэй Грынкевіч (спісаны з самога Караткевіча) сустракаецца з Марыяй Крат. Апошнім часам у літаратуразнаўчых артыкулах, прысвечаных пісьменніку, адкрыта гаворыцца пра галоўны прататып гераіні. Гэта чачэнская паэтэса Раіса Ахматава. Пра іх узаемаадносіны 9 красавіка 1959 года піша ў лісце Ю. Гальперыну сам Караткевіч: *«Ведь ясно же каждому, что у меня с Руан»* (так ён называў ў перапісцы Р. Ахматаву. — **Д. М.**; БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 20); сцвярджаецца ў публікацыі «Комсомольской правды в Белоруссии» ад 30 ліпеня 2009 года, *(«Короткевич встречался с чеченкой-поэтессой»)*; ёсць празрысты намёк ва ўспамінах Ніны Молевай, выкладчыцы Вышэйшых літаратурных курсаў (*«за первым столом неразлучная пара Владимир Короткевич и красавица чеченка Раиса Ахматова. (…). Общая симпатия была на стороне Раи Ахматовой: народ, депортированный в Сибирь не за преступления — за простую этническую принадлежность.*

*Всегда исполненный горечи взгляд и отчаянная привязанность к сыну, который звал В. Короткевича отцом и дожидался окончания занятий его и матери в садике Литературного института. В памяти осталось даже имя затравленного обстоятельствами малыша: Марат»*). Дарэчы, менавіта сыну прысвечаны зборнік Раісы «Іду да цябе» (Масква, 1960), а таксама шэраг вершаў.

У «Леанідах…» таксама згадваецца сын галоўнай гераіні: *«Вось сын у яе цудоўны. Як прыязджае — цэлымі днямі з ім дурэў бы… Зіркаты такі, вясёлы. І мяне вельмі любіць. Каб можна было, — узяў бы аднаго сына, без яе».*

Раіса Ахматава нарадзілася на два гады раней за Караткевіча, у 1928 годзе ў Грозным у сям'і шаўца. У 1944-м, калі будучая паэтэса заканчвала дзявяты клас, яе разам з сям'ёй выслалі ў Казахстан. Такі лёс напаткаў каля 500 тысяч чачэнцаў за «супрацоўніцтва» з немцамі. Як спецпасяленка Раіса працавала ў калгасе. Потым закончыла педагагічнае вучылішча і выкладала ў школе. У 1953 годзе пачала выступаць у друку з вершамі, нарысамі, апавяданнямі.

Як толькі з'явілася магчымасць, Раіса вярнулася на радзіму. Гэта адбылося ў 1956 годзе, а ў 1958-м у Ахматавай выйшла першая кніга «Республика родная». Неўзабаве Раісу накіравалі на вучобу ў Маскву на Вышэйшыя літаратурныя курсы, дзе яна пазнаёмілася з Караткевічам.

*«Што звяло?* — разважае ў рамане галоўны герой. — *Шкадаванне да яе, чыё жыццё склалася так няўдала, любоў да яе сына, цудоўнага маленькага чалавечка… Ну, яшчэ абыякавасць да таго, з кім ідзеш. Таму што з усімі аднолькава… І яшчэ боязь пустэчы поруч з сабой».*

Хто быў мужам Раісы Ахматавай і бацькам Марата, невядома. У кнізе «Трудная любовь», якая выйшла ў 1963 годзе ў Маскве, аўтарка пазначана як Ахматава (Ібраева). Магчыма, менавіта гэта было яе прозвішча па мужу.

У «Леанідах…» адносіны паміж Андрэем і Марыяй ускладніліся з-за беспадстаўнай рэўнасці гераіні. *«Дрэнна толькі, што апошнім часам яна яго бязглузда, па-дурному, раўнуе. Дарэмна. Не пагрушыў пакуль што ні ўчынкам, ні позіркам. Жанчыны, наогул, бываюць дурнымі ў рэўнасці: не ведаюць, што калі мужчыну ўвесь час беспадстаўна раўнаваць, то ён нарэшце можа сапраўды пусціцца ва ўсе цяжкія грахі — «калі ўжо раўнуюць, дык няхай хоць недарэмна». Вось і гэта: пачала з жартоўнай рэўнасці, потым уцягнулася, і зараз ёй сапраўды здаецца, што кожная сустрэчная жанчына толькі і думае, каб зрабіць замах на мяне».*

Між тым усё сапраўды пачалося з жарту. 7 мая 1959 года У. Караткевіч пісаў Ю. Гальперыну пра гэты эпізод: «*Чего не люблю в людях — навязчивости. Сие качество и возбудило подозрения Р. (я её навязчивость не замечал и, будь я один, был бы даже рад). Но хватит. Твое замечание о том, что «недоверие, не появись оно сегодня, а появилось бы завтра по какому-либо другому поводу», глубоко справедливо. Я знаю, что это так и* *<u>сделал свои выводы</u>* (падкрэслена У. Караткевічам. — **Д. М.**).

*Началось все с того, что Р. и ее соседка, сидя в компании И.* (Іны — маскоўскай знаёмай У. Караткевіча. — **Д. М.**) *и ещё одного сволочеватого парня, пару раз весьма прозрачно намекнули на недопустимость такого поведения. Кажется, И. не поняла, а я потом этим сестрам-разбойницам дал хорошую головомойку, — лучшей они за всю жизнь не получали. Вежливость*

*с моей стороны была истолкована ими как нечто большее, — и вот началось.*

*Милый друг, я страшно люблю свободу, даже от будущей жены буду требовать ее в достаточной степени (не злоупотребляя ею, конечно), но если меня будут глупо ревновать, сковывать, стремиться создать вокруг меня зону пустыни — развод»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 23, 23 адв.).

Неўзабаве Караткевіч закахаўся ў сваю выкладчыцу Ніну Молеву, таму яго адносіны з Р. Ахматавай былі непрацяглымі (яны могуць быць прыкладна датаваныя 1958–1959 гадамі). Зрэшты, не зусім справядліва ацэньваць узаема-адносіны Раісы і Уладзіміра, грунтуючыся толькі на думках апошняга.

Як вядома, Р. Ахматава не пакінула ўспамінаў. Можа быць, варта звярнуцца да вершаў паэтэсы таго перыяду? З аднаго боку, усе яны прасякнуты каханнем. З другога боку, няма ніякіх сведчанняў пра іх прататыпаў. Аднак, на маю думку, адзін з твораў якраз можа быць прысвечаны Караткевічу. Зноў звернемся да кнігі «Трудная любовь». Яна з'явілася ў 1963 годзе. Але ўлічваючы факт, што выданне складаецца з перакладаў, арыгінальныя творы, відавочна, былі напісаны раней. Працытуем адзін з вершаў цалкам:

*Пусть будет так:*
*Не обо мне ты пишешь,*
*Пусть каждая строка твоя —*
*О ней.*
*Ты моего дыхания*
*Не слышишь,*

*Ты глаз моих*
*Не видишь столько дней.*

*Но тень моя*
*У твоего порога*
*Всё бьется,*
*Как у берега прибой.*
*Пусть я одна.*
*Но я не одинока:*
*Я тень твоя,*
*И я всегда с тобой.*

Падставай для атаясамлення лірычнага героя твора з Караткевічам стала фраза *«не обо мне ты пишешь, // Пусть каждая строка твоя — // О ней»*. Гаворка, відавочна, ідзе пра паэта. Тым больш што Раіса ведала Ніну Молеву. Зрэшты, гэта пакуль што толькі версія.

У далейшым Раіса Ахматава стала самай вядомай чачэнскай пісьменніцай савецкай эпохі. Доўгі час яна ўзначальвала Саюз пісьменнікаў Чэчэна-Інгушскай АССР (1961–1983), а таксама Вярхоўны Савет рэспублікі (1963–1985), атрымала званне народнай пісьменніцы (1977). Памерла ў 1992 го-дзе. Даследчыкі мяркуюць, што поўны архіў яе твораў, які складаў больш за 600 тэчак, быў знішчаны падчас Першай чачэнскай вайны. Той жа думкі прытрымліваецца і чачэнскі пісьменнік К. Ібрагімаў, які цяпер узначальвае Саюз пісьменнікаў рэспублікі. У лісце да аўтара гэтых радкоў ён напісаў: *«На вялікі жаль, усё, што захоўвалася ў асабістым архіве Раісы Салтмурадаўны, знішчана вынікамі вядомых і Вам падзей у гады баявых дзеянняў на тэрыторыі нашай рэспублікі. Нават у блізкіх*

*ёй людзей (нявестка, якая стала бежанкай) нічога не захавалася»*.

Цікава, што на працягу жыцця Раіса, відаць, працягвала пэўныя адносіны са сваёй суперніцай. У адной з публікацый К. Ібрагімаў узгадваў пра сваю сустрэчу з Н. Молевай. Тая *«распавяла, што напачатку 1990-х гадоў Р. Ахматава прыехала да яе і прывезла на захоўванне дыван, сказаўшы, што ў рэспубліцы пачынаюцца смутныя часы. Дыван незвычайны. Ён належаў імаму Шамілю. Папрасіла захаваць яго»* (Н. Молева паклала дыван, які датаваўся XI стагоддзем, у банкаўскую скрыню, занесла ў каталог, а пазней вярнула яго ў Чэчню). Зразумела, што такі візіт быў бы немагчымым пры адсутнасці пэўных кантактаў на працягу жыцця. Але ў тыя часы Р. Ахматавай і Н. Молевай ужо не было каго дзяліць.

## Ніна, або Караткевіч і Молева. Рэканструкцыя адносін

Постаць Ніны Міхайлаўны Молевай, доктара гістарычных навук і кандыдата мастацвазнаўства, аўтара шэрагу навуковых і мастацкіх твораў, добра вядома ў Беларусі. У 1958–1960-х гадах Яна выкладала гісторыю мастацтваў на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, дзе вучыўся Уладзімір Караткевіч. Агульнапрызнана, што Н. Молева стала прататыпам Ірыны Горавай у рамане пісьменніка «Нельга забыць». Тым не менш і цяпер гісторыя іх узаемаадносін з'яўляецца таямніцай, якая патрабуе свайго тлумачэння.

Адзначым, што ні У. Караткевіч, ні Н. Молева ніколі не казалі адкрыта пра свае пачуцці. Больш за тое, некалькі гадоў таму Ніна Міхайлаўна сказала ў інтэрв'ю газеце «Комсомольская правда в Белоруссии» (апублікавана 30 ліпеня 2009 года) наступнае:

*«– Нина Михайловна, в вас был влюблен Владимир Короткевич…*

*— Ни сном, ни духом! (…). Когда мне говорят о любви Короткевича ко мне, я всегда это слушаю с определенной неловкостью. Всё, что я о нем знаю, это то, что может знать школьный учитель о своем ученике. (…).*

*— Владимир Семенович признавался вам в любви?*

*— Что вы! Это было просто исключено.*

*— Но, говорят, именно из-за чувства к вам он не мог долго жениться.*

*— Конечно, мне, как любой женщине, очень лестно это слышать. Но не было никаких личных отношений».*

Меркаванне Ніны Міхайлаўны псіхалагічна зразумелае, бо ніхто не жадае выносіць на агульны

агляд уласныя душэўныя таямніцы даўніх часоў. Між тым узаемаадносіны У. Караткевіча і Н. Молевай наўпрост паўплывалі на творчасць пісьменніка. Без іх тлумачэння немагчымы паўнавартасны разгляд «маскоўскіх старонак» у яго біяграфіі. Прыведзеныя абставіны, а таксама відавочная спрэчнасць працытаваных фрагментаў абумовілі інтарэс да гэтай гісторыі.

Даследаванне мае падзагаловак «Рэканструкцыя адносін», паколькі ў ім аб'яднаны розныя крыніцы. З аднаго боку, гэта 6 лістоў пісьменніка да Н. Молевай, якія былі перададзены апошняй у Цэнтральны маскоўскі архіў — музей асабістых збораў (нядаўна надрукаваны ў зборніку «Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы»). Перапіска У. Караткевіча са сваім сябрам Юрыем Гальперыным (арыгіналы лістоў захоўваюцца ў БелДАМЛМ) і Янкам Брылём (апублікавана ў 1990 годзе ў зборніку «Шляхам гадоў»). З другога боку, непасрэдна творчасць пісьменніка: раман «Леаніды не вернуцца да Зямлі», вершы і паэмы.

Нават улічваючы той факт, што раман лічыцца аўтабіяграфічным, узнікае пытанне, наколькі яму можна давяраць? Сам Караткевіч наўмысна пісаў у пачатку кнігі: *«Усе падзеі ў гэтым рамане — выдуманыя. Усякае падабенства з рэальна існуючымі людзьмі з'яўляецца выпадковым»*. Зрэшты, такія фразы звычайна пішуцца ў тым выпадку, калі падабенства больш чым відавочнае. Асцярожны Анатоль Верабей пісаў у сваёй кнізе «Абуджаная памяць», што *«і персанажы твора, і мясціны, якія апісваў пісьменнік, пад уздзеяннем ягонай фантазіі набывалі сваё, самастойнае мастацкае жыццё»*. Каб разабрацца ў рэальнасці дзеяння рамана, выкладанне падзей

пабудавана наступным чынам. Літаратурны фрагмент у рамане па магчымасці суадносіцца з цытатай эпісталярнай спадчыны. Але ў любым выпадку, дадзеная праца з’яўляецца рэканструкцыяй, аўтарскай версіяй узаемаадносін паміж У. Караткевічам і Н. Молевай. Таму перанясёмся на паўстагоддзя ў мінулае, у Маскву часоў «адлігі». На календары — вясна 1959 года…

### «Любая, помніш? Была вясна…»

Падчас навучання на Вышэйшых літаратурных курсах Караткевіч трапіў на лекцыю да сваёй выкладчыцы Ніны Молевай, якая з’ўлялася прататыпам Ірыны Горавай. *«У тваіх гадах,* — кажа Грынкевічу яго сябра латыш Яніс Вайвадс, — *можа, на год ці два старэйшая. А выглядае такім дзяўчом».* І сапраўды, Ніна Міхайлаўна нарадзілася ў 1928 годзе, за два гады да Караткевіча. Якой запомнілі Ірыну Гораву чытачы «Леанідаў…»? *«Невялічкага росту, яна была вельмі худзенькая, але так падабраная, што нагадвала яму балерыну. Можа, гэтаму ўражанню дапамагала і клятчастая спадніца званочкам, і шэрая кофтачка з нейкага там нейлону. Вельмі худзенькая, як дзіцятка. (…). Звычайны твар. Мяккія шэрыя вочы пад зламанымі бровамі, густыя вейкі. Валасы попельна-залацістыя, сабраныя на патыліцы ў вялізны вузел. І растрапаныя злёгку, аніяк не хочуць ляжаць у прычосцы. Такая растрэпка! Вялікаваты, усмешлівы рот. (…). Зубы не вельмі добрыя, але ўсмешка ўсё адно такая, што аж святлей стала. Вельмі прыгожыя ногі, вельмі прыгожыя рухі. І ўсё гарманічна — хоць малюй».*

Неўзабаве пасля першай лекцыі Грынкевіч наведаў бацькоўскі дом, а хутка пасля вяртання ў Маскву слухачоў літаратурных курсаў чакала вандроўка ва ўладзімірскую зямлю, якая адбылася ў маі 1959 года. Там Горава прапанавала ім лекцыі пад адкрытым небам.

У яе інтэрв'ю гэты эпізод выглядае досыць празаічна: *«он* (Караткевіч. — **Д. М.**), *как и многие его сокурсники, ко мне пришел еще не сформировавшимся человеком. Я видела, что многое из того, что я говорила, буквально переворачивало что-то в его душе. Он становился другим.*

*Вот пример. Я привезла учеников к Церкви Покрова на Нерли, вокруг была ужасная грязь, нужно было долго идти пешком. Короткевич и другие сказали: «Не пойдем! Ноги испачкаем». Я говорю: «Нет, пойдете, как миленькие!» Они пошли. Я читала им тексты, стоя возле храма XII века. Владимир слушал не моргая. Потом написал свое «Дзіва на Нерлі».*

А вось як апісаў гэты эпізод пісьменнік у лісце Юрыю Гальперыну: *«Теперь о Владимире. Я пережил там* <u>*сильнейшее*</u> (падкрэслена У. Караткевічам. — **Д. М.**), *(говорю не преувеличивая) потрясение в моей жизни. Не мне тебе рассказывать, что такое Успенский и Дмитриевский соборы, но, пожалуй, скажу пару слов о Покрове-на-Нерли. Я не верил, что человек может плакать глядя на здание и потому ставил архитектуру чуть ниже всех искусств. Так вот, я ревел, брат. Позорно ревел, и не стыдился, и не стыжусь. Боже мой, это чудо, это Китеж, это всех людей душа, лучших людей, (…). Нежная-нежная, чистая-пречистая. Как свечечка стройная. (…). Понимаешь, это надо видеть. Луга безграничные, сине-зеленые, золотые, майские. И она, бед-*

*ная красавица моя, стоит, как Алёнушка, почти окруженная водой. И ничего нет, белые стены да алтарный камень, да свет невесть откуда падает. И львы-рельефы улыбаются с квадратных колонн. И такая тишина, такой мир. Понимаешь, тогда не принято было преклонять в церкви колен, просто стояли и молча молились. И я также. Чуть не полетел под купол в столбе света.*

*Понимаешь, Юрка, это не экзальтированная слюнявость, но когда я подохну — мне будет легче сделать этот последний шаг, потому что и дыхание Всеволода Большое Гнездо, и дыхание тысяч, и мое маленькое среди них останется там, в этих стенах. Хорошо, брат! Как вспомню о ней — сердце дрожит от радости»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 30, 31).

Наведванне царквы на Нерлі не проста паўплывала на творцу. Яно перавярнула яго асабістае жыццё. Заўважым, што яшчэ дагэтуль Караткевіч развітаўся з Р. Ахматавай.

Пасля наведвання царквы Уладзімір піша некалькі вершаў. Адзін з іх, «Дзіва на Нерлі» (датаваны 26 мая 1959 года), больш знакаміты. А вось на другі, «Цягнікі заспявалі, заплакалі», звяртае ўвагу не кожны:

*Дні нядаўнія, ясныя, любыя,*
*Курганоў старажытных спакой,*
*Кураслеп на лугах Багалюбава,*
*Белы храм над Нерлю ракой.*
*Ці здалося мне, ці прыснілася,*
*Што ў вясеннія гэтыя дні*
*У вачах тваіх шэрых мілых,*
*Больш было да мяне цяплыні.*

Ірына Горава, разважаў у рамане Андрэй Грынкевіч, *«зусім не падабалася яму як жанчына. Але аднойчы ён на хвіліну даў сабе волю і спытаў, а што б ён, Андрэй, адчуў, каб яна знікла. І шчыра адказаў сам сабе, што гэта было б дрэнна. Непрыкметна ён проста прызвычаіўся, што кожны тыдзень будзе бачыць яе, чуць яе голас, сачыць за ходам яе думкі, смяяцца з яе жартаў.*

*Ён разумеў, што яе лекцыі не проста лекцыі, што гэта яшчэ і нейкі новы, пакуль мала зразумелы для яго, погляд на жыццё, на яго колеры і гукі, на чалавечыя пачуцці, на мастака і мастацтва»*.

Па сутнасці, выкладчыца адкрывала для Караткевіча раней невядомы, чароўны свет мастацтва, уласным прыкладам далучала да тысячагадовага вопыту і пошукаў чалавецтва. На двары буяла вясна, у душы і перад вачыма была яна. Уладзімір не мог не закахацца.

## Старонкі кахання

Каб зразумець сваё пачуццё, спатрэбілася яшчэ крыху часу. *«У пачатку ліпеня* (1959 года. — **Д. М.**) *сябры раз'ехаліся па хатах. Андрэй пажыў тыдні тры дома, а потым скарыстаўся запрашэннем дзядзькі, папаходнаму хутка сабраўся і раніцою наступнага дня ўжо выходзіў з цягніка на перон невялічкай станцыі»*. У рамане яна названа Сухадолам. У рэальнасці гэта Рагачоў, дзе жыў Ігар, дзядзька Караткевіча.

У адзін з момантаў герой *«раптам з неверагоднай яснасцю зразумеў, адкуль было тамленне. Не хапала яе. Не хапала гукаў яе голасу, не хапала растрапаных пасмачаў, шэрых рахманых вачэй, пяшчотнай выразнасці рухаў. Не хапала да болю. Хоць крычы. «Што са мной?»* —

*падумаў ён. І раптоўна падмываючая хваля радасці ахапіла яго. «Здаецца… здаецца, гэта прыйшло… Нарэшце гэта прыйшло… Няўжо?! (…). Ну вядома ж, гэта было так. Вядома, не хапала яе. Ён проста быў упэўнены, што не можа болей пакахаць, таму і не думаў пра яе… А зараз як быццам амыліся вочы. І свет такі шырокі. І вецер дыхае новым жыццём. Ну не, жыццё яшчэ не скончана. Жыццё яшчэ можна пачаць спачатку, вось тут, на гэтай вялікай рацэ, у гэтую хвіліну».*

Яны зноў сустрэліся восенню 1959 года ў Маскве. У рамане сцвярджаецца што «*яе не было ў Маскве цэлы верасень*». Але ў рэальнасці 12 верасня Караткевіч пісаў у лісце да Юрыя Гальперына: «*А рецензию оную я покажу нашему экскурсоводу. Её первая лекция будет у нас только в среду, и я хочу, чтоб она прочла тоже. Потом сразу перешлю тебе*» (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 35).

21 верасня памёр бацька Караткевіча, Сямён Цімафеевіч, таму пісьменнік тэрмінова вярнуўся дадому. Тыя ж падзеі, той жа час (канец верасня) апісваюцца ў рамане. Згодна з раманам, *«праз два тыдні»* пасля пахавання пісьменнік вярнуўся ў Маскву.

У «Леанідах…» Ірына Горава запрасіла Андрэя Грынкевіча да сябе ў госці. У адзін з дзён малады паэт пазваніў у кватэру ля плошчы Маякоўскага (той жа адрас узгадваецца 21 снежня 1959 года ў лісце да Янкі Брыля: *«сейчас у них прекрасная квартира в районе площади Маяковского»*). Але тут яго чакаў неспадзяваны «сюрпрыз»: дзверы кватэры адчыніў муж. Для паэта, які не ведаў пра яго існаванне, гэта быў страшэнны ўдар: *«Я прыйшоў да самых родных дзвярэй, // І тут // Забілі мяне»*, — напіша ён у паэ-

ме «Плошча Маякоўскага». У той час лірычны герой сцвярджаў, што *«быў нядатны на метафары»*. Згодна з той жа паэтычнай крыніцай, гэта адбылося «*ў чорны мой панядзелак. // Кастрычніка, дванаццатага чысла»*.

Між тым чалавек, якога Грынкевіч убачыў на лесвічнай пляцоўцы, варты падрабязнага апісання. *«Андрэй пабачыў мужчыну, цёмнавалосага, з высокім, трохі залысым лобам. Постаць цяжкаватая, пагляд вачэй разумны і шчыры. Выраз аблічча — з той добрай, трохі занадта інтэлігенцкай іранічнасцю, якую Андрэй і любіў і не любіў у людзях свайго асяроддзя. Ён лічыў яе занадта гарадскою»*. У «Леанідах…» гэты чалавек дзейнічае як Міхаіл. Выбар імя, бадай, невыпадковы. Менавіта так клікалі хлопца, які ўзяў шлюб з С. М. (гл. раней). У рэальнасці мужа Молевай клікалі Элігіем (скарочана — Эліям) Бялюціным.

Яго назвалі так па жаданню дзядулі, італьянскага дырыжора, у гонар святога, які апекаваўся раменнікамі і мастакамі. Нарадзіўшыся ў 1925 годзе, Бялюцін у 16 гадоў пайшоў у армію абараняць Маскву. Як пісалі яго біёграфы, *«на фронце яму прастрэлілі лёгкія, там ён зарабіў газавую гангрэну левай рукі, але застаўся жывым і стаў мастаком»*.

Франтавыя падрабязнасці з біяграфіі галоўнай гераіні высветліліся падчас адной з наступных сустрэч. У рамане ўзгадваецца дата «дваццаць сёмага». Якога месяца — не ўдакладняецца. Варыянтаў два — кастрычнік або лістапад. Хутчэй за ўсё, лістапада, бо ў творы ўзгадваецца і дата наступнага спаткання, якое адбылося неўзабаве пасля папярэдняга, — 2 снежня. Менавіта 27-га Андрэй прызнаўся сваёй выкладчыцы ў каханні. А яна рас-

казала яму ўласную гісторыю: *«Я чалавек цяжкага лёсу. Вайна зачыніла перада мною дзверы ў тэатр. Абмарожаныя ў сорак першым рукі — у музыку. А я… мне гэта было даражэй за жыццё. Што мне засталося? Пісаць кнігі і тлумачыць другіх. Нешта накшталт прычотніка пры храме мастацтва».*

Згодна з раманам, у 1941 годзе Ірына Горава ўдзельнічала ў абароне Масквы. Ёй было тады пятнаццаць. Яна дадала сабе гадоў і трапіла ў шэрагі маскоўскага апалчэння. *«Пачалося з абстрэлу. Калі ён скончыўся, усё поле было перакапанае, быццам тут цэлы тыдзень рылася свіння. Вялікая, са слана. А потым немцы пусцілі супраць нас пяхоту і танкі. Цяжкія танкі «Валянцін»… І тут здарылася дзіўнае. Нас было дзве сотні амаль дзяцей. І мы адбілі танкавую атаку… Віця* (першае каханне Ірыны Горавай. — **Д. М.**) *спаліў адну з машын… А нас засталося пяцьдзесят чалавек… І такое ап'яненне — маўляў, вось варта было нам прыйсці — і вораг уцякае, — што гэтыя пяцьдзесят кінуліся ў контратаку… Дурныя, харошыя былі хлопцы… Камандзірам удалося іх затрымаць… Віцька падабраў нямецкі аўтамат і прыкрываў чэргамі тых, што адступалі да сваіх акопаў. Я была непадалёк. І тут… тут міна трапіла якраз у тое месца, дзе стаяў ён… Я яшчэ паспела ўбачыць: высокі такі, чорны, маслісты слуп дыму і зямлі… І потым цемра… Мяне падабралі хлопцы. Міхал* (камандзір аддзялення. — **Д. М.**) *сам адправіў мяне ў медсанбат… Але што яны маглі тады? Асколак сядзіць у калясардэчнай сумцы і цяпер».* Згодна з раманам, менавіта Міхаіл стаў яе мужам. *«Я чакала, і ён чакаў. Не стамляўся чакаць. І казаў, казаў мне словы… Што мне было да жыцця пасля той смерці? Жыццё адабрала любы шлях, жыццё адабрала любага чалавека… Я згадзілася».*

Гэта падзеі рамана. Як яны суадносяцца з рэчаіснасцю? Вышэй ужо адзначаўся ўдзел Э. Бялюціна ў абароне савецкай сталіцы. А вось цытата з успамінаў Молевай пра ўласнае прадстаўленне на літаратурных курсах: *«Представление нового преподавателя Ю. Г. Лаптевым было коротким. Научная степень. Книги. Журналистская работа. Участница обороны Москвы. Участница Великой Отечественной»*. А вось яшчэ адзін доказ наконт праўдзівасці літаратурнай цытаты. 29 лютага 1960 года Уладзімір Сямёнавіч пісаў з Масквы пра Н. Молеву свайму сябру Янку Брылю: «*І ўсё адно, лепей бы не нараджацца на свет. Таму што для яе засталіся лічаныя гады, магчыма, месяцы. Была дзяўчынка. Быў выбух бомбы. І, як вынік, асколак у каласардэчнай сумцы. І аперацыю зараз рабіць позна*».

Акрамя таго, працытуем урывак з «Балады пра галубіныя пер'і». У ім гаворыцца пра хлопца і шаснаццацігадовую дзяўчыну, якія з пачаткам вайны пайшлі на фронт:

*Хлопцы танкі сустрэлі ружэйным агнём*
*І забітымі ў полі ляглі.*
*(…)*
*І дзяўчыну таксама не мінуў свінец.*
*Гарэлі пясок і трава.*
*Над грудзьмі белай зоркай застаўся рубец,*
*Дзе асколак пацалаваў.*

Згодна з раманам, нават пасля шчырай размовы *«так і не дачакаўся цвёрдага адказу (...) сказаў Андрэй. — Яна кажа, што я неразважлівы, размаўляе са мною пра ўсё, абы не ўспамінаць таго, што было».*

Гэта было нейкае насланне. *«Андрэю гэта было тым горш, што ён апошнія месяцы дрэнна спаў. Ён нават еў дрэнна ў тыя дні, калі не бачыў яе. Як марфініст без морфію. Дзень праходзіў у напружаных думках аб ёй, ва ўпартай, але часта бясплоднай працы, у бязмэтных бадзяннях па горадзе. А вечарам чалавек клаўся ў ложак і гадзін да чатырох не мог спаць. Ліхаманкавыя думкі, уяўленні, часам нейкая блытаная сувязь слоў, знешне стройныя сказы, якія нічога не азначаюць. Потым — цяжкі сон, у якім ён ні разу не бачыў яе. А потым, гадзін у сем, быццам шокавы ўдар, калі прачынаешся, седзячы на ложку».*

Падчас адной з экскурсій *«Ірына ўвесь час была спакойнай і халоднай, ані разу не затрымала на ім вачэй. Так, суха прабягала позіркам. І ад срэбнага дня і ад яе халоднасці ў душы нараджаўся нейкі лікуючы адчай».*

Часам цяжка было зразумець, гульня гэта з яе боку, ці проста жаданне ўцячы ад кахання. На адной з лекцый Горава расказала слухачам нібыта абстрактную гісторыю, фактычна прысвечаную іх узаемаадносінам: *«Вось я, напрыклад, чытала нядаўна раман. Ён — амерыканскі мастак. Яна — псіхіятр з Парыжа. Пакахалі. Так, як рэдка бывае. Што рабіць яму без скалістых гор, без узараных прэрый, без мамантавых дрэў? І што рабіць ёй без Парыжа, без клінікі, без справы свайго жыцця? І, як ні стараюцца, каханне гіне, бо кожны не можа даравазь другому нежадання ахвяраваць сабой».* З ліста Ю. Гальперыну 21 снежня 1959 года: *«Нас очень разделяет работа, крепко призывающая ее к Москве (…), но все это важно, если она меня любит».*

У рамане пасля лекцый Горава і Грынкевіч накіраваліся на выстаўку, а потым у заснежаную зону адпачынку. Дазволю сабе тры цытаты з рамана: *«Менавіта таму падаў ёй зялёную літоўскую хустку і футрачку, а потым выйшаў з ёю на сляпуча белы снег, які яшчэ не паспелі заплямiць сятчатымі слядамі галёш.*

*— А на мне гэтая хустка. Я не хацела сёння ісці з вамі.*

*— А што хустка?*

*— Ды я ў ёй на матрошку падобная (...).*

*А дрэвы былі заснежаныя. І ён моцна патрос за сук клёна, пад якім яны ішлі. Іскрамётны, трохі нават звонкі снег сухім пылам пасыпаўся на іх з галін. (...)*

*— Ведаеце, чаго не хапае на гэтых сініх дрэвах?*

*— Ведаю. Снегіра. Чырвонай іскры*».

А цяпер урывак з ліста Караткевіча ад 7 студзеня 1960 года: *«Мне нужны ваши изумительные серые глаза, ваша улыбка, ваши «матрёшкины волосы» под платком, мне нужна ваша любовь ко мне и моя бесконечная любовь к вам. (...). Для меня сейчас хорош снег только потому, что его можно отряхнуть на вас и на себя с ветки, хорош снегирь, потому что вы их любите, хороша луна только потому, что, — помните? — когда мы ехали из Загорска, она, как на воде, проложила дорожку на льду пруда. И кругом были черные силуэты верб, а по этой лунной дорожке скользили тени мальчишек».*

Згодна з раманам, у той дзень Горава паведаміла Андрэю, што *«ўчора я чамусьці дала згоду на аперацыю. Мне раптам вельмі захацелася жыць. Не ведаю чаму. У студзені еду ў міжнародны шпіталь, у Вену. Калі не паеду — абяцаюць год жыцця».* У якасці пацвярджэння гэтага факта прывядзём цытату з ліста Караткевіча да Молевай ад 2 студзеня 1960 года: «*Вот и Новый год прошёл. И скоро вы вернетесь из Женевы. Боже мой, хоть бы только у вас всё удачно вышло с Веной».*

Наступная сцэна «Леанідаў...» найбольш трапяткая і лірычная — гэта эпізод першай блізкасці герояў. Якраз у той жа час, 21 снежня 1959 года, Караткевіч напісаў Ю. Гальперыну: *«И наконец, та, о которой я тебе писал, призналась мне, что любит меня»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 38–39).

У рамане ў той дзень Ірына кажа Андрэю: «*Калі б у мяне, хоць пяць год… Пайшла б не думаючы, адразу*». А вось цытата з ліста пісьменніка да Янкі Брыля ад 29 лютага 1960 года: «*І гэты чалавек хоча быць са мной. Я ведаю гэта, і не толькі са слоў. І ніколі са мною не будзе менавіта з гэтай прычыны. Не хоча, каб мне было дрэнна. Сказала: «Каб я ведала, што мне далі тры гады — не было б нават слова супраць гэтага. А пакінуць цябе праз месяц, — я не магу, не трэба». (…). А я без адзінага слова падзяліў бы з ёю ўсё, усе гады, што мне дадзены. У другіх ёсць справа, ёсць сваё жыццё. А мне ўсё гэта непатрэбна.*

У той вечар Горава *«раптам прыўзнялася.*

*— Абяцай мне, што ніколі не здымеш са сценкі майго падарунка.*

*— Абяцаю.*

*— Я табе падару рэпрадукцыю «Венеры» Бацічэлі. Усе кажуць, што гэта я… Праўда ж, гэта можна? Што б ні здарылася потым — гэта ж толькі фрагмент карціны»*. Тое, што гэты эпізод — не фантазія, сведчаць цытаты з ліста Караткевіча да Гальперына ад 21 снежня 1959 года («*Если хочешь знать — какова её наружность — посмотри на лицо мадонны Боттичелли. Это почти точный её портрет»*; БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 38–39) і самой Молевай ад 7 студзеня 1960 года: *«А от вас все ещё нет ни строчки, ни, хотя бы, Боттичелли»*.

Іх шчасце было нядоўгім.

## Нядоўгае шчасце

«*Сустрэліся перад самым ад'ездам. (…). Шляхі абаіх ужо з заўтрашняга дня, і на цэлых паўтара месяца, разыходзіліся. Яго чакалі снягі, сум і ўтрапёная пра-*

*ца, сапраўдны бой, у якім ён павінен будзе выйграць яе, ды яшчэ страшэнная трывога за тое, небяспечнае, што яе чакала. Ён верыў у лепшае, але задушыць гэтую трывогу не мог»* («Леаніды не вернуцца да Зямлі»). *«Дело решится окончательно в феврале»*, — пісаў пісьменнік Ю. Гальперыну 21 снежня 1959 года.

У рамане Грынкевіч пачаў працу без адпачынку. *«Андрэй уставаў у шэсць гадзін раніцы, калі ў гарадку гарэлі толькі рэдкія агні і ранішні снег вішчаў пад лыжамі. З адхону на дняпроўскі лёд, потым на стромы адхон процілеглага берага. Праз дзесяць хвілін ужо не хочацца спаць, знікае некуды свінцовы цяжар стомы. Лыжы бягуць па зарэчных палях, перасякаючы ваўчыныя сляды і хітрыя зайцавы петлі.*

*Вялікі круг на поўнай хуткасці. Потым імпэтны, як падзенне, палёт дном яра, — мільгаюць хмызы над галавой. (…)*

*Мезанін. Снеданне з моцнай кавай… Звычайна першыя радкі даюцца цяжка, (…). Прымусь сябе. Сілком… І вось ужо цябе ўладна ўзяло ў рукі нейкае адчайнадушнае захапленне працай, калі шкада працягнуць руку за папяросай, калі ўспрымаеш як катастрофу тое, што ў ручцы скончылася чарніла. (…). Падаюць са стала лісты: адзін… другі… трэці… І потым, у гадзіну ночы, вячэра і зноў лыжы: не больш чым на трыццаць хвілін. Гэта каб спаць. Яму вельмі трэба спаць. Заўтра зноў дзень працы».*

А вось што пісаў У.Караткевіч пра свой лад жыцця самой Н. Молевай 2 студзеня 1960 года: *«Сел работать и работаю как черт, часов по двенадцать в день. Работал бы и больше, но тогда хуже выходит, я знаю. Больше ничего не делаю. Только утром на час на лыжах. Бегу через Днепр, ухожу в поля или в ближний поредевший лес. Спортсмены за мой бег и гроша не дали бы, но ведь главное не в красоте, а в выносливости».*

Навошта ён так знясільваў сябе? З аднаго боку, каб не думаць увесь час пра каханую. Але, з другога, была яшчэ адна прычына. *«Уж лучше драться, чем помирать — в этом я убежден,* — пісаў Караткевіч Гальперыну 21 снежня 1959 года. — *А то, что неплохой боец — узнают все. Очередные задачи таковы: к лету нужно заработать двести тысяч. Многовато? Попробуем. Еду в Оршу, шлифую сценарий и посылаю его на конкурс. Делаю две пьесы. Напрягу все силы — только бы не надорваться. Пить и гулять бросил, на счету каждая минута. Ты знаешь, я никогда не брался за этим, но раз нужно, так нужно.*

*Зачем мне это? Куплю в пригороде Москвы домик и машину, чтоб она могла ездить на работу (сейчас у них прекрасная квартира в районе площади Маяковского). Она не пошла бы на это, если б знала, но моя гордость никогда не позволит мне, чтобы она стала хуже жить»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 38–39).

За гэты час ён напісаў Ніне Міхайлаўне некалькі глыбокіх, пранізлівых лістоў. *«Чатыры лісты…»,* — кажа Грынкевіч у рамане свайму сябру Янісу. Што ў рэальнасці? Нам вядомыя лісты ад 2, 7 і 16 студзеня. Мажліва, існаваў яшчэ адзін. Але ці так гэта прынцыпова?

*«Зачем я себе, если вас нет рядом? Зачем мне руки, если я не могу обнять вас, глаза, если я не могу смотреть ими в ваши глаза, стихи, если я не могу писать о вас и для вас.*

*Вы моя первая, которой не было, вы моя самая всесильная и последняя.*

*Понимаете, мы вечны. Может быть, я искал вас пятьсот лет назад и вы скрылись от меня. Но я всё равно, всё равно вас найду. Мне уже не стыдно и не страшно ни людей, ни земли, ни слов — разве не всё равно?*

*Милая моя, мой хохлик с фонариком, моя глазастая синяя пролеска, птица-синица, добрый огонек в метель, пушистый мой заяц — дайте уж мне сказать то, что не смог сказать в глаза. Ваши голубые руки — целую их. Не могу без них».*

Дык вось працягнем фразу Андрэя ў рамане: *«Чатыры лісты і ні на адзін няма адказу».* 8 лютага 1960 года Караткевіч піша Гальперыну з Оршы:

*«Ф-фу-у! Как гора с плечь свалилась. Сделал, наконец-то, большую часть работы и только что вернулся из Минска, где бегал по редакциям (…). Пьесу отдал Макаенку на прочтение, ему же один киносценарий (…). Второй Галка* (жонка сябра Караткевіча — Валянціна Краўца. — **Д. М.**) *отнесет на тайный конкурс, (…). Кроме того отдал в «Полымя» поэмку и два рассказа, в «Маладосць» кое-какие стихи, на телевидение кое-какие стихи и т. д. (…). И все это, кажется, зря. За месяц — ни слова от неё. Печально. Но что же сделаешь. Ни прикажешь ведь»* (БелДАМЛМ. Ф.56. Воп. 2. Спр. 15. Л. 1–2).

## Гульня з каханнем

У лютым Караткевіч вярнуўся ў Маскву. Ці дапамагло Н. Молевай лячэнне за мяжой? У рамане пра гэта паведамляецца наступнае: *«Нічога не змянілася. Аперацыю палічылі немагчымай».* Што адбывалася ў рэальным жыцці?

29 лютага 1960 года Уладзімір Сямёнавіч пісаў Янку Брылю з Масквы: «*На выкацыях я паміраў кожны дзень: яна была ў Вене, у клініцы. І там адмовіліся. А стан усё пагаршаецца. І вось прыгожы, поўны сіл чалавек, чалавек вялікая душы і мужнасці, адна з самых разумных жанчын, якіх я сустракаў, гіне. Як апошняе —*

*выграшылі зрабіць аперацыю тут, — нейкія звышмоцныя магніты. І шансаў на поспех — адзін з сотні. (…)*

*Узяць бы яе сілай з гэтай хлусні, з гэтага вялікага, абякавага да чалавечай пясчынкі горада.*

*Нельга. Урачы даглядаюць. І так некалькі месяцаў. Там хірургічны скальпель. І так, як зараз, я не магу бачыць яе калі захачу, хоць бы адчуваць подых за сцяною, — так, я не магу стаяць калі клінікі, пытацца пра яе, насіць ёй кветкі. Гэта будзе другі ўсё рабіць. Проста так, як спакойны абыякавы муж. Без асаблівага болю сардэчнага».*

Пасля вяртання з-за мяжы адносіны паміж закаханымі істотна змяніліся. *«Ты ведаеш, я зрабіў усё, што мог,* — казаў у рамане Андрэй Янісу. — *І вось я пяць разоў сустракаўся з ёю, і яна кожны раз пазбягала размовы аб гэтым… Тройчы прызначала спатканне і падманвала, не прыходзіла. А я, здаецца, зусім страціў гонар. Прызначае на пяць. Я чакаю да паловы шостай, потым кажу сабе, што пераблытаў, пэўна, і спатканне ў шэсць. Чакаю да паловы сёмай і даю сябе ўмовіць, што, можа, у сем. (…). І так было потым усе тры тыдні».* А потым *«ён раптам зразумеў, што яна ніколі не будзе з ім. І адначасова ўцячы ад яе ён не можа, а без яе няма жыцця. Значыць, няма чаго супрацíўляцца. Жыццё абрыдзела, жыццё не дало шчасця — нашто тады ўсё».*

Грынкевіч задумаўся пра самазабойства. Але ў апошні момант яму ў рукі трапіўся ліст ад сябра з Мінска Якуба Каптура: *«…Мне цяжка гаварыць аб гэтым… Палічы сабе ты мяне бурклівым дзядзькам, палічы нават пашляком, але, слухаючы твае словы, я міжвольна думаў: колькі харошых, мілых, цудоўных, юных, разумных істот марыць недзе сустрэцца з такім чалавекам, як ты, дарагі мой дзівак, паэт, сумленны ча-*

*лавек!»*. Менавіта ліст, а таксама перажыванні сябра Яніса вырataвалі Грынкевіча ад паспешлівага ўчынку.

Дык вось зараз вядома, што за гэтым псеўданімам Якуб Каптур хаваўся Янка Брыль. Больш за тое, 8 сакавіка ён напісаў Караткевічу ліст, які з невялікімі скарачэннямі быў устаўлены ў раман!

16 сакавіка 1960 года Уладзімір Сямёнавіч зноў пісаў Брылю ў Мінск: «*Разумееце, з астатнімі мне сумна і нудна. Я і спрабаваў клін клінам выбіваць — не атрымліваецца. Пуста. Заўсёды тыя самыя, — з невялічкімі варыяцыямі, — прыёмы фліртa і тэмы для размоў. Я прайшоў той час, калі дастаткова цалавацца ў парку і ляжаць поруч (хоць, вядома, гэта добрыя рэчы). Мне патрэбны друг, на якога я спадзяваўся б як на самога сябе і нават больш, друг разумны, друг, які можа ўсё зразумець і не будзе патрабаваць лейцаў. Які верыць мне да канца і якому я сам веру. (…).*

*Не скажу пра старэйшых жанчын, але з маладых гэта адзіная, з якой мне лёгка. Нам ніколі не бывае сумна, калі мы разам, у нас заўсёды ёсць што сказаць адзін аднаму. Нам добра нават маўчаць, думаючы аб адным»*.

Між тым гульня з боку Ірыны Горавай працягвалася. *«Або будзьце з ім, або пакіньце тлуміць чалавеку галаву»,* — казаў ёй у рамане Вайвадс. У рэальнасці 20 красавіка 1960 года Караткевіч пісаў Гальперыну: *«В Москве тихие, ясные и прохладные вечера. И очень мне в этой Москве грустно на сердце. Потому что не ладится, в общем существование то. С Ниной чепуха и заваруха. И, кажется, я скоро возьму и женюсь на просвирне, или на вдове церковного старосты»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 15. Л. 4 адв.).

Як адбываліся падзеі ў «Леанідах…» далей? *«У адзін з першых дзён мая, калі нават Чыстыя Пруды*

*расквітнелі зялёным колерам жыцця, калі нават мёртвыя дошкі рэдкіх драўляных платоў укрыліся пасля дажджу аксамітным налётам і калі ён сказаў ёй: «так альбо не», — яна адказала з ледзянымі вачыма:*

*— Выявіце раней свой шлях, а потым скажыце мне. (…)*

*— Досыць гуляць у хованкі. Трэба, каб трэці ведаў усё. Застанецеся вы з ім альбо не — хай вырашаюць гэтыя дні. Бо я больш не магу».* У той вечар на размову да Грынкевіча прыйшоў муж Горавай Міхаіл. *«Уначы плыве папяросны дым, // Я сам-насам з кяліхам віна. // Ў мяне размова мужчынская з тым, // Каго кахае яна»,* — напісаў Караткевіч у паэме «Плошча Маякоўскага». Сустрэча, зразумела, закончылася нічым.

*«Прайшоў і амаль увесь май, як праходзіць усё добрае на свеце. Пару разоў Андрэй ездзіў у Мінск. У яго адносінах з Ірынай нічога не змянілася. Цяпер яна не мучыла яго, але ўсяляк пазбягала. (…). Гэта станавілася нясцерпным. Андрэй ужо не мог ні есці, ні спаць. Горш за ўсё, што ён разумеў прычыну гэтага, але не мог не кахаць. Розум не меў ніякага дачынення да ўсяго, што з ім, Андрэем, адбывалася»,* — так расказваецца пра падзеі ў «Леанідах…».

«…*У канцы мая,* — працягвае аўтар рамана, — *вялікая група хлопцаў і дзяўчат разам з Горавай і Галінай Іванаўнай* (завучам літаратурных курсаў. — **Д. М.**) *паехала на некалькі дзён у Ленінград. Гэта было нешта накшталт развітальнага падарожжа. У чэрвені большасць з іх павінна была назаўсёды раз'ехацца па сваіх гарадах, пакінуўшы Маскву і адзін аднаго. Таму нават у весялосці прысутнічаў нейкі сум. І толькі Грынкевіч ехаў на поўнач радасны, бы ў вясельнае падарожжа. Быць з Ірынай у адным вагоне, жыць у адной гасцініцы, цэлы тыдзень быць*

*з ёю… (…). Не, гэта было такім нясцерпным шчасцем, што кружылася галава.…Гэта быў горад — мара. (…). Гэты горад быў падобны на тыя гарады, якія сняцца ў самых шчаслівых снах дзяцінства, аб якіх потым плачаш, не маючы змогі трапіць у згублены рай.* (…).

*І ён (…) ведаў: усе гэтыя дні яна аддасць толькі яму, толькі для яго. Усе. Цалкам. У гэтым быў нейкі горкі гонар, які даваў яму сілы жыць. Ірына сапраўды ўсё аддавала яму: кожны позірк, кожны рух, кожнае слова. (…) …Дзесяць дзён здаваліся вечнасцю. Дзесяць дзён прайшлі. За два дні да тэрміну яна атрымала выклік з Масквы».*

Неўзабаве пасля вандроўкі ў Ленінград адбылася вырашальная сустрэча. *«І тут яна павярнула да яго аблічча, нейкае такое незнаёмае аблічча, што ў Андрэя абарвалася ўнутры. Што ў ім было, у гэтым чужым аблічы? Вядома, было яно трохі больш змарнелым, чым заўсёды. Але галоўнае было не гэта, не пустыя вочы, нават не пасмяглыя вусны. Галоўным быў выраз. Быў на гэтым твары выраз такой грэблівай пагарды, што стократна горшы і за самую нянавісць. (…) …Наступнае патанула ў тумане. Часу не было. Ён не ведаў, гадзіны прайшлі ці дні. Бы ў п'янага, у вачах засталіся толькі рэдкія ўрыўкі падзей. А між тым, ён не піў ні кроплі. Наўрад ці ён і еў нешта ўсе гэтыя дні. (…). Сустрэў на вуліцы суседа па інтэрнаце. Той казаў нешта аб тым, што яго шукаюць тры дні… (…). Значыць, тры дні не начаваў там. А дзе? Гэтага ён не помніў».* Потым, *«дома, перад тым як легчы спаць, ён знішчыў вершы, прысвечаныя Ірыне, знішчыў усе паперы, дзе хаця б прыпаміналася яе імя. Ён падаў з ног ад стомы, але не мог спаць, пакуль у пакоі заставаліся сведкі яго слабасці і яго ганьбы».*

А вось сведчанні самога пісьменніка. 28 чэрвеня 1960 года Уладзімір Караткевіч пісаў Юрыю Гальперыну: *«Предстоит лето работы. Кончена Москва. А жаль немного. И хуже всего, что (…) оставил в Москве едва ли не самого дорогого мне человека. Так ничего у меня и не вышло. И ведь знаю, что не такой уж добрый она человек, что, может, и жалеть не стоит, а все равно так скверно на душе, что дальше некуда. Что называется, «не везет». Напоследок из-за всей этой неурядицы, из-за огорчений и предстоящей разлуки неделю беспробудно трескали с ребятами винище. Уж мы его жрали, лакали, уничтожали. И все равно много осталось этой пакости в мире.*

*А до этого был Ленинград и короткие дни вместе: музеи, сады, улицы. И о каждом доме легенда, а о каждой картине в музее хоть новеллу пиши. Я влюблен в этот город, в горбатые мостики, в начало белых ночей, в блоковские острова, в закат над стрелкою, в тени рогатых колонн на нем. И каждая улица освящена ею.*

*Нескоро я теперь, парень, смогу полюбить, много, наверное, огорчений принесу другим и нескоро, наверное, попаду в Ленинград. Только когда притупится все окончательно, а иначе — как на дорогую могилу ехать.*

*Может, ещё и сведет бог. Мои, на студии, предлагают через год отправить меня на два года в Москву на курсы сценаристов. Условия те же, и я не вижу причин отказываться. Все же это лучше, чем те два года вкалывать в редакции газеты»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 15. Л. 6).

## Доўгае развітанне

Той намер ажыццявіўся. У 1960–1962-х гадах Караткевіч зноў жыў і вучыўся ў сталіцы Саюза. Гэта была тая і не тая Масква. Здавалася б, горад

не паспеў істотна змяніцца. Нават жыў пісьменнік у тым жа інтэрнаце, што і раней. Але побач не было Ніны. Дакладней, была. Толькі не наяве, не побач, а на старонках рукапісаў і ва ўяўленні.

Яшчэ 16 сакавіка 1960 года Уладзімір Сямёнавіч напісаў Янку Брылю: «*І калі-небудзь, калі ўсё будзе скончана наўзаўсёды, я паспрабую апісаць гэта, каб самому яшчэ раз прайсці гэтай дарогай і правесці па ёй блізкіх і дарагіх людзей, для якіх я пішу заўсёды. І, магчыма, трошкі супакоіцца*». «Другі маскоўскі перыяд» стаў часам стварэння рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі». Твор пачаў пісацца ў верасні 1960-га і быў завершаны ў лютым 1962 года. Публікацыя адбылася ў майскім і чэрвеньскім нумарах часопіса «Полымя» за 1962 год.

На наступны год была запланавана аднайменная кніга, куды павінны былі ўвайсці раман і аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха». Але набор падрыхтаванага тома быў рассыпаны. Доўгі час «Леаніды…» заставаліся вядомы беларускаму чытачу толькі ў часопісным варыянце. На іншыя мовы раман не перакладаўся наогул. У 1982 годзе твор пад назвай «Нельга забыць» выйшаў асобнай кнігай. Таму Молева шчыра казала ў інтэрв'ю, што не чытала раман, паколькі не ведае беларускай мовы.

Між тым узаемаадносіны з Нінай Міхайлаўнай, цяжкія, балючыя, але такія прыцягальныя, то згасалі, то аднаўляліся зноў. У рамане Ірына Горава ўсё ж злучыла свой лёс з Андрэем Грынкевічам. І адначасова, згадзілася на аперацыю. Пасля яе правядзення сэрца  жанчыны не вытрымала.

Прызнацца, пакуль даследчыкі не маюць звестак, якія дазваляюць удакладніць узаемаадносіны

У. Караткевіча і Н. Молевай у «другі маскоўскі перыяд». Наогул, ці былі яны? Як у рэальнасці прайшла аперацыя? На апошняе пытанне адказаць прасцей. Калі ўлічваць факт, што Молева на радасць сваім чытачам жыве зараз, відавочна, усё прайшло добра.

У ліставанні пісьменніка з Ю. Гальперыным і І. Брылём асоба Ніны Міхайлаўны больш не ўзгадваецца. Між тым асобныя іншыя ўспаміны (падрабязнасці — гл. далей) сведчаць, што ў той час у пісьменніка былі іншыя захапленні.

Вядомы яшчэ адзін ліст Уладзіміра Сямёнавіча да Н. Молевай, які датаваны 26 сакавіка 1963 года. Караткевіч пісаў ёй з Мінску: *«Нина, милая! До сих пор не могу прийти в себя, и мне делается не по себе от воспоминаний о нашей последней встрече. Глупо как получилось, правда? Уезжал и видел в окне твоё лицо и руку. Что же это ты натворила, чертик из табакерки? (…).*

*Из-за дел нет даже времени на то, чтобы обосноваться на новом месте. Сижу в доме друга в своей комнате. Это самая окраина. За домом дорога, а дальше заснеженное поле. Временами льет дождь и ест снег так, что скоро появятся проталины. В полях стада ворон. Картина не очень веселая, но она вся полна какого-то неясного ожидания и предчувствия, как я сам. [Скоро весна, и я не думал, что она будет такой, что жизнь подарит мне Москву и тебя и все, чем только и может жить человек. Ничто ещё, как оказывается, не кончено.]».*

**«Адышло, адбалела, больш ужо не баліць…»**

Але час пступова браў сваё. Хутчэй за ўсё, узаемаадносіны Караткевіча і Молевай пасту-

пова пераўтварыліся ў сяброўскія. *«Валодзя хараша і пяшчотна сябраваў з ёю да самай сваёй жаніцьбы, хоць яна была замужам,* — узгадваў украінскі пісьменнік Мікалай Амельчанка, які вучыўся разам з Уладзімірам на Вышэйшых сцэнарных курсах. — *Нярэдка дапамагаў ей матэрыяльна, купляў падарункі. Калі я атрымаў на кінастудыі імя М. Горкага ганарар за сцэнарый, Валодзя пазычыў у мяне даволі вялікую суму. А на наступны дзень ен зайшоў да мяне і папрасіў накарміць яго абедам.*

*— Ты што, нават на абед сабе грошай не пакінуў?*

*— Не, — вінавата ўсміхнуўся ен, — яшчэ і не хапіла, давялося ў Боры Мажаева пазычаць…*

*Пазней я даведаўся, што Валодзя паабяцаў выкладчыцы да дня яе нараджэння купіць нейкую карціну імпрэсіяніста, на той час даволі моднага, паабяцаў — і купіў. Караткевіч свае абяцанні заўсёды выконваў.*

*Ад просьбы пазнаеміць мяне з ею адмахнуўся:*

*— Яна не спадабаецца табе. Непрыгожая. Але такая тонкая натура, разумніца.*

*Тая выкладчыца прывіла Валодзю звычку купляць альбомы з карцінамі мастакоў, кнігі па выяўленчым мастацтве і проста наборы паштовак».*

Пра характар кантактаў Ніны Молевай з Караткевічам сведчаць чатыры надпісы пісьменніка на сваіх кнігах, падараваныя сваёй колішняй выкладчыцы: *«Нине Михайловне — «Лазурь и золото дня» — от всего-всего сердца. Владимир. 30.IX.61. Москва»*, *«Дорогой Нине Михайловне Молевой на очень долгую добрую память. В. Короткевич. 15.III.69.»*, *«Милой Нине Михайловне — за Нерль. В. Короткевич. 15.III.69»*, *«Уважаемой Нине Молевой от — просто Владимира Короткевича. 1 июня 73 г.»*.

«Ото всего-всего сердца» — «дорогой» і «милой» — «уважаемой». У гэтых словах уся эвалюцыя стаўлення аўтара да адрасата. *«За лет восемь до смерти я видела его,* — згадвала Н. Молева. — *Просто разговаривали. Он, кажется, уже был женат»*...

Лёс герояў гэтай гісторыі склаўся па-рознаму. Муж Ніны Молевай, мастак і мастацтвазнаўца Элій Бялюцін у 1962 годзе выступіў арганізатарам знакамітай выстаўкі авангардыстаў у Манежы, якая выклікала шалёную рэакцыю Мікіты Хрушчова. 87-гадовы Бялюцін дагэтуль жыве ў Маскве. Ён — аўтар 17 манаграфій па тэорыі выяўленчага мастацтва. Творы Бялюціна знаходзяцца ў фондах 44 музеях Расіі, Францыі, Італіі, ЗША, Канады і іншых краін, у тым ліку ў Траццякоўскай галерэі, Санкт-пецярбургскім дзяржаўным музеі і Цэнтры Жоржа Пампіду ў Парыжы.

Сама Ніна Міхайлаўна, якой 83 гады, па-ранейшаму плённа працуе, выпускае даследаванні і нават раманы. Ва ўласнасці сямейнай пары знаходзіцца ўнікальная калекцыя заходнееўрапейскага мастацтва XV–XVII стагоддзяў. Між тым асобныя творы з яе Ірына Горава паказвала ў рамане Андрэю Грынкевічу.

## «І канец. Сталі толькі маім успамінам»

Ці быў непазбежнасцю такі фінал узаемаадносін Караткевіча і Молевай? Спынюся толькі на некалькіх момантах, якія дапамогуць зразумець аўтарскую пазіцыю.

10 лютага 1960 года, падчас знаходжання Н. Молевай за мяжой, У. Караткевіч напісаў прарочы верш «Снягір»:

*О радзіма, мой светач цудоўны, адзіны,*
*Явар мой, мой агністы снягір на сасне,*
*Ледзь цябе не забыў я з чужою жанчынай,*
*Што ў душы не хацела і ведаць мяне.*
*Ёй былі непатрэбныя звялыя травы,*
*І, ад вераса горкі, вятрыскі павеў,*
*І твая некрыклівая гордая слава,*
*І твая перамога, і мукі твае.*
*(…).*
*І канец.*
*Сталі толькі маім успамінам:*
*Ласка шэрых вачэй, заінелая скронь,*
*Лес нахмураны, хвоя, лябяжы іней*
*І рука, што лягла на маю далонь.*
*І для шчасця, для сонечнай вечнай кароны*
*Не хапіла мазка адзінага мне:*
*Не хапіла радзімы, іскры чырвонай,*
*Снегіра на заснежанай сіняй сасне».*
(«Снягір»).

Між тым Н. Молевай сапраўды былі не надта цікавымі караткевічаўская зямля і беларуская мова.

21 снежня 1959 года Караткевіч пісаў Гальперыну: *«Я дам ей очень большую нежность. И я должен дать ей покой и возможность безмятежно работать. Потому что она — талант, большая умница и человек великой души»* (БелДАМЛМ. Ф. 56. Воп. 2. Спр. 14. Л. 38–39). Але парадокс у тым, што для плёну пісьменніцкай працы менавіта будучая жонка Караткевіча павінна была даць яму спакой і магчымасць працаваць.

Вядома, што Валянціна Нікіціна вывучыла для яго беларускую мову. Менавіта яна стварыла

яму атмасферу духоўнага камфорту. Ці была здатная на такія ўчынкі Ніна Міхайлаўна? Хутчэй за ўсё, не. Раней ці пазней для творцы такія адносіны сталі б непрымальнымі і ў будучым маглі прывесці да канфліктаў.

Знайсці яшчэ адну прычыну расстання нам дапаможа асэнсаванне таго, якое месца займае Ніна Молева ў творчасці Караткевіча. У інтэрв'ю, апублікаваным у «Камсамольскай праўдзе», журналістка Вольга Анціповіч называе сваю суразмоўцу (са спасылкай на сяброў пісьменніка) «ракавой жанчынай». А вось цытата з рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі»: *«Я ведаю, яна не заўсёды добрая. Змучыла мяне… Год вар'ятам ха-джу, на апошніх нервах. Ведаю — часам зменлівая. Ведаю — часам гуляе са мною…»*. Прыведзеная вышэй перапіска пераконвае, што такую ацэнку можна распаўсюдзіць не толькі на раманных герояў, але і на ўзаемаадносіны Н. Молевай і У. Караткевіча.

Сярод знакамітых «ракавых жанчын» можна назваць Апалінарыю Суславу, чый вобраз знайшоў адлюстраванне ў многіх творах Дастаеўскага, і Лілю Брык, якой прысвечаны шматлікія творы Маякоўскага. З гераінь сусветнай літаратуры — Настассю Піліпаўну ў «Ідыёце» Дастаеўскага, Кармэн у аднайменнай навэле Мерыме і оперы Бізэ. Раманы ці дакументальныя творы пра пачуцці творцаў і «ракавых жанчын» чытаюцца ці глядзяцца на адным дыханні і заўсёды ўражваюць напалам пачуццяў. Але дзіўная рэч: пераважная большасць людзей, выходзячы вечарам з тэатра або закрываючы старонкі кнігі, вяртаюцца не да жанчын кшталту Кармэн, а да Мікаэлы, яе антыпода па оперы,

жывой і натуральнай дзяўчыны. Адносіны творцаў з «ракавымі жанчынамі» сапраўды актывізуюць іх працу, нахтняюць на новыя творы. Але здараецца, што адначасова і спустошваюць дашчэнту.

Няўжо вобраз Н. Молевай можа быць намаляваны толькі драматычнымі і згушчана-цёмнымі фарбамі? Вядома, не! Менавіта яна адкрыла Уладзіміру Караткевічу ўсю бязмежнасць чароўнага свету мастацтва і ўзняла яго да ўзроўню свайго разумення гэтай з'явы. Але адначасова акрэслілася і жахлівае несупадзенне! Для Ніны Міхайлаўны мастацтва было светам і сэнсам усяго існавання. Для Караткевіча — толькі часткай багатага і разнабаковага жыцця. Таму ў пэўны момант Уладзімір Сямёнавіч як пісьменнік пераўзышоў сваю былую настаўніцу і рушыў далей. Адзін — па прасторах жыцця…

# Навэла. Натэла. Валянціна

Як бачыць чытач, у адным раздзеле прадстаўлены адразу тры асобы. Паспрабую патлумачыць сваё рашэнне. Узаемаадносіны з гэтымі дзяўчынамі мелі месца ў 1960–1962-х гадах, калі Караткевіч вучыўся ў Маскве на Вышэйшых сцэнарных курсах. Цяжкасць заключаецца ў тым, што ва ўсіх трох выпадках мы маем толькі адну крыніцу інфармацыі, што пазбаўляе магчымасці яе праверыць.

## Навэла

Пра першых двух асоб згадвае ў сваіх успамінах украінскі пісьменнік Мікалай Амельчанка, калега пісьменніка па курсах. Працытуем першы ўрывак: «*Валодзя быў закаханы не ў прыгажунь. У жанчынах яго найбольш прываблівалі інтэлект, тонкасць пачуццяў, незвычайная духоўнасць і, канешне ж, сапраўдны талент. Якраз з гэтай прычыны мы сябравалі з адной таленавітай паэтэсай, дзяўчынай-бардам, песнямі якой захапляліся, як і творамі вядомага, славутага Булата Акуджавы. Яна часта прыходзіла да нас — ці да мяне, ці да Валодзі ў пакой — іграла і спявала. Караткевіч тады сядзеў каля яе ног на падлозе, не зводзіў з яе закаханых вачэй і неяк сказаў мне:*

*— А ты ведаеш, я з ёй ажанюся. Далі-бог, ажанюся.*

*У яе былі два істотныя недахопы — непрыгожасць і хваравітасць, пры якой яна не толькі не магла ездзіць у тралейбусе, лятаць у самалёце, але нават быць у цягніку, бо не вытрымліваў вестыбулярны апарат. Неяк я зайшоў на Вышэйшыя літаратурныя курсы, дзе яна вучылася.*

*Заняткі скончыліся, усе ішлі дахаты. Яна ўбачыла мяне і спытала: «Ці спяшаецеся Вы куды-небудзь?». Мне не было куды спяшацца, і мы пайшлі ў інтэрнат разам, канешне ж, пехатою. Хоць гэта і было вясною, але сонца паліла неймаверна. Я, ідучы па тратуары, стараўся, каб ягоныя промні меней траплялі на яе. Вёў Навэлу па зыбучай цені дрэў. Але праз нейкі час яна ўзяла мяне пад руку і падштурхнула ў цень. Я здзівіўся і сказаў ёй са смехам:*

*— Ты што, хочаш схаваць мяне ад сонца?*

*Яна засвяцілася сваёй сарамлівай і нейкай вінаватаю ўсмешкай і адказала:*

*— Ты прабач, калі ласка, але дрэвы хістаюцца, і мне ад гэтага кепска, галава кружыцца ад ценяў, якія скачуць па тратуары.*

*Так, трэба быць вельмі хворым чалавекам, каб станавілася кепска ад ценяў лістоты, якія слізгаюць па зямлі. Пазней я пачуў, што яна ўсё ж выйшла замуж, але не за Валодзю, а за нейкага іншага чалавека. Кажуць, што ён разносіў яе вершы па рэдакцыях. А пісала яна тады шмат, усё часцей і часцей вершы гэтай паэтэсы з'яўляліся ў «Новом мире».*

Мяркую, мемуарыст наўмысна называе толькі імя гераіні. З аднаго боку, апускае прозвішча. З другога, робіць дакладную падказку, якой цяжка было не скарыстацца. Дык вось, у 1960-я гады ў Расіі была толькі адна жанчына-бард з імем Навэла. Таму мяркую, што гаворка ідзе пра Навэлу Матвееву.

Яна нарадзілася ў пушкінскім Царскім Сяле ў 1934 годзе і была малодшая за Уладзіміра на чатыры гады. Навэла з дзяцінства пісала вершы, але пачала друкавацца ў 1958 годзе. Дагэтуль яна працавала ў дзіцячым доме, у 1962-м завочна закончыла Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным

інстытуце. На час знаёмства з Караткевічам у Матвеевай ужо выйшаў першы зборнік «Лірыка», яе прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Тады ж Навэла пачала сачыняць песні на ўласныя вершы і выконваць іх на гітары… Дарэчы, вось іронія лёсу, у «Лірыку» ўключаны вершы «Рэмбрант» і «Рубенс» — мастакі, якімі так захапляліся Караткевіч і Молева. Магчыма, закахаўшыся ў Навэлу, Уладзімір спадзяваўся знайсці другую Ніну?

У далейшым Н. Матвеева стала адным з самых арыгінальных рускіх паэтаў, хоць і дагэтуль да канца не зразумелая сучаснікамі:

*Когда потеряют значенье слова и предметы,*
*На землю для их обновленья приходят поэты,*
*Их тоска над разгадкой скверных, проклятых вопросов*
*Это каторжный труд суеверных старинных матросов,*
*Спасающих старую шхуну Земли.*

Навэла стала лаўрэатам Пушкінскай прэміі і Дзяржаўнай прэміі Расійскай Федэрацыі. У 1963 годзе яна выйшла замуж за паэта Івана Кіуру (памёр у 1992-м). Цяпер Н. Матвеева жыве ў Маскве.

## Натэла

Зноў прадаставім слова пісьменніку Мікалаю Амельчанку: *«Калі мы вучыліся на Вышэйшых сцэнарных курсах, Валодзя быў захоплены грузінкаю — разумнай і высокаадукаванай жанчынай. Помню, што адно вока ў яе касіла. Гэтая жанчына часта прыязджала да яго з Грузіі, тайком начавала ў інтэрнаце. Тайком,*

*таму што ні яна, ні Валодзя не хацелі, каб сябры, паэты, якія жылі побач, ведалі пра гэтую сувязь. Грузіны асуджалі тых жанчын, якія мелі пазашлюбныя стасункі з рускімі, хоць самі рабілі гэта з вялікай ахвотаю. Мяне Валодзя не баяўся, ды і Натэла, так звалі ягоную каханку, не саромелася. Калі я стукаўся ранкам да іх у пакой, яна дазваляла Валодзю ўпусціць мяне, прыкрывалася коўдраю да падбародка, віталася, міла і загадкава ўсміхалася і не здавалася касавокай. Каханне рабіла яе прыгажэйшай, чым гэта было ў сапраўднасці. У мяне ёсць фатаграфія, на якой яны зняты ўдваіх побач, нібыта муж і жонка. На адвароце яе даволі жартаўлівы надпіс: «Геніяльнаму ўкраінскаму пісьменніку ад грузінскага і беларускага геніяў».*

На жаль, іншыя звесткі пра Натэлу ў беларускіх даследчыкаў пакуль што адсутнічаюць.

## Валянціна

Адзінай крыніцай інфармацыі пра Валянціну Папову (Чакалаву) з'яўляюцца яе ўспаміны, змешчаныя ў лістападаўскім нумары часопіса «Полымя» за 2000 год. Аднак трэба прызнацца, што іх аўтар зрабіла ўсё магчымае, каб пакінуць прыхільнікам Караткевіча мінімум інфармацыі. Вядома, што Валянціна была малодшая за Уладзіміра Сямёнавіча на 10 гадоў. Яны пазнаёміліся 17 снежня 1961 года ў рэстаране «Будапешт» на вяселлі яе аднакурсніцы. Любімым месцам спатканняў з'яўляўся помнік беларускім партызанам у маскоўскім метро (у пераходзе паміж «Беларускай кальцавой» і «Беларускай радыяльнай»). Сустракаліся ў ягоным інтэрнаце, наведвалі выставы.

Паводле ўспамінаў, узаемаадносіны паміж Валянцінай і Уладзімірам мелі месца ў снежні 1961 — першай палове 1962 года. Неўзабаве пасля апошняга спаткання Караткевіч вярнуўся ў Мінск. У апошні ліст, які прыйшоў з Мінска, быў укладзены верш, дакладней, яго пераклад з беларускай мовы:

*Не хочу упиваться прошедшим,*
*Не хочу погибать в тоске.*
*Сегодня выпал, как цветы акации,*
*Последний мартовский снег.*
*Он скрипит под ногами от счастья,*
*Он поет о новых днях.*
*И любовь, как морские снасти,*
*Вновь способна поднять паруса.*
*Ночь со мною шагает к утру,*
*Чтобы встретить его поцелуем,*
*Новый день мой,*
*Новый рассвет,*
*Ты как призрак моего счастья.*

Больш лістоў не было. Валянціна, паводле яе словаў, *«дваццаць гадоў будавала падводныя лодкі для даследавання акіяна»*.

# Частка 3.

# У Мінску

## Валянціна

Інфармацыя пра перыяд 1963–1967-х гадоў пакуль што спрэчная. Першая дата звязана з апошнім вядомым лістом У. Караткевіча да Н. Молевай. Другая — са знаёмствам пісьменніка са сваёй будучай жонкай. Звесткі пра гэты час знаходзяцца на ўзроўні чутак. Адсутнасць дакументальных доказаў пазбаўляе нас права агучваць іх.

У 1967 годзе пісьменнік пазнаёміўся з Валянцінай Нікіцінай (дзявочае прозвішча Ватковіч). Выпускніца гістарычнага факультэта БДУ, яна працавала ў краязнаўчых музеях: раённым Аршанскім і абласным Брэсцкім. Закончыла аспірантуру Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі і ў 1965 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю па археалогіі (па паморскай культуры). Аднак потым была вымушана працаваць на кафедры гісторыі КПСС Брэсцкага педінстытута. Пазней, тлумачыўшы гэту сітуацыю, Валянціна Нікіціна казала: *«Захочаш есці — будзеш і такое выкладаць»*.

Наконт абставінаў знаёмства Валянціны і Уладзіміра існуе дзве версіі. Анатоль Верабей сцвярджаў, што яно адбылося 2 лістапада 1967 года ў Брэсцкім педінстытуце, дзе адбылося абмеркаванне творчасці Караткевіча. З ім згодны археолаг Міхась Чарняўскі. Той жа думкі прытрымліваецца

і Адам Мальдзіс. Паводле яго ўспамінаў, Уладзімір Калеснік запрасіў яго ў Брэст на чытацкую канферэнцыю па рамане «Каласы пад сярпом тваім». *«Разам са студэнтамі свайго курса, як куратар, прыйшла туды і Валянціна Баніславаўна. Канферэнцыя не дужа цікавіла яе, і яна, адседжваючы «мерапрыемства», чытала нейкі польскі дэтэктыў (дэтэктывы былі яе слабасцю). І калі ў прафесарскай Уладзімір Калеснік пазнаёміў іх, яна спытала:*

*— А чаму б вам не напісаць які дэтэктыў?*

*— Які, да прыкладу? — Валодзя сам страшэнна любіў добрыя дэтэктывы. Як і фантастыку.*

*— Ну, хаця б такі, як «Дзікае паляванне караля Стаха»… — аказваецца, Валянціна Браніславаўна неяк чытала ў цягніку часопіс з гэтай аповесцю, але не звярнула ўвагу, хто яе аўтар.*

*— Га-га! Тры: га! — разрагатаўся Валодзя. — Дык гэта ж я напісаў «Стаха»!*

*Валянціне Браніславаўне стала ніякавата, і яна прапанавала:*

*— Тады пайшлі піць каву…».*

А вось тэатразнаўца Ізабела Гатоўчыц, грунтуючыся на ўспамінах Валянціны, пісала, што сустрэча адбылася ў цягніку Берлін — Масква. Будучыя супругі ехалі ў адным купэ да Брэста. Прычым неўзабаве пасля знаёмства пісьменніка запрасілі на сустрэчу ў Брэст (відаць, менавіта пра яе вядуць гаворку А. Верабей, А. Мальдзіс і М. Чарняўскі).

Другая версія выглядае найбольш грунтоўнай. Што сведчыць на яе карысць? Слова Адаму Мальдзісу: *«Аднойчы раніцай, на самым пярэдадні Кастрычніцкіх свят 1967 года, Караткевіч прыбег да мяне ўзбуджаны:*

*— Разумееш, стары, я, здаецца, жанюся!*

*— І хто ж тая, што нарэшце цалкам запаланіла тваё сэрца?*

*— З Брэста. Валя. Валянціна Браніславаўна. Разумная жанчына. Гісторык, дакладней, археолаг, і дысертацыю абараніла. (…)*

*— Дык што ж тады цябе бянтэжыць? — не стрывала мая Марыя* (жонка А. Мальдзіса. — **Д. М.**).

*— Разумееце, старыя, я запрасіў яе на свята да сябе і толькі ў цягніку ўспомніў, што мы ўсе запрошаны ў Ракаў, на вяселле Рагойшавага Славы.*

*— То вазьмі і яе з сабой.*

*— А выпадае?*

*— Чаму ж…»*

На маю думку, Караткевіч мог запрашаць у госці Валянціну толькі пасля пэўнага знаёмства. Калі б сустрэча адбылася толькі на канферэнцыі, наўрад ці б у іх была дастатковая колькасць часу, каб завязаць пэўныя кантакты. Валянціна Браніславаўна магла адмовіцца ад такога падарожжа праз некалькі дзён пасля знаёмства. А падарожжа ў цягніку магло прывесці да большай шчырасці. Прычым якраз там мог адбыцца дыялог пра «Дзікае паляванне караля Стаха».

У любым выпадку Валянціна прыняла запрашэнне Караткевіча. Яны разам паехалі на вяселле літаратуразнаўцаў Вячаслава Рагойшы і Таццяны Кабржыцкай, што цэлы тыдзень праходзіла ў Ракаве на лістападаўскія святы (адзначалася 50-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі). Першая рэакцыя некаторых знаёмых была не надта тактоўнай. Некаторыя «максімалісты» сказалі Валянціне за сталом прама ў вочы: *«Раз дрэнна гаворыш па-беларуску, то ты*

*яму не пара»*. Для аб'ектыўнасці трэба сказаць, што неўзабаве Валянціна Нікіціна вывучыла беларускую мову, прычым, паводле словаў А. Мальдзіса, стала размаўляць на ёй лепш за сваіх нядаўніх крытыкаў.

Але больш істотна было тое, што паміж Уладзімірам і Валянцінай расла ўзаемная сімпатыя. Нездарма Максім Танк ужо 3 студзеня 1968 года пісаў Ларысе Геніюш: *«Сустрэў Калесніка, ад якога і даведаўся, што Уладзімір закахаўся ў Брэсце ў харошую дзяўчыну»*. Відавочна, гэтая сустрэча адбылася ў снежні, калі з часу знаёмства не прайшло і два месяцы.

Паколькі закаханым хацелася бачыцца часцей, Караткевіч парушыў свой прынцып (ні за каго не прасіць) і дапамог уладкаваць Валянціну ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук. Таму летам 1969 года яна пераехала ў Мінск. Калегі запомнілі Валянціну *«блакітнавокай у акулярах бландзінкай, крыху паўнаватай, але зграбнай, у маленькай чорнай класічнай сукенцы, якая ёй вельмі пасавала»*. Справай яе прафесійнага жыцця стаў удзел у стварэнні «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Як пісаў Адам Мальдзіс, тое, што зрабіла Валянціна Браніслаўна для падрыхтоўкі «Збору…», для таго, каб *«ён ішоў «без купюр», можна смела назваць навуковым подзвігам, грамадзянскай мужнасцю. Яна бясконца ездзіла ў экспедыцыі, абараніла не адзін помнік архітэктуры, пісала сама артыкулы і брашуры і рэдагавала чужыя»*. У 1990 годзе Валянціна Караткевіч (пасмяротна) разам з іншымі аўтарамі была ўзнагароджана за выданне Дзяржаўнай прэміяй БССР.

Як сцвярджае І. Гатоўчыц, *«амаль з першых дзён працы Валі да нас пачаў заходзіць Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч»*. Зрэшты, пасля пераезду ў Мінск

Валянціна жыла ў сям'і пісьменніка. Але шлюб, які *«цягнуўся ўжо некалькі гадоў»*, быў зарэгістраваны толькі 19 лютага 1971 года. Валянціна, якая ўзяла прозвішча мужа, абмяняла сваю двухпакаёўкай ў Брэсце на пакой у Мінску. Праз два гады гэты пакой разам з двухпакаёвай кватэрай Караткевіча на вуліцы Веры Харужай абмянялі на трохпакаёвую кватэру (на вуліцы Карла Маркса). Там Валянціна, Уладзімір і маці пісьменніка жылі да сваіх апошніх дзён.

Зразумела, у параўнанні з папярэднімі гераінямі даследавання вобраз Валянціны прадстаўлены ў мастацкай літаратуры дастаткова сціпла. Са значных твораў пісьменнік прысвяціў ёй толькі раман «Чорны замак Альшанскі» (1979): «*В. К., якой гэты раман абяцаў дзесяць год назад, з удзячнасцю*». Прычым сам Уладзімір Сямёнавіч жартоўна прызнаваўся, што паабяцаў ёй напісаць дэтэктыўны твор у першы дзень знаёмства.

Але мяркую, што Караткевіч нарэшце знайшоў у Валянціне свой ідэал і асабістае шчасце. Як змянілася жыццё Уладзіміра са з'яўленнем у яго сям'і Валянціны? Слова яго сябрам. Як сцвярджаў археолаг М. Чарняўскі, *«Валянціна стала яму і жонкай, і ахоўніцай, і нянькай, і медсястрой, і лекарам. Найперш яна разагнала прыліпал з бутэлькамі, частка якіх мэтанакіравана старалася спаіць пісьменніка. Яна ўпарадкавала яго побыт, апекавалася, вызваляючы час для творчасці, ствараючы для гэтага ўтульнасць і спакой»*. Той жа думкі прытрымліваецца літаратуразнаўца А. Мальдзіс: *«З прыходам у дом Валянціны Браніславаўны ў многім змяніўся ўклад Валодзевага жыцця. Нягледзячы на сваю навуковую занятасць, яна ўзяла на сябе многія бытавыя клопаты. Перасталі наведвацца некато-*

*рыя знаёмыя з «халасцяцкімі» звычкамі. Іх месца занялі калегі па рабоце Валянціны Браніславаўны».* У новай кватэры ў пісьменніка нарэшце *«з'явіўся асобны кабінет для работы. Ажаніўшыся, Караткевіч стаў часцей адпачываць — у сваім любімым Кактэбелі, а таксама ў Гаграх, Дубултах. Хоць і ўсялякае бывала ў жыцці, Караткевіч быў удзячны жонцы за яе паўсядзённыя клопаты».*

Валянціне і Уладзіміру было адмерана крыху больш, чым дзесяцігоддзе сямейнага шчасця. Пра іх узаемаадносіны сведчыць той факт, што пісьменнік цяжка перажываў хваробу жонкі. 28 лютага 1983 года Валянціна Браніславаўна пакінула гэты свет. 25 ліпеня 1984 года Уладзімір Сямёнавіч паследаваў за ёй.

Ужо пасля смерці Валянціны ўкраінскі пісьменнік Мікалай Амельчанка *«спытаў у Валодзі, якой усё-ткі была яго жонка, бо сам Валю так і не ўбачыў. І ён адказаў сумна, крыху падняўшы галаву, гледзячы ў цёмнае неба, нібыта дзесьці там, у невядомай вышыні, убачыў яе:*

*— Яна не была прыгажуняю, але валодала дзіўнай духоўнай абаяльнасцю. Яна была каралевай духоўнасці…».*

# Раздзел II.
# Калі прыйдзе беларускі Андрэ Маруа?

## Як стварыць літаратурную біяграфію

*Палемічныя нататкі*

Кожная нацыянальная літаратура (а таксама звязаныя з ёй навукі, у прыватнасці, літаратуразнаўства), з'яўляецца сваім адасобленым светам, сваёй цывілізацыяй. Аднак кожная з іх існуе па агульных для ўсіх законах. Перыядычна нацыянальная літаратура сустракаецца з пэўнымі цяжкасцямі, пераадоленне якіх дазваляе акрэсліць і завастрыць надзённыя праблемы, што паўсталі ў грамадстве, спрыяе росту цікавасці да твораў і далейшаму развіццю прыгожага пісьменства. Калі карыстацца тэрміналогіяй англійскага гісторыка Арнольда Тойнбі, якую ён ужыў для характарыстыкі сусветных цывілізацый, гэта катэгорыі «выкліку» і «адказу».

Ці не першым такім выклікам было пытанне аб праве беларусаў «людзьмі звацца», размаўляць і пісаць на сваёй мове, у выніку чаго беларуская літаратура падаравала свету «нашаніўскае адраджэнне», творчасць Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага… Праз дзесяцігоддзі пасля Вялікай Айчыннай вайны з'явілася неабходнасць расказаць пра яе не ў гераічна-пафасным стылі, а паказаць яе як найвялікшую сусветную трагедыю. Так у савецкай мастацкай прасторы з'явілася «лейтэнанцкае пакаленне», а ў беларускую літаратуру прыйшоў Васіль Быкаў. Няўвага да свайго мінулага і сваіх каранёў

сфарміравала ў беларускім пасляваенным грамадстве нацыянальны нігілізм. Такі дыягназ яшчэ ў «Лістках календара» канстатаваў Максім Танк, які зазначыў, што беларуская літаратура зачакалася свайго Вальтэра Скота. Неўзабаве ў літаратурнай прасторы з'явіўся Уладзімір Караткевіч. Казаць пра канчатковае вырашэнне «гістарычнага пытання» яшчэ рана, але ўражвае, колькі зроблена за апошнія дзесяцігоддзі.

Апошнім часам нацыянальная літаратура часам з большым, часам з меншым поспехам спрабавала вылучыць у сваіх шэрагах аўтараў-фантастаў, крочыць у нагу з суседзямі ў дэтэктыўнай сферы, «прышчапіць» на беларускім дрэве постмадэрнісцкія традыцыі.

Цяпер жа перад намі паўстаў новы выклік — **праблема разрыву паміж грунтоўна напісанымі літаратуразнаўчымі даследаваннямі, непадрыхтавай да іх чытацкай аўдыторыяй і амаль поўнай адсутнасцю папулярных біяграфій пра жыццё літаратурных класікаў**. Інакш кажучы, праблема адсутнасці ў беларускай літаратурнай прасторы свайго Андрэ Маруа (знакаміты французскі пісьменнік, аўтар бліскучых біяграфій Шэлі, Байрана, Вальтэра, Шатабрыяна, Жорж Санд, Гюго, Дзюма, Бальзака і шэрагу іх калег па пяру).

Вырашэнне пастаўленай праблемы можна падзяліць на два аспекты: **стварэнне папулярнай літаратуры для навучэнцаў і для дарослых.** Як не згадаць традыцыі савецкіх часоў, калі для малодшых і сярэдніх школьнікаў было напісана мноства папулярных выданняў? Памятаю, маё знаём-

ства з гісторыяй рускай літаратуры пачалося з кнігі Надзеі Шэр «Апавяданні пра рускіх пісьменнікаў». Вядома, у той кнізе былі свае маленькія недахопы: у катэгорыю класікаў — за сваё дзекабрысцкае мінулае — трапіў Рылееў, не было Дастаеўскага (зрэшты, можа, школьнікам сапраўды было зарана чытаць пра Радзёна Раскольнікава?), гістарычныя недакладнасці сустракаліся ў апісанні грамадскай пазіцыі Горкага. Але біяграфіі Пушкіна, Лермантава, Тургенева, Талстога, Чэхава, іншых рускіх пісьменнікаў былі прачытаны на адным дыханні яшчэ да знаёмства з іх асноўнымі творамі. Прынцып пабудовы тэксту фарміраваўся як храналагічна-біяграфічны, але ў адпаведных раздзелах гаворка ішла пра змест, сэнс і значэнне найбольш вядомых аповесцяў і раманаў. Такім чынам, адбывалася своеасаблівая падрыхтоўка да іх ўспрымання. Аўтар станавіўся не чужым і халодным пісьменнікам з партрэта, які вісеў над дошкай у класе рускай мовы і літаратуры, а жывым чалавекам, аднадумцам, старэйшым сябрам, чытанне твораў якога ператваралася з абавязку ў свята.

Можа падацца, што такія кнігі варта чытаць толькі ў школьныя гады. Але звычайна яны напісаны проста, даступна, без прэтэнзій на літаратуразнаўчыя і мастацтвазнаўчыя адкрыцці, у якіх часам можна заблытацца. Таму ідэальна падыходзяць да знаёмства з раней невядомым светам. Адначасова такія выданні дапамагаюць атрымаць грунтоўныя, базавыя веды па тых сферах мастацтва, якія па пэўных прычынах у маладосці аказаліся па-за сферай увагі. Таму той, хто зацікавіцца гісторыяй балета, наўрад ці абміне кнігу Валянціны

Пасюцінскай «Чароўны свет танца», пачынаючым тэатралам прыйдзецца даспадобы праца Аляксандра Кузьміна «Ля вытокаў рускага тэатра», а аматары оперы не прапусцяць выдання «У свеце оперы» пад аўтарствам Людмілы Міхеевай і Таццяны Розавай. Нават папулярная расійская энцыклапедыя «Аванта+», хоць афіцыйна і разлічана на школьнікаў, можа прыдацца нават пры падрыхтоўцы да семінараў у ВНУ.

Ці выдаваліся кнігі такога кшталту ў Беларусі? Ці могуць беларускія школьнікі даведацца пра падрабязнасці біяграфіі беларускіх пісьменнікаў, знакамітых драматычных артыстаў, спевакоў? Баюся, адказам будзе маўчанне.

Што датычыцца **кніг для дарослых**, дык пакуль што адзіная паўнавартасная папулярная біяграфія беларускага пісьменніка выйшла яшчэ ў 1982 годзе ў Маскве ў знакамітай серыі «ЖЗЛ». Гаворка, як можна здагадацца, пра кнігу Алега Лойкі «Янка Купала». (Праз два гады, у 1984-м, раман-эсэ «Як вада, як агонь…» выйшаў асобнай кнігай у Мінску, у выдавецтве «Мастацкая літаратура»).

У большасці чытачоў раман выклікаў неверагодную цікавасць і захапленне. Смеласцю ў абмалёўцы вобраза галоўнага героя, тонкай псіхалагічнай пераканальнасцю, захоплена-рамантычным ракурсам успрымання творчасці класіка беларускай літаратуры і культавай асобы. Варта заўважыць, што такая значная праца, як «Янка Купала», магла з'явіцца толькі дзякуючы шматграннасці асобы яе аўтара, які спалучаў у сябе вядомага літаратуразнаўцу, аўтара шматлікіх артыкулаў і аглядаў, аўтара грунтоўнай «Гісторыі беларускай

літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд» і адначасова паэта, чулага да праяў паэтычнага таленту іншых.

Разам з тым раман і цяпер выклікае палеміку ў пэўных літаратурных і мастацкіх колах. На думку апанентаў, у асобных яго раздзелах адчуваецца водгулле савецкага часу. У А. Лойкі можна сустрэць і крыху іранічнае стаўленне да асобных дзеячаў беларускага нацыянальнага руху, і факты, якія трактуюцца зусім не гістарычна. Магчыма, цяпер асобныя раздзелы «Янкі Купалы» патрабуюць пэўных каментарыяў. Але заўзятыя крытыкі, якія самі наўрад ці здолеюць напісаць нешта падобнае, не ўлічваюць, што гэта ці адзіная кніга такога жанру, напісаная для чытача, а не для спецыяліста. Чытаецца яна лёгка, аналіз твораў і разгляд падзей жыцця паэта арганічна паядноўваюцца.

Таму сітуацыя з літаратурнымі біяграфіямі ў нашых усходніх суседзяў выглядае марай-ідэалам. Ва ўзгаданай вышэй серыі «ЖЗЛ» у свой час выходзілі біяграфіі Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Някрасава, Чэхава, Цютчава, Дастаеўскага, Салтыкова-Шчадрына — там прадстаўлены практычна ўсе буйнейшыя асобы рускай літаратурнай класікі XIX стагоддзя. Можа, уся справа ў тым, што росквіт нашай літаратуры адбыўся на стагоддзе пазней і мы яшчэ не паспелі сабраць неабходныя матэрыялы? Але тут варта згадаць пра бліскучую працу Дзмітрыя Быкава, Барыса Пастарнака, які памёр на чатыры гады пазней за Якуба Коласа, у 1960-м. Або фундаментальнае выданне Людмілы Сараскінай, якая мае 992 старонкі (!) і прысвечана жыццю і творчасці Аляксандра Салжаніцына? Кніга пачала стварацца яшчэ пры

жыцці героя і выйшла ў 2008–м, у год яго смерці.

Хтосьці справядліва заўважыць, што сучасных біяграфій беларускіх пісьменнікаў нашмат больш, і згадае нарыс «Абуджаная памяць» Анатоля Верабея пра Уладзіміра Караткевіч, «Нескароны талент» Міхася Мушынскага пра Міхася Зарэцкага, даследаванні «Іван Шамякін: нарыс жыцця і творчасці» Віктара Каваленка, «Іван Чыгрынаў» Алеся Марціновіча, «Іван Мележ» Уладзіміра Гніламёдава… Але **ўсе пералічаныя кнігі з'яўляюцца не біяграфіямі, а нарысамі жыцця і творчасці**, з тым удакладненнем, што ўласна творчасць дамінуе. Магчыма, гэта, так бы мовіць, літаратура больш высокага пілатажу. Але яна патрабуе і большай падрыхтаванасці ад чытачоў. Бо калі хаця б асобныя творы пісьменніка раней не былі прачытаны, адкрываць старонкі такіх нарысаў будзе псіхалагічна складана.

Відавочна, што нарысы жыцця і творчасці павінны з'яўляцца наступным этапам пасля папулярных біяграфій. Таму давайце ўявім, што мы з вамі — маладыя даследчыкі літаратуры, якія вырашылі напісаць такую папулярную біяграфію аднаго з беларускіх класікаў, якая б прымусіла ўсіх чытаць яго творы. Каб чуткі пра яе пайшлі не толькі па нашай зямлі, але і «па ўсёй Русі вялікай», і па Еўропе, і па Амерыцы. Наіўныя! Мы нават не здагадваемся, колькі праблем чакае нас наперадзе.

Каркасам альбо «шкілетам» любой біяграфічнай працы з'яўляецца факталогія. Інакш кажучы, **летапіс жыцця і творчасці пісьменніка**. Але зараз вядомы толькі тры «летапісы», выдадзеныя асобнымі выданнямі. Яны прысвечаны жыццю

і творчасці Якуба Коласа (кніга Міхася Мушынскага), Максіма Гарэцкага (Таццяна Дасаева) і Міхася Лынькова (Міхась Кенька). У іх уведзены ва ўжытак як інфармацыя дзённікаў, асабістай перапіскі творцаў, так і архіўныя матэрыялы, і вынік працы іншых даследчыкаў. Астатнія «летапісы» звычайна змешчаны ў зборах твораў пісьменнікаў і змяшчаюць толькі асноўныя даты яго жыцця і творчасці.

У ідэале неабходны матэрыял для напісання біяграфій павінны прапаноўваць **навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя творчасці таго ці іншага пісьменніка**. У Беларусі іх праводзіцца нібыта дастаткова. На агульным фоне найбольш плённай выглядае праца арганізатараў «Каласавін» і Гарэцкіх чытанняў, якія штогод ладзяць канферэнцыі і пры гэтым своечасова выдаюць зборнікі дакладаў. Зрэшты, гэта сапраўды падзвіжніцкая праца групы энтузіястаў, сканцэнтараваных вакол музея Якуба Коласа і Фонду імя братоў Гарэцкіх, пакуль што не ацэнена як след і, на жаль, не зрабілася прыкладам у літаратуразнаўтве.

Тройчы (1995, 2005, 2010) у Оршы ладзіліся канферэнцыі, прысвечаныя Уладзіміру Караткевічу. Калі матэрыялы першай выйшлі праз пяць гадоў, у 2000-м, дык матэрыялы другой дагэтуль чакаюць свайго выдаўца. На працу «Караткевічаўскіх чытанняў» напрамую паўплывала і асабістае знаёмства большасці яго ўдзельнікаў з пісьменнікам, чаго, па зразумелых прычынах, не магло адбыцца на «Каласавінах», а тым болей на Гарэцкіх чытаннях. Таму, калі першыя чытанні больш нагадвалі канферэнцыю, дык

другія пераўтварыліся, па сутнасці, у вечар памяці Караткевіча, дзе замест уласна навуковых дакладаў пераважалі аповеды кшталту «Уладзімір Сямёнавіч і я» або (пры меншай сціпласці дакладчыка) «я і Уладзімір Сямёнавіч».

У Магілёве на базе ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова таксама праводзяцца аднайменныя чытанні. Прызнацца, давялося трымаць у руках толькі зборнік 2006 года, але ўбачанае расчаравала: ад Куляшоўскіх чытанняў засталася толькі… назва. З 322 старонак пульхнага зборніка толькі 5 дакладаў было прысвечана творчасці паэта.

Раз у два гады ладзіцца канферэнцыя, прысвечаная творчасці Янкі Купалы. Тэмамі Узвышаўскіх чытанняў перыядычна становіцца творчасць таго ці іншага пісьменніка, які належаў да аднайменнага літаратурна-мастацкага згуртавання (Змітрака Бядулі, Тодара Кляшторнага, Кузьмы Чорнага, Антона Бабарэкі і іншых). Перыядычна ладзяцца канферэнцыі, прысвечаныя творчасці Максіма Багдановіча, Адама Міцкевіча, Уладзіміра Калесніка. Вясной 2008 года ў Слуцку прайшлі першыя Віткаўскія чытанні.

Іншыя канферэнцыі адбываліся толькі аднойчы і па шэрагу прычын не мелі свайго працягу (Адамовіцкія чытанні; канферэнцыя ў БДУ, прысвечаная Васілю Быкаву; канферэнцыі пра жыццё і творчасць Пятруся Броўкі і Пятруся Глебкі).

Агульнай праблемай для ўсіх канферэнцый з'яўляецца вузкае кола іх удзельнікаў, якое не змяняецца гадамі, слабы прыток маладых даследчыкаў, а таксама тэматыка дакладаў, якая ў працах асобных літаратуразнаўцаў робіць «кругавую эвалюцыю»

і часта вяртаецца да таго, пра што ўжо вялася гутарка некалькі гадоў таму.

Дастаткова каштоўнай крыніцай інфармацыі павінны з'яўляцца **ўспаміны пра пісьменніка**. Але многія з іх маюць адну істотную загану: замест таго, каб падзяліцца каштоўнай інфармацыяй, аўтары часцей згадваюць пра саміх сябе ў сувязі з аб'ектам успамінаў, прэтэндуюць на ролю яго галоўнага сябра, шкадуюць, што пісьменніка не ацанілі як след пры жыцці. Ва ўсіх такіх тэкстах пісьменнік выступае проста ідэальнай асобай, анёлам, які спусціўся на грэшную зямлю. Ад колькасці падобнага ялею часам становіцца прыкра. Сорамна прызнацца, але часам нейкія «адмоўныя», а значыць больш рэальныя штрыхі да біяграфіі, спрэчныя меркаванні ці паводзіны ўспрымаюцца з радасцю, бо манументальная постаць становіцца жывой і больш блізкай.

Абсалютна не адлюстроўваюцца ва ўспамінах ўзаемаадносіны пісьменнікаў з калегамі. Па-першае, як ужо адзначалася, колькасць яго сяброў павялічваецца з часам у геаметрычнай прагрэсіі. Па-другое, калі праходзіць пэўны час, зразумець сапраўдныя адносіны паміж творцамі становіцца ўсё больш складана. З лепшымі сябрамі ўсё больш зразумела. Агульнавядома, што Шамякін сябраваў з Макаёнкам, Караткевіч — з Барадуліным, Быкаў — з Карпюком і Адамовічам. Але як, напрыклад, ставіліся адзін да аднаго Быкаў і Шамякін, даследчыкі звычайна не згадваюць (хоць асобныя месцы ў мемуарах Быкава дазваляюць меркаваць, што адносіны іх аўтара да Шамякіна былі крыху іранічнымі). Таму ва ўспамінах пісьменнікі, здараец-

ца, выглядаюць не жывымі людзьмі, а «абшчынай талстоўцаў», якія толькі і думалі, як не пакрыўдзіць адзін аднаго. Але калі літаратура — адлюстраванне жыцця, дык чаму творцы не маглі паводзіць сябе ў адпаведнасці з жыццёвымі законамі? Чаму сярод асноўных дат жыцця і творчасці Тургенева, змешчанага напрыканцы яго біяграфіі ў серыі «ЖЗЛ» (даследаванне Юрыя Лебедзева), можна называць канфлікт з Талстым і Дастаеўскім? Цяжка ўявіць такую сітуацыю ў беларускіх выданнях. І таму часта атрымліваецца, што кнігі ўспамінаў ёсць, а фактalogii ў іх няма.

У беларускім літаратуразнаўстве надзіва мала — у параўнанні з нашымі суседзямі — надаецца ўвага **ролі жанчын у творчасці пісьменнікаў**. Прозвішчы Ганны Керн і Лізаветы Варанцовай, Кацярыны Сушковай, Паліны Віардо, Алены Дзянісьевай («дзянісьеўскі цыкл» Цютчава), Апалінарыі Суславай, іншых муз і спадарожніц жыцця знакамітых людзей ужо даўно сталі легендамі. Іх лёсы, уплыў на творчасць класікаў становяцца тэмамі як часопісных публікацый, так і грунтоўных даследаванняў (як класіку жанру згадаем працу Людмілы Сараскінай «Каханая Дастаеўскага: Апалінарыя Суслава: біяграфія ў дакументах, лістах і матэрыялах»). А што мы ведаем пра Уладзіславу Францаўну — жонку Янкі Купалы? Пра першую і другую жонку Васіля Быкава? Памятаю, пасля прачытання трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» узнікла цікавасць да дзяўчыны, якая зрабілася прататыпам Ядвісі — галоўнага жаночага персанажу твора. Але ўсё, што давялося знайсці, аказалася невялікай згадкай у кнізе

Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе».

Вядома, асобныя ўзаемаадносіны вывучаны больш грунтоўна. Дастаткова згадаць цікавую палымянскую публікацыю, якая аналізавала перапіску Якуба Коласа і Святланы Сомавай. Але гэта, на жаль, пакуль што выключэнне.

Але што даследаванні! Мы часта нават не ведаем, каму прысвечаны той ці іншы хрэстаматыйны твор… Напрыклад, сын Петруся Броўкі ўспамінаў, што бацька ніколі не расказваў, каму быў прысвечаны знакаміты верш «Пахне чабор». Але можна падумаць, што Пушкін ці Лермантаў рабілі камусьці падобныя прызнанні! Не, на гэты конт сярод літаратуразнаўцаў ішлі сапраўдныя дыскусіі, але часцей за ўсё аб'ект перажыванняў таго ці іншага класіка акрэсліваўся і ўстанаўліваўся. У нас жа часам складваецца ўражанне, што такі клопат наогул нікому не патрэбны. Адзінае выйсце ў такой сітуацыі — самому пісьменніку расказаць пра жанчыну свайго жыцця, як тое зрабілі Іван Шамякін у аповесці «Слаўся, Марыя!» ці Ніл Гілевіч — у кнізе «Добры анёл беларускасці: Штрыхі да партрэта Ніны Іванаўны Гілевіч».

Зразумела, што пры падрабязным разглядзе біяграфіі пісьменніка немагчыма абмінуць яго творчасць. Вось тут даследчыкам не абысціся без **поўных збораў твораў**. Але прыкладаў такіх выданняў беларуская навука налічвае няшмат: 3 тамы са спадчыны Максіма Багдановіча і 9 тамоў (у 10 кнігах) — Янкі Купалы. Выданне 20-томніка твораў Якуба Коласа і 15-томніка Максіма Танка, якія ажыццяўляюцца цяпер, з'яўляюцца разам з асобнымі іншымі

выданнямі толькі набліжанымі да поўных. Большасць жа збораў спадчыны пісьменнікаў змяшчаюць толькі іх празаічныя, паэтычныя і драматургічныя творы, а вось перапіска пры гэтым часта ігнаруецца. А як жа расказаць пра паўсядзённае жыццё аўтараў без аналізу эпісталярнага жанру?

Відавочна, што перад даследчыкамі, якія жадаюць працаваць над папулярызацыяй айчыннай літаратуры, паўстае шэраг праблем. Асобныя з іх могуць быць вырашаны толькі пры падтрымцы дзяржавы. Ці праз стварэнне спецыяльнай праграмы па прапагандзе беларускай літаратуры. Ці нават праз заснаванне ў структуры Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы Нацыянальнай акадэміі навук аддзела, які займаўся б напісаннем кніг такога кшталту. Але акрамя матэрыяльнага заахвочвання, патрэбна яшчэ і ўсведамленне неабходнасці такой працы. Па прымусу таленавіты раман-біяграфію напісаць немагчыма.

На першы погляд можа здавацца, што літаратуразнаўства развіваецца надзіва шпаркімі тэмпамі. І сапраўды, ствараюцца калектыўныя працы, выходзяць манаграфіі, абараняюцца дысертацыі. Але такі спакой не можа быць падставай для аптымізму. Нагадаю савецкія часы, калі кнігі пісьменнікаў выходзілі фантастычна высокімі накладамі, але сфера ўжывання беларускай мовы няўхільна скарачалася. Да пэўнага часу, пакуль удзельнікамі літаратурнага працэсу (пісьменнікамі і чытачамі) з'яўлялася пакаленне, якое, прынамсі, у дзяцінстве, гадавалася ў беларускамоўным

асяроддзі, справы ішлі нібыта нядрэнна. Але магла ўзнікнуць такая сітуацыя, калі праз некалькі дзесяцігоддзяў прозу і паэзію, акрамя іншых творцаў, ужо не было б каму чытаць.

Тое самае можа ў далёкай перспектыве адбыцца і з літаратуразнаўствам. Даследаванні для навукі, іншых навукоўцаў і саміх сябе — гэта, вядома, добрая справа. Але для забеспячэння непарыўнасці працэсу, яго падпіткі новымі маладымі кадрамі проста неабходна, каб хоць бы частка прац тэарэтыкаў станавілася здабыткам досыць шырокага кола чытачоў. Тады, магчыма, з сотні зацікаўленых чытачоў дзясятак будучых навукоўцаў калі-небудзь напішуць уласнае даследаванне. Тыя ж, каго абставіны накіруюць на іншыя жыццёвыя сцежкі, прынамсі, атрымаюць уяўленне пра законы і традыцыі прыгожага пісьменства.

«Залаты век» кожнай літаратуры не прыходзіць з узмахам чарадзейнай палачкі добрага чараўніка. Яго чакаюць, але да яго і рыхтуюцца, пераадольваюць праблемы і такім чынам адказваюць на выклік часу. Мажліва, тады новы росквіт беларускай літаратуры, пра які ў глыбіні душы марыць кожны чытач, неўзабаве стане рэальнасцю…

## Пераможцы і пераможаныя
## (рэцэпты для гістарычнай прозы)

Гістарычная літаратура заўсёды была ў пашане ў нашых суседзяў — як на Захадзе, так і на Усходзе. Прычым пісьменнікаў, якія аддавалі перавагу гістарычнаму жанру, высока ацэньвалі як чужыя, так і свае. Дастаткова згадаць, што палякі Генрых Сянкевіч і Уладзіслаў Рэймант (аўтар рамана «Апошні сейм Рэчы Паспалітай», дзеянне якога адбываецца ў 1793 годзе ў Гродне) сталі лаўрэатамі Нобелеўскай прэміі па літаратуры (адпаведна ў 1905 і 1924 гадах). А ў Польшчы ў гонар загінуўшых герояў «Трылогіі» Сянкевіча нават заказвалі памінальныя службы. Што тычыцца Расіі, дык тут за прыкладамі далёка хадзіць не трэба: гістарычныя дэтэктывы нашага сучасніка Барыса Акуніна, дзеянне якіх адбываецца ў апошнія дзесяцігоддзі XIX — пачатку XX стагоддзя, ужо даўно зрабіліся бестселерамі, а іх аўтар — даволі багатым чалавекам. Дастаткова сказаць, што пачатковы наклад адной з апошніх кніг пісьменніка — «Нефрытавых пацерак» — склаў 500 тысяч, і гэта толькі пачатак! На падставе і польскіх і расійскіх раманаў паспяхова здымаецца кіно (згадаем бліскучыя экранізацыі твораў Сянкевіча рэжысёрам Ежы Гофманам; твораў Акуніна з так званага «фандорынскага цыкла»: «Азазэль», «Турэцкі гамбіт» і «Стацкі саветнік»), іх героі без перабольшвання з'яўляюцца нацыянальнымі сімваламі.

Тое можна ўбачыць у суседзяў. А паміж імі, паміж Польшчай і Расіяй, паміж польскай і ру-

скай гістарычнымі літаратурамі — гістарычная літаратура беларуская, з усімі яе перавагамі і недахопамі. Песімісту яна нагадае *«змрочны лес»*, у якім ён, нібы герой «Боскай камедыі» Дантэ, пражыўшы дагэтуль колькі гадоў пад манаполіяй расійскай гістарычнай літаратуры савецкага перыяду, апынуўся *«пасярэдзіне жыцця зямнога»*, *«не згледзеўшы, куды вядзе дарога»*. Аптымісту, у сваю чаргу, яна нагадае прамень святла ў цёмным царстве, бо ў любым выпадку жанр гістарычнай прозы не зведаў у поўнай ступені ўсіх наступстваў крызісу, што паступова ахапіў айчынную літаратуру напрыканцы мінулага стагоддзя.

Прыгледзеўшыся, можна ўбачыць рэалістычныя моманты ў абодвух супрацьлеглых поглядах. Сапраўды, касмічных накладаў савецкага часу нам ужо ніколі не дасягнуць. Ды і ўвогуле, ці зможа калі-небудзь 10-мільённая Беларусь выпускаць кніжныя навінкі 500-тысячнымі накладамі? Пытанне рытарычнае. Але параўнаем сітуацыю са становішчам у вясковай прозе. У далёкай будучыні яна можа проста знікнуць, калі сыдуць з жыцця апошнія вясковыя жыхары ў традыцыйным, усходнеславянскім разуменні гэтага слова. А вось на гістарычную літаратуру заўсёды будзе існаваць стабільны попыт, які можа толькі павялічвацца ў выпадку павелічэння цікавасці да яе грамадства.

Але як жа зрабіць так, каб яркае, жыццесцвярджальнае сонечнае святло нарэшце з’явілася ў канцы літаратурнага тунэля? Бо пакуль яго сцэны асвятляюцца толькі свечкамі, што трымае ў сваіх руках купка пісьменнікаў, якія працуюць у гістарычным жанры? Што варта і трэба змяніць, каб не беларуская гістарычная літаратура з на-

дзеяй і лёгкай зайздрасцю глядзела на суседзяў, а іх гістарычныя літаратуры, нібы спадарожнікі, арыентаваліся на нашу літаратурную гістарычную планету? Наступныя разважанні аўтара ёсць спроба адказаць на гэтыя пытанні.

Чаго, на першы погляд, не хапае нашай гістарычнай літаратуры? Можа падацца, што **дакладнасці**. Нездарма ў рэцэнзіях прафесійных гісторыкаў на творы гістарычнага жанру заўсёды выкарыстоўваецца адна і тая ж схема. Спачатку словы пахвалы і ўдзячнасці за тое, што пісьменнік узяў на сябе адказнасць асвятліць мала вывучаны, цёмны перыяд гісторыі. Потым адзначаецца шэраг станоўчых рыс твора: добра паказаны галоўныя героі, якія змагаюцца і жывуць не дзеля сябе, а дзеля Айчыны; збольшага перададзена атмасфера часу… Хоць потым спрактыкаванае вока рэцэнзента ўсё роўна знаходзіць пэўныя неістотныя хібы, якіх можна было пазбегнуць — павінен прачытаць пісьменнік паміж радкоў — калі б аўтар прачытаў перад напісаннем твора адпаведную манаграфію, якая (па абсалютна выпадковаму супадзенню) напісана самім рэцэнзентам. У канцы чытач прачытае пра тое, што, нягледзячы на асобныя недахопы, твор чытаецца цікава і абавязкова будзе запатрабаваны чытачамі.

Але перад фіналам усіх чакае яшчэ адзін абзац, дзе з навуковай пунктуальнасцю, матэматычнай выверанасцю і звычайнай чытацкай з’едлівасцю чытачам і аўтарам патлумачаць, што падзеі, пра якія піша аўтар, адбыліся, напрыклад, не ў 1671, а ў 1672 годзе; што адзін з гістарычных персанажаў ну ніяк не мог з’явіцца на старонках рамана, бо ўжо дзесяцігоддзе таму адышоў да прабацькоў; ды

і горад, у якім адбываюцца падзеі, у разглядаемы час быў яшчэ не горадам, а звычайным невялікім паселішчам, якому трэба было праіснаваць яшчэ стагоддзе да атрымання Магдэбургскага права.

Зрэшты, усё залежыць і ад асабістага стаўлення рэцэнзента да аўтара і яго твора. Хрэстаматыйным прыкладам вышэйсказанага з'яўляецца творчасць Уладзіміра Караткевіча, у якой можна сустрэць звычай дзядзькавання (выхаванне шляхціца ў сялянскай сям'і), перанесенае на некалькі стагоддзяў наперад. Прызнаемся шчыра, не быў бы Караткевіч — Караткевічам, добра б яму дасталася ад нашай крытыкі!

Але то памылкі, якія не надта ўплываюць на характар твора і толькі служаць аўтарскай задуме. Ды і акрамя Караткевіча, ніхто з беларускіх пісьменнікаў на такіх дробязях не трапляўся. А вось у нашых суседзяў усё нашмат больш сур'ёзна. Так, Барыс Акунін (у раманах «Стацкі саветнік», «Каранацыя»…) наўмысна назваў брата расійскага імператара Аляксандра III не Сяргеем Аляксандравічам, а Сімяонам Аляксандравічам, што дало падставу для больш вольнага абыходжання з гістарычным матэрыялам. Хто ведаў сапраўднае імя вялікага князя — здагадаліся самі, таму, хто не ведаў, было ўсё роўна. На Захадзе пайшлі яшчэ далей. Напрыклад, Генрых Сянкевіч у сваім знакамітым рамане «Агнём і мячом» пераўтварыў Іярэмія Вішнявецкага, якога гісторыкі лічылі недальнабачным самадурам, у таленавітага палітыка і дыпламата. Той з чытачоў, хто акрамя рамана пабачыў і экранізацыю Ежы Гофмана, згодзіцца, што такія трактоўкі стала ўваходзяць у свядомасць. Але Бог з ім, з Вішнявецкім! Усё нашмат горш,

калі са звычайнага чалавека робяць сімвал забойства і нянавісці. Хто з чытачоў п'есы Шэкспіра «Макбет» скажа хоць слова ў абарону галоўнага героя? Між тым перыяд кіравання сапраўднага Макбета ў сярэдзіне XI стагоддзя, які працягваўся семнаццаць гадоў, лічыўся часам росквіту Шатландыі. Ды і карону ён захапіў хоць і сілай, але не шляхам каварнага забойства, а ў часы грамадзянскай вайны. Таму ў аспекце гістарычнай дакладнасці беларуская гістарычная літаратура (як з-за сваёй маладосці, так і традыцыйнасці) дасць фору шэрагу іншым літаратурам.

Але не дакладнасць з'яўляецца каралевай балю ў гістарычнай літаратуры. Трэба, каб творы чыталіся за адну ноч, каб сюжэт трымаў ад першай да апошняй старонкі. Карацей кажучы, для гістарычных твораў вельмі важныя, а часам і неабходныя такія **літаратурныя вартасці**, як **моцны сюжэт, інтрыга, дынаміка разгортвання падзей**. Але хто будзе сцвярджаць у дачыненні да нашых пісьменнікаў адваротнае?! У гэтым аспекце мы таксама не саступаем сваім канкурэнтам. Разам з тым паміж беларускай, з аднаго боку, і польскай і рускай гістарычнымі літаратурамі, з другога боку, ёсць і адрозненні, якія, на жаль, не заўсёды іграюць на нашу карысць... Якія сілы кіруюць героямі гістарычных раманаў? Што прымушае іх здзяйсняць цуды і змагацца з ворагамі? Гэта можа быць каханне, сяброўства, асабістыя перакананні. Але ў большасці гістарычных твораў усе ўчынкі здзяйсняюцца з-за любові да Радзімы. Усе героі падзяляюцца на станоўчых і адмоўных — па тым, адпавядаюць ці не адпавядаюць іх дзеянні нацыянальнай ідэі.

Як жа гэта праяўляецца на гістарычнай

літаратуры у кожнай з трох разглядаемых намі краін? Героі Генрыха Сянкевіча — Валадыеўскі, Заглоба, Кміціц, Скшэтускі — здзяйсняюць свае подзвігі і пры гэтым застаюцца жывымі, захоўваючы вернасць Айчыне, царкве, каралю і прыўкраснай пані. Да культу жанчыны, які з'яўляецца агульным для ўсіх твораў прыгодніцкага характару, мы яшчэ вернемся. А пакуль што адзначым для сябе пераемнасць польскага светаўспрымання: Польскае каралеўства — Рэч Паспалітая — другая Рэч Паспалітая, што існавала паміж дзвюма сусветнымі войнамі — Рэч Паспалітая трэцяя (сучасная Польшча з пачатку 1990-х). І што змянілася з таго часу? Амаль нічога! Усё засталося — Польшча, палякі, каталіцкая вера, асоба караля (цяпер кіраўніка дзяржавы). Маленькі паляк, што адкрые ў наш час кнігу Сянкевіча, падпішацца пад кожным яе словам, поўным любові да сваёй краіны.

Галоўнага героя Барыса Акуніна — Эраста Пятровіча Фандорына — неўзабаве будзе ведаць усё насельніцтва 1/6 часткі зямной паверхні. І я асцерагаўся б кпіць і з аўтара, і з героя, як робяць гэта асобныя крытыкі, называючы іх звычайнымі вінцікамі ўсемагутнай камерцыйнай літаратуры. Сянкевіча можна таксама абвінаваціць у гэткіх жа грахах, асабліва калі прыгадаць, што ўсе тры раманы яго «Трылогіі» («Агнём і мячом», «Патоп», «Пан Валадыеўскі») напісаны па адной і той жа схеме. Тры галоўныя персанажы — «рыцар», ролю якога па чарзе выконваюць Скшэтускі, Кміціц і Валадыеўскі, чароўная «пані» і «антыгерой — нехрысціянін», нарэшце ў фінале нас чакае абавязковае вяселле рыцара і прыгажуні. Але хто з

чытачоў звяртае на такія моманты ўвагу?

А папулярнасць Фандорына з'явілася дзякуючы руху зусім іншых механізмаў свядомасці, выкліканых, зноў-такі, нацыянальнай ідэяй. Сам Акунін казаў у адным з інтэрв'ю, што Фандорын па тэрміналогіі Канфуцыя — *«высакародны муж»*, для якога галоўным у жыцці з'яўляецца *«абавязак перад... унутраным голасам, або перад Богам, калі ён верэючы чалавек»*. Акрамя таго, Фандорын, на думку Акуніна, *«аб'ядноўвае... тры гістарычныя тыпы — рускага інтэлігента, брытанскага джэнтэльмена і японскага самурая»*, у кожнага з якіх ён бярэ самае лепшае. І што ў рэшце рэшт атрымліваецца? Вернасць Айчыне — ёсць, сваім маральным перакананням, веры (слова «царква» ў дадзеным кантэксце будзе недакладным) — ёсць. Амаль тое, што і ў Сянкевіча. Поўнай вернасці цару (асабліва Мікалаю II) няма — у раманах добра бачна, куды ідзе Расія.

Ёсць вернасць каханню да жанчыны, што патрабуе асобнай гаворкі. Калі шчыры хрысціянін Сянкевіч дараваў кожнаму «рыцару» адзін ідэал, адно каханне, за якое той на працягу рамана паспяхова змагаўся, дык Акунін пайшоў іншым шляхам. У першай кнізе «фандорынскага цыкла» («Азазэль») ворагі забіваюць нявесту Фандорына, у «Алмазнай калясніцы» (перадапошняй па часу напісання, але другой па часу разгортвання падзей) герой перажывае трагічнае каханне, пасля чаго больш не можа па-сапраўднаму кахаць. Пасля гэтага ва ўсіх наступных кнігах не будзе галоўных гераінь — будуць толькі празрыстыя цені, любімыя жанчыны галоўнага героя, ніводная з якіх не зможа закрануць таемныя струны фандорынскага сэрца. І толькі ў «Алмазнай калясніцы» Эрасту Пятровічу зноў даз-

воляць жыць і кахаць…

І зноў-такі, дзейнасць Фандорына, яго жыццё і яго пошукі варта разглядаць, улічваючы яго светапогляд, вернасць яго Расіі — а да таго часу Маскоўскаму княству, Вялікаму Маскоўскаму княству, Маскоўскаму царству, Расійскаму царству, Расійскай імперыі, нават сённяшняй Расіі, куды, згодна з Акунінам, часам трапляюць фандорынскія нашчадкі.

Героі Сянкевіча будуць падаўляць казацкае паўстанне ва Украіне, будуць тапіць яго ў крыві, нават спачуваючы пры гэтым паўстанцам. Пры гэтым яны перакананы, што казакі робяць замах не на іх, а на грамадскі лад, на мілую іх сэрцу Рэч Паспалітую. Таму перыпетыі, звязаныя з выкраданнем зладзеямі-нехрысціянамі галоўных гераінь, толькі падкрэсліваюць непатрэбнасць неспакою, войнаў, паўстанняў… Герой Б. Акуніна будзе ўдзельнічаць у разгроме народніцкіх тэрарыстычных гурткоў, нават усведамляючы частковую слушнасць поглядаў, якія прапагандуюць супернікі. У існаванні гэтых гурткоў ён убачыць замах не на сябе, а на Расійскую імперыю.

**Таму за героямі Сянкевіча будзе стаяць вялікая Польшча, усе пакаленні польскіх дзяржаўнікаў і патрыётаў. Таму за героем Акуніна будзе стаяць вялікая Расія.** Таму чытачы абедзвюх краін будуць чытаць і любіць такія творы.

А што ў такім выпадку адбываецца ў нас? Ці стаяць за героямі беларускай гісторыі іх прашчуры? Відаць, якраз гэты настрой адчуваў у сваім рамане «Пагоня на Грунвальд» Кастусь Тарасаў, калі пісаў, што *«пазіраючы ў неба, Вітаўт быў упэўнены, што і Кейстут, і Гедымін, і Міндоўг зараз сабраліся сюды і лу-*

*наюць над полем бітвы і незямной сваёй сілай гасяць дух немцаў, мацуюць сэрцы сваіх. Не могуць у такі слаўны дзень не з'явіцца, прапусціць урачыстасць, якая чакалася стагоддзямі, не ўбачыць помсты за крыжовыя паходы, за вогнішчы, кроў, пакуты сваіх народаў. Тут дзяды, тут яны ўсе да аднаго, дапамагаюць яму, у кожнага ёсць свая злая памяць на крыжакоў, вось яны носяцца, мільгаюць сярод сцягоў, мячоў, стрэл, чаканаў, кордаў, сярод крыкаў, гулу, бразгату, грому бітвы».*

Несумненна, што такі настрой мог перажываць Вітаўт, які адчуваў духоўную еднасць са сваімі прашчурамі-ліцвінамі. Але ці адчуваюць цяпер яе сучасныя беларускія чытачы? На жаль, далёка не ўсе. І гэта не дзіўна. Калі на ўзроўні факталогіі, на разумовым узроўні мы даўно ўсвядомілі, што ВКЛ — не чужая нам дзяржава, што яе жыхары — нашы далёкія прашчуры, дык людзей, далёкіх ад гісторыі ў сваім паўсядзённым жыцці, у гэтым пераканаць няпроста. І таму калі героі Г. Сянкевіча могуць думаць пра Польшчу, а герой Б. Акуніна — пра Расію, дык Еўфрасіння Полацкая, Усяслаў Чарадзей, князь Вячка і Вітаўт думаць пра Беларусь не могуць проста таму, што тады такой назвы не існавала. Першыя тры героі могуць думаць пра Полаччыну, пра сваё княства, Вітаўт — пра ВКЛ, але для большасці жыхароў Беларусі гэта не адно і тое ж.

Калі нацыя адчувае сваю еднасць з мінулым, дык з гэтага і вынікае яе ўяўленне пра «залатое стагоддзе». Для палякаў падобнаму паняццю з пэўнай доляй умоўнасці адпавядае час, у якім жывуць героі «Трылогіі» (дакладней, толькі яго пачатак, бо польскі ідэал дзяржаўнага ладу істотна пахіснуўся спачатку пасля казацкіх паўстанняў, а потым пасля

войнаў з Расіяй і Швецыяй). Для рускіх, нягледзячы на духоўны застой (*«Победоносцев над Россией простер совиные крыла»*), залатым (зноў-такі, з пэўнай умоўнасцю) можна назваць канец XIX стагоддзя, калі Расійская імперыя атрымала найбольшае тэрытарыяльнае пашырэнне за ўвесь перыяд свайго існавання. Дзякуючы саманазвам абедзвюх нацый, якія не змяняліся доўгі час і трывала ўмацаваліся ў свядомасці, пэўнай гістарычнай настальгіі па далёкіх часах, узроўню цывілізацыйнай амбіцыйнасці абодвух народаў, а таксама выкліканай усімі гэтымі фактарамі абвостранай гістарычнай памяці палякі і рускія без цяжкасцяў асэнсоўваюць сваю непарушную сувязь з тым «залатым часам». А таксама працуюць, змагаюцца, жывуць для новага непазбежнага перыяду росквіту.

Што тычыцца нашага краю, дык позняе замацаванне ў свядомасці назвы «Беларусь», павольнае фарміраванне нацыі і поўнай адсутнасці ў навейшы час цывілізацыйнай амбіцыйнасці прывяло да таго, што «залатое стагоддзе» асацыіруецца ў большасці беларусаў з кіраваннем П. Машэрава ў 1960–1970-я гады, якое яшчэ наўрад ці можа стаць фонам для гістарычных твораў... Увогуле ў беларускай гістарычнай літаратуры адной з магістральных тэм было і застаецца паўстанне К. Каліноўскага. Бо менавіта тады пачынаецца рух *«за сябе»*, за стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы, а не працягваецца курс на аднаўленне Рэчы Паспалітай. Можа, таму дзейнасць Т. Касцюшкі, які выступаў пад апошнімі лозунгамі, толькі параўнальна нядаўна зацікавіла айчынных празаікаў, у прыватнасці Я. Конева? А падзеі 1863 года знайшлі сваё адлюстраванне ў прозе У. Караткевіча, А. Наварыча,

Л. Рублеўскай і шэрагу твораў іншых аўтараў.

Але зварот і да асоб рэвалюцыянераў, і да іншых вызваленчых паўстанняў і рухаў хавае ў сабе пэўную небяспеку. І вось чаму. **Галоўны герой кожнага гістарычнага твора, падпарадкаванага служэнню нацыянальнай ідэі, проста абавязаны служыць ёй, гэтай ідэі, і з'яўляцца яе носьбітам**. Ідэя — неўміручая, героі, на жаль — не заўсёды. Але падыход да гэтага пытання ў разглядаемых намі літаратурах розны. Напрыклад, Барыс Акунін казаў, што *«дапамог свайму герою толькі ў адным — зрабіў яго надзвычай удачлівым. Звычайна чалавек такога, як ён, складу, доўга не жыве. Набор высакародных рысаў істотна ўскладняе выжыванне»*. Такое ж шанцаванне характэрна і для герояў Сянкевіча.

А што мы бачым у асобных творах беларускіх пісьменнікаў? Герой рамана Вітаўта Чаропкі «Храм без Бога» Мацей Кузьміч, губляе каханую і бачыць крах сваіх задумаў. Кастусь Тарасаў адпраўляе на смерць двух галоўных герояў згаданага вышэй рамана «Пагоня на Грунвальд» Андрэя Ільініча і Юрыя, якія раней вярнуліся жывымі з Грунвальдскай бітвы. Прычым Юрыя забіваюць у Чэхіі, а Ільініча — у час міжусобнай барацьбы ў ВКЛ. У той момант яны абаранялі не родную зямлю і сталі разменнымі пешкамі ў чужой гульні. Гераіня рамана Алеся Наварыча «Літоўскі воўк» Аксана пасля паражэння паўстання 1863 года пытаецца ў сябе: *«Няўжо няма нічога іншага, як зміріцца з такім жыццём, жыць, проста жыць?»*.

Нельга сумнявацца, што канцоўка ўсіх трох таленавіта напісаных твораў ёсць асабістая пазіцыя аўтараў, якія такім чынам паказваюць, як нечакана ці, наадварот, звыкла можа змяніць жыццё людзей

лёс. У дачыненні да двух першых твораў можна прыгадаць і той момант, што ў сярэднявеччы жыцці простага чалавека, нават шляхціца, ва ўмовах бясконцых войнаў і сутычак высока не ацэньвалася. Сапраўды, «быў час, быў век, была эпоха…».

Але чаму тады Мацько і Збышка, героі рамана Сянкевіча «Крыжакі» і адначасова сучаснікі герояў К. Тарасава (бо размова ідзе пра адны і тыя ж падзеі) дажылі да глыбокай старасці? А *«Збышка ў росквіце сілаў дачакаўся той шчаслівай хвіліны, калі ў адны вароты выязджаў з Мальбарга са слязамі на вачах магістр крыжакоў, а ў другія на чале войска ўязджаў польскі ваявода, каб імем караля і каралеўства прыняць пад сваю ўладу горад і ўвесь край да сівых хваляў Балтыкі»* (менавіта тады адбылося канчатковае падпарадкаванне Тэўтонскага ордэна Польшчы)? Пасля прачытання «Крыжакоў» чытач убачыць, што змаганне з крыжакамі вялося недарэмна і Польшча атрымала доўгачаканы выхад да мора. А якія думкі напаткаюць чытача «Пагоні на Грунвальд» пасля смерці галоўных герояў? Цалкам магчыма, што яны будуць сугучныя Эклезіясту, які сцвярджаў, што *«ўсё марнасць»*. Дык навошта тады была барацьба? Няўжо ў гэтым у чарговы раз адлюстроўваецца трагічнае светаўспрыманне як беларускіх пісьменнікаў, так і народа, чыю ментальнасць яны адлюстроўваюць?

Не буду сцвярджаць, што **паспяховасць** героя — абавязковая ўмова для кожнага пісьменніка. Хтосьці справядліва нагадае Овада з аднайменнага рамана Э. Войніч, чыя смерць прымушала маладых рамантыкаў прыносіць клятвы аб вечным змаганні з прыгнятальнікамі. Але ў Овада, як ні дзіўна гэта гучыць, не было выбару. Самасвядомасць італьянцаў ужо ў XIX стагоддзі была такой высо-

кай, што кожны юнак не мог нават думаць пра далучэнне да вызваленчага руху ў суседзяў — замест удзелу ў руху італьянскім. У нас бывалі адваротныя выпадкі. У канцы XIX стагоддзя малады юнак, якога клікалі Юзаф Пілсудскі, лічыў сябе беларусам. Праз пэўны час ён стаў палякам і спрычыніўся да аднаўлення незалежнасці Польшчы і станаўлення другой Рэчы Паспалітай. Мы не можам асуджаць яго за тое, што ён далучыўся да пераможцаў. Але колькі талентаў страціла Беларусь такім чынам?

У наш прагматычны час пасля эпохі грамадскіх узрушэнняў падобныя выпадкі не адзінкавыя. Беларусаў трэба прываблівасць беларускасцю і героі-пераможцы лепш за ўсё падыходзяць для гэтай справы. Бо сваё стаўленне да герояў чытач аўтаматычна перанясе на ідэю, за якую яны змагаюцца. Перамогуць героі — раней ці пазней пераможа ідэя. А значыць чытач падсвядома зробіць крок насустрач гэтай ідэі.

Але тут паўстае пытанне: як жа пакінуць герояў пераможцамі, калі некалькі стагоддзяў запар беларусы па чарзе страчвалі ўсё, што мелі? Можна разглядзець некалькі магчымых шляхоў.

Першы шлях прапанаваў Ягор Конеў у сваім рамане «Амерыканская адысея Тадэвуша Касцюшкі», які прысвечаны перыяду знаходжання галоўнага героя ў Амерыцы. Касцюшка, змагаючыся за незалежнасць паўночнаамерыканскіх калоній, дапамог каланістам атрымаць над англічанамі шэраг перамог. Такім чынам, праводзіцца думка пра тое, што поспехам перашкаджаюць не героі, якія, нібыта не здольныя перамагаць, а часовыя і часавыя абставіны, якія з цягам часу могуць змяніцца.

Другі шлях актыўна прапагандуе ў сваёй

творчасці Людміла Рублеўская, у прыватнасці, у паралельным рамане «Золата забытых магіл» і аповесці «Пярсцёнак апошняга імператара». Дзеянне ў іх адбываецца паралельна ў мінулым часе і ў цяперашнім. Нават калі продкі па нейкіх абставінах церпяць часовае паражэнне, дык іх нашчадкі абавязкова выпраўляюць сітуацыю і з аптымізмам глядзяць у будучыню. Таму нават звыклая, абсалютна не гераічная канцоўка «Пярсцёнка апошняга імператара», у якой чытачы даведваюцца, што ранейшы праціўнік беларушчыны *«прыйшоў у бібліятэку, на краязнаўчы гурток»*, разам са сваім сябрам *«прывалок два магільныя крыжы васемнаццатага стагоддзя»*, а *«цяпер у экспедыцыю… папрасіўся»*, дае падставу для аптымізму.

Трэці шлях самы нязвыклы і адначасова няпросты. Бо залежыць ён не ад асобных аўтараў, а ад нас саміх — ад чытачоў. Усе ведаюць, што кожны момант жыцця, кожнае імгненне — гэта ўжо гісторыя. Калі-небудзь наш з вамі час таксама стане тэмай гістарычных апавяданняў, аповесцяў, раманаў. Пісьменнікі, зразумела, — вялікія фантазёры. Але яны абапіраюцца на факты і могуць дадумаць толькі тое, чаго не ведаюць, або не ўяўляюць дакладна. А якія толькі дробязі не фіксуе наш час! Перамог, як і шчасця, ніколі не бывае замала. Таму давайце перамагаць! А потым на пыльных сцяжынках далёкіх планет беларускай мінуўшчыны нашчадкі ўбачаць нашы сляды…

# Працяг рамана «Каласы пад сярпом тваім» — міф або рэальнасць?

*Роздум пра існаванне працягу знакамітага рамана Уладзіміра Караткевіча*

Міфы маюць сваё, уласцівае толькі ім жыццё. Спачатку яны нараджаюцца, распаўсюджваюцца па свету ў выглядзе чутак ці плётак, кімсьці занатоўваюцца на паперу і тым самым прэзентуюцца больш шырокаму колу людзей, жывуць доўгае ці кароткае жыццё. А потым яны ці паміраюць — бо людзі забываюць пра іх існаванне, ці пераходзяць з міфа ў рэальнасць. Але часцей за ўсё яны проста жывуць, выклікаючы захапленне ці нават зайдрасць.

Любы літаратурны міф нібы прываражвае чытачоў і даследчыкаў. Згадаем забытую гісторыю. Размова пойдзе пра магчымае існаванне працягу знакамітага рамана Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім».

Усё бярэ пачатак ад інтэрв'ю У. Караткевіча, якое было змешчана ў газеце «ЛіМ» 21 ліпеня 1967 года пад назвай «Каласы з цагліны». У ім прагучала пытанне: *«У пачатку года «Полымя» абвясціла, што сёлета ў часопісе будзе друкавацца другая кніжка рамана. Значыць, яна ўжо таксама напісана?»*. Пісьменнік адказаў: «*У асноўным так. Уласна кажучы, гэта будзе не другая, а трэцяя і чацвёртая кніжкі, таму што першую я вымушаны быў падзяліць на дзве. Праўда, работа над імі крыху зацягваецца. (…), паступаюць усё новыя і новыя матэрыялы»*.

Думаецца, што гэтыя словы прагучалі не проста так: Караткевіч пабаяўся б сурочыць, казаць на ўсю літаратурную Беларусь пра яшчэ не напісаны твор. Значыць працяг існаваў? Чаму ж ён невядомы сённяшняму чытачу? Той жа Адам Мальдзіс у сваёй кнізе «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» выказаў меркаванне, *«што чарнавік трэцяй і чацвёртай кніг (калі ён існаваў) хутчэй за ўсё знік летам 1982 года»*, калі Караткевіч з жонкай быў у Сімферопалі, і тады абрабавалі іх кватэру.

З гэтым пагаджаюцца не ўсе. Напрыклад, Анатоль Верабей пісаў у сваёй кнізе «Абуджаная памяць», што *«архіўныя матэрыялы не дазваляюць сцвярджаць, што раман быў закончаны»*. Пры гэтым ён прыводзіць наступнае сведчанне. У аўтабіяграфіі пісьменніка, датаванай 1 снежня 1964 года, ёсць наступныя радкі: *«Пасля двух год перапынку здаў у «Полымя» новы свой раман «Каласы пад сярпом тваім». Здаў першы том. Другі не выпускаю з рук, дапрацоўваю. Пастараюся заплаціць гэтай кнігай доўг Дняпру, людзям паўстання 1863 г., Беларусі»*. Трэба заўважыць, што тады падзелу вядомай нам часткі «Каласоў…» не было. Першая частка — гэта тая, якая ўбачыла свет. Другая — гэта менавіта той працяг, які мы шукаем. Яшчэ адзін аргумент на нашую карысць?

Але не. У той жа кнізе А. Верабей прыводзіць яшчэ адну цытату з гэтай жа аўтабіяграфіі: *«Цяпер працую над гістарычным кінасцэнарыем «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»*. Вядома, што яго Караткевіч закончыў 31 сакавіка 1965 года. А ўжо 7 красавіка таго ж года пачаў пісаць аднайменны раман. Атрымліваецца, што як быццам бы і часу, і магчымасці працягваць твор у пісьменніка не было.

Можна згадаць і тое, што на абмеркаванні свайго рамана ў Саюзе пісьменнікаў 22 лютага 1967 года (за паўгода да інтэрв'ю) Караткевіч сказаў: *«Твор яшчэ не закончаны»*. Але што значыць «яшчэ не»? Гэта можна азначаць і тое, што раман пакуль што закончаны на двух першых кніжках, і тое, што працяг «Каласоў» пішацца, але праца зроблена не да канца.

Ёсць яшчэ два факты. У пачатку 1982 года Караткевіч напісаў тагачаснаму дырэктару выдавецтва «Мастацкая літаратура»: *«Абавязуюся здаць канец «Каласоў» М. Ф. Дубянецкаму ў канцы снежня 1982 года. Ул. Караткевіч. 5 сакавіка 82 года. План выхаду — 84 год (83 — рэдпадрыхтоўка). 44 аркушы. На машынцы 1000 старонак. 4 ст. на дзень»*. Анатоль Верабей сцвярджае, што гэты матэрыял, *«асабліва прыпіска ў канцы, сведчыць, што пісьменнік думаў хутчэй за ўсё не пра напісаны твор, а пра яго напісанне»*.

У запісах Уладзіміра Караткевіча захаваліся наступныя радкі, датаваныя 25 кастрычніка 1982 года: *«Так, цяпер складаць зборнік вершаў, а там, можа, калі дасць бог, да вясны рабіць «Каласы». Праўда, час ужо»*. Так, аргументы супраць існавання працягу «Каласоў…» даволі важкія. Але ў тым і сэнс, што гэта не аргументы, а контраргументы. Доказ «ад супрацьлеглага». Нічога крыўднага тут няма. Як па іншаму даказаць існаванне рэчы, якую ты не трымаеш у руках? Толькі праз адмаўленне яе існавання. Значыць, нам трэба знайсці больш важкія аргументы, чым у апанентаў.

Увогуле «Каласы...» у нечым падобныя да гогалеўскіх «Мёртвых душаў». Зразумела, не сваёй праблематыкай. Урыўкі другога тома

знайшліся абсалютна выпадкова: некалькі чарнавых сшыткаў былі знойдзены пасля смерці Гогаля ў шафе, бо заваліліся за кнігі. Дзякуючы гэтаму мы можам убачыць у кнігах частку твора. Паспрабуем зрабіць тое ж з «Каласамі...»: знайсці, а дзе і проста «склеіць» урыўкі і даказаць існаванне працягу знакамітай беларускай кнігі. І зробім гэта ў той паслядоўнасці, у якой гэтыя эпізоды павінны былі з'явіцца ў творы.

Непасрэдны пачатак трэцяй часткі «Каласоў…» у нас ёсць. Гэта рукапіс двух раздзелаў з кнігі «Брань», які быў знойдзены ў 74-й папцы хатняга архіва пісьменніка. У ім апавядаецца пра адзін з дзён жыцця Алеся Загорскага пасля таго, як яго па загаду віцэ-губернатара Ісленьева пасадзілі пад хатні арышт. Такімі падзеямі заканчвалася вядомая нам частка «Каласоў…», імі ж пачыналася новая. На адвароце першай старонкі гэтага рукапісу Караткевіч алоўкам напісаў: *«Пачаў 18 верасня 1964 г. У 11 г. дня. Дагэтуль напісаны былі раздзелы аб Маскве і некаторыя другія»*.

Што разумець пад раздзеламі *«аб Маскве»*? Можна амаль не сумнявацца, што гэта аповесць «Зброя», якая была ўпершыню апублікавана толькі ў пачатку 1980-х. Дзеянне ў ёй адбываецца зімой і вясной 1862 года ў Маскве, куды Алесь, Мсціслаў, Кандрат Кагут і «дзядзька» Кірдун прыязджаюць, каб здабыць зброю для будучага паўстання і вызваліць ад катаргі Андрэя Кагута. А калі ўзгадаць, што дзеянне двух першых раздзелаў пачынаюцца падзеі ў другой палове 1861 года (пасля адмены прыгоннага права), дык атрымліваецца цэласны фрагмент.

Сам Караткевіч пра аповесць «Зброя» казаў наступнае: *«Не. Гэта не працяг рамана, а яго адгалінаванне.*

*Галоўныя героі тыя, але яны дзейнічаюць у іншых умовах іншы раз не зусім так, як табе хочацца».* Але аповесць выглядае як цэльная частка «Каласоў...». Па-першае, як сцвярджае А. Верабей, стыль твора дазваляе *«выказаць думку, што аповесць магла быць напісана ў маі–верасні 1964 года».* А па-другое, маскоўскія раздзелы цалкам адпавядаюць творчым мэтам пісьменніка. З аднаго боку, мэты гэтыя тыпова асветніцкія: пазнаёміць магчыма недасведчанага чытача з гістарычным матэрыялам (такую ролю выконвалі ў першай і другой частках «Каласоў…» сцэны віленскіх вечароў). З другога боку, і пісьменнік, і кожны чытач яскрава ўяўлялі, чым павінен быў закончыцца раман — арыштамі, шыбеніцамі, катаргай. Пра гэта пісаў сам Караткевіч у дадатку да рамана «Замест пасляслоўя»: «*Зараз пачынаецца нешта сур'ёзнае. Пачынаюцца мукі, пакуты асобных, дарагіх мне людзей, і народа, грамады, яшчэ больш мне дарагой, таму што я — кроў з крыві яе. З кожным з гэтых людзей, з кожным чалавекам з гэтай грамады я зрадніўся з самага пачатку дзён сваіх. Пакуты і раны кожнага з іх балюча адгукаюцца ўва мне. Гэтыя людзі, магчыма, сталі больш дарагія мне, чымся мае родныя, стрыечныя і іншыя браты, што загінулі ў войнах. І як мне цяпер — у тысячны раз — перажываць раны і смерць маіх блізкіх?!*». Надзвычай важна было хоць неяк падрыхтаваць чытача да непазбежнай будучыні сваіх любімых герояў. У некаторай ступені, аповесць «Зброя» — гэта першае кола пекла, гэта пачатак узыходжання Алеся Загорскага на сваю Галгофу. Пачатак таго шляху, які ён выбраў сабе сам.

Наступнай, ужо трэцяй па ліку часткай можна лічыць раздзел «Студзеньскім цёмным

світаннем». Ён быў апублікаваны ў «ЛіМе» 1 лютага 1963 года. Заўважым, яшчэ да таго, як Караткевіч закончыў апублікаваны кавалак «Каласоў…» — да 18 мая 1964 года. Значыць, ужо тады ва ўяўленні пісьменніка існаваў план таго, як будуць разгортвацца далейшыя падзеі і, магчыма, былі напісаны некаторыя фрагменты тэксту. Інакш ён на публікацыю гэтага раздзела ніколі б не пайшоў. Дзеянне раздзела адбываецца 27 студзеня 1864 года. У той дзень Кастусь прысутнічае на пакаранні смерцю Франса Раўбіча — швагера Алеся Загорскага.

Такім чынам, паводле слоў У. Караткевіча, працяг рамана існаваў. Ад яго застаўся самы пачатак — першыя два раздзелы і аповесць «Зброя», а таксама адзін раздзел ужо пра канец паўстання — «Студзеньскім цёмным світаннем». Пакуль што ўсё сыходзіцца. Што датычыцца публікацыі «Зброі», дык яе можна патлумачыць наступным чынам: пісьменнік вырашыў надрукаваць хоць частку рамана, праверыць, як адрэагуюць на яго чытачы. Знікненне рукапісу летам 1982 года (калі яно было) канчаткова пахавала надзею ўбачыць працяг надрукаваным….

Вы памятаеце запіс *«дагэтуль напісаны былі раздзелы аб Маскве і…»*. Вернемся да *«некаторых другіх»*. Трох кавалкаў працягу для нас мала. Не хапае яшчэ нейкага ўрыўка, напрыклад, той жа канцоўкі рамана, якая б яскрава засведчыла пра намер Караткевіча закончыць твор. І не толькі пра намер, але і пра тое, што гэты намер быў здзейснены.

Якой жа бачыў канцоўку сам Караткевіч? На абмеркаванні рамана ў Саюзе пісьменнікаў 22 лютага 1967 года ён сказаў наступнае: *«(…).*

*Перад канцом, калі Алесь Загорскі і Корчак ідуць праз пікет пасля замаху на Аляксандра ІІ, іх збіваюць на граніцы, калі яны хочуць перайсці яе. Мне гэты канец падабаецца»*. Ледзь не тую ж самую канцоўку можна ўбачыць і ў чарнавіках пісьменніка: *«Сял. варта. Б'юць. Апошн. позіркам і як вішн. сонца… Серабрыстыя аблокі. Канец»*.

Такой канцоўкі няма ні ў якім вядомым нам творы У. Караткевіча. Твор можа заканчвацца і эпілогам. На першы погляд не падыходзіць і гэта версія, бо падзеі 1866 года (магчымы фінал працытаваны) пісьменнік якраз і назваў «Эпілог? Агонія?».

Згадаем усё напісанае У. Караткевічам, што звязана з паўстаннем 1863 года. Гэта шэраг вершаў, драмы «Кастусь Каліноўскі і «Калыска чатырох чараўніц». У прозе — пралог да рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі», апавяданні «Паляшук», «Сіняя-сіняя…». У пралозе «Леанідаў…» і апавяданні «Паляшук» дзейнічаюць зусім іншыя героі, чым у «Каласах…». А вось апавяданне «Сіняя-сіняя…» патрабуе нашага дэталёвага разгляду.

Яно незвычайнае ўжо з самага пачатку. Тут дзейнічае наш стары знаёмы: Пятрок Ясюкевіч. Упершыню мы сустрэліся ім яшчэ на старонках «Каласоў…». Памятаеце? *«Ясюкевіч гожы, як дзяўчынка… (…). Вочы ў Ясюкевіча не ўмелі хлусіць. Як бы ён ні сваволіў, яны былі простыя і сумленныя, гэтыя вочы»*. У апавяданні ён паўстае як *«былы беларус, былы гімназіст Віленскай гімназіі* (там жа вучыўся Алесь Загорскі. — **Д. М.**), *былы студэнт, былы паўстанец, былы вандроўнік, былы ўдзельнік геаграфічнай экспедыцыі Каміла дэ Брысака. Былы чалавек. Бо тут ляжаў жывы*

*труп»*. Мы сустракаемся з Ясюкевічам у пустыні Сахара, дзе ён разам з маленькай дачкой мясцовага шэйха памірае ад смагі.

Тое, што Ясюкевіч — гэта той Ясюкевіч, якома мы ведалі раней, не выклікае пярэчанняў: тут і ўзгадка пра Віленскую гімназію, і ўспамін пра тое, што яго дражнілі дзяўчынкай. Існуе і яшчэ адно супадзенне, праўда, ускоснае: Ясюкевічу ў час дзеяння апавядання пяцьдзясят два гады. Дзеянне адбываецца ў 1880 годзе. Няхітрая арыфметыка, і высвятляецца, што Пятрок Ясюкевіч нарадзіўся ў 1828 годзе. Ці равеснік ён Алеся Загорскага? Алесь быў у гасцях у цёткі Таццяны Галіцкай у 1850 годзе, бо, паводле яе слоў, *«дваццаць год назад»* стрыечны брат яе мужа, Багдан, *«звязаўся з мяцежнікамі»*. Гаворка тут несумненна ідзе пра Багдана Чорнага Войну і пра паўстанне 1830–1831 гадоў. Праз год пасля паездкі ў госці (1852 год) Алесь з’ехаў вучыцца ў Віленскую гімназію. Тады, як піша аўтар, ён быў *«трынаццацігадовым хлопцам»*. Адымаем ад 1852 года 13 гадоў і атрымліваем год нараджэння Алеся: 1839-ы. Амаль як і ў Петрака. Розніца складае адно дзесяцігоддзе. Падаецца, што гэта зроблена аўтарам наўмысна, каб не даць магчымасці параўнаць апавяданне і «Каласы...».

Згадаем і наступны ўрывак з апавядання «Сіняясіняя…»: *«…Іх прыціснулі тады да Доўгай кручы. І гарматы раўлі, вырываючы мяса, вырываючы людзей, сеючы змрок. А людзі сыпаліся са стромы, падалі ў ваду Дняпра, у сіне-зялёнае прадонне, імклівае і халоднае, аж казытала ў жываце»*. Гэта сведчыць не толькі пра тое, што дзеянне адбывалася ў Прыдняпроўі. Памятаеце нараду ў Яраша Раўбіча ў «Каласах…»?

Якраз там і прамільгнула гэтая ж геаграфічная назва: *«Я павінен паклапаціцца аб умацаваннях Доўгай Кручы, Гарадзішча, Чырвонай Гары, Спароўскіх вышынь, Луцкіх гарбоў і гэтак далей»*. Значыць, на Доўгай кручы і адбывалася бітва. Магчыма, у ёй удзельнічалі і Ясюкевіч, і Раўбіч.

Найвялікшае здзіўленне выклікаюць літаральна некалькі сказаў з таго ж «Сіняга-сіняга…»: *«Загінуў Мацкявічус, загінуў Пацябня, Кастуся Каліноўскага павесілі, Загорскі бадзяецца невядома дзе і, можа, загінуў, маёр Кавецкі расстраляў паўстанца Волгіна»*. Паўстанец Волгін — гэта Сашка Волгін з той самай Віленскай гімназіі, дзе вучыліся Пятрок Ясюкевіч і Алесь Загорскі. Добра, хай наконт Волгіна супадзенне выпадковае. Але што робіць у апавяданні «Сіняя-сіняя…» Загорскі?!

Так, у літаратуры вядомы прыклады, калі аўтар перасяляе сваіх герояў у розныя творы. Уладзімір Караткевіч таксама зрэдчас паўтараў знаёмыя прозвішчы: то тут, то там у яго сустракаюцца то Грынкевічы (з «Леанідаў…»), то Ракутовічы (з «Сівой легенды»). Але выпадак з Алесем Загорскім асаблівы. Гэта АЛЕСЬ ЗАГОРСКІ! Герой, напэўна, самага любімага чытачамі рамана Уладзіміра Караткевіча. І ці варта было згадваць пра яго без асаблівых падстаў?

Знарок нагадаем час напісання апавядання «Сіняя-сіняя…». Пісьменнік закончыў яго 14 лютага 1964 года. Памятаеце, я абяцаў вярнуцца да *«некаторых другіх»* раздзелаў, якія мы пакінулі без разгляду, а падрабязна абмеркавалі *«раздзелы аб Маскве»*? Мне здаецца, што гэта апавяданне — і ёсць тыя раздзелы — *«некаторыя другія»*! Яны падыхо-

дзяць і па часу напісання, і па некаторых прыкметах, пра якія я казаў вышэй. Такім чынам, можна зрабіць выснову, што **апавяданне «Сіняя-сіняя…» — эпілог рамана «Каласы пад сярпом тваім»**.

Чаму ж тады ў самым канцы рамана мы развітваемся менавіта з Петраком, а не з Алесем? Аўтар піша, што пасярод пустыні змагаўся за жыццё *«былы чалавек. Бо тут ляжаў жывы труп»*. Але хіба можна дапусціць каб гэтым трупам быў Алесь?! Гэта быў бы занадта вялікі здзек з чытачоў.

Зноў звернемся да інтэрв'ю Уладзіміра Караткевіча Адаму Мальдзісу. Там прагучала наступнае пытанне: *«Некалькі слоў аб тым, што будзе ў апошніх двюх кнігах. Які фінал рамана?»* Паслухаем яго адказ, пазбаўлены канкрэтыкі, але ад гэтага не менш важкі: «*Крах усіх спадзяванняў, усіх ілюзій і — нават у гэтых абставінах — чалавечая нязломнасць! Паўстанне пацярпела паражэнне, але мужнасць — засталася. А значыць, засталося і спадзяванне, што чалавек, свабода і народ — выжывуць! Найбольш поўна гэтая думка праведзена на прыкладзе Алеся Загорскага»*.

Гэтыя словы неаднойчы ўзгадваліся, калі я перачытваў апавяданне «Сіняя-сіняя…». Пятрок Ясюкевіч, па сутнасці, адмаўляецца ад Радзімы. Не, ён усё роўна любіць яе. Але ўжо не так, як раней. Ён адмаўляецца ад змагання за яе свабоду, адмаўляецца ад магчымага вяртання: *«Не, вяртання не будзе. Вялікая Афрыка забрала яго ў палон. У шэрым цараванні смерці, між пірамідаў, між вялікім Хеопсам і вялікім Хефрэнам ён падумаў аднойчы аб радзіме і аб яе лёсе — і гэта быў пачатак канца.*

*Маленькая краіна, уся пісаная гісторыя якой налічвала восемсот год, з якіх трыста сама не ведала, хто яна та-*

*кая. Вартыя жалю спробы нешта зрабіць, некуды кінуцца. Спробы дзеяння, падобныя на валтузню верабейкі ў вekнікax. Лухта і марнасць марнасцей!*

*Ну і што? Ну, нават каб і адолелі чыгунную сілу? Каб адступіўся цар? Усё адно людзі гінуць і народы гінуць, і працэс гэты няўхільны, а на зямлі не застаецца нічога, акрамя магіл. І мізерная, нязначная думка чалавека побач са сфінскам, побач з ноччу і цішынёй, побач з вялікім цараваннем магіл».*

Настрой героя пачынае паволі змяняцца падчас размовы з Джамілёй, дачкой мясцовага шэйха. Спачатку Пятрок адказвае, нібы сцяўшы зубы: *«Яму не хацелася гаварыць пра так званую «сваю зямлю», але так дзяўчынка лепей забывала пра смагу. І таму ён гаварыў, нібы каменьчыкі ў глотцы варочаў.*

*— Зялёная. А калі глядзець з узгоркаў, то нават сіняя.*

*— Сіняя? — захоплена спытала яна. — Сіняя-сіняя?*

*— Сіняя-сіняя, — сказаў ён».*

Чароўнае сугучча слоў *«сіняя-сіняя»*, сказанае пра родную зямлю, будзе гучаць рэфрэнам, будзе паўтарацца ўсё часцей і часцей.

А потым здараецца цуд: «*І тут гэтыя словы нібы нешта адпусцілі ў ім. Нібы прарвалася нешта даўняе, даўкае, гнятучае. І ён заплакаў. Бязгучна. Толькі слёзы каціліся па шчоках.*

*— Раскажы, — ціха папрасіла яна.*

*І ён расказваў. І паступова знікала вымушаная беднасць мовы, знікаў некуды семнаццацігадовы душны праклён, знікала чыгунная туга. Ён расказваў, і перад абмытымі вачыма, далёкае, жывое, уставала тое, што ён тысячу разоў бачыў і адначасова нібы пазнаваў першы раз. Крыжы на ростанях, вёскі ў барвяных каралях арабін, чырвоная шыпшына ля дарог, начлежныя коні*

*ў тумане. Балоты, імшары, балоты. Мястэчкі сярод сініх лясоў, мосцікі над начнымі ручаінамі. Сінія-сінія-сінія паплавы. (…)*

*Недзе там, за пустыняй, за морам, была другая зямля. І ён не мог без яе. Яе не было тут, але яна была.*

*З атлусцелымі панамі, з бяздушнымі ўладарамі душ, з хлуснёй, са спаласаванымі мужыкамі, з апляванай, забароненай мовай.*

*Але яшчэ і з паплавамі, і з сінімі вербалозамі на берагах рэк. Няхай няшчасная, няхай забітая і абылганая, але свая, найлепшая на свеце, сіняя, чыстая, як першае каханне, да якога не прыліпае ніякі бруд, як бы ён ні цягнуўся.*

*Джаміля думала, што ён з'явіўся з казкі… Гэта праўда… І трэба ратаваць казку, пакуль яна казка, а не пустыня. Трэба біцца за яе нават з самім д'яблам і памерці на яе зялёных лугах, прыгажэйшых за ўсё на зямлі.*

*Вяртанне. Толькі вяртанне. Няхай там нікога няма. Камусьці трэба пачаць».*

Гэтыя словы адны з апошніх у апавяданні «Сіняя-сіняя…». І адначасова, на маю думку, у рамане «Каласы пад сярпом тваім». У апошніх радках твора сцвярджаецца, што *«за градою дзюн пачулася чыстае плясканне мазолістых вярблюджых ног»*. І гэта дае нам надзею на тое, што вяртанне і Петрака, і, можа быць, самога Алеся Загорскага стане рэальнасцю.

# Змест

